ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 6 (2532)
ПЯТНІЦА
5
лютага 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Фота Ул. КРУКА.

«Мінскі напрамак», «Людзі на балоце», «Подых навальніцы»... Каму сёння не вядомы гэтыя творы! Без іх нельга ўявіць сучасную беларускую літаратуру. Творы гэтыя напісаны рукою таленавітага мастака, шырока прызнанага ў рэспубліцы і далёка за яе межамі майстра эпічнай прозы — Івана Мележа.

8 лютага Івану Паўлавічу — 50. Шматлікія прыхільнікі шчодрага таленту пісьменніка шчыра вітаюць яго з высокім поўднем!

Матэрыялы, прысвечаныя юбілею І. Мележа, чытайце на стар. 4—5.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

# ад пятніцы да пятніцы

## ВЯЛІКІ ПОСПЕХ ВЫСТАЎКІ

**Вось ужо дваццаць дзён у Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрыта выстаўка работ народнага мастака БССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтваў СССР З. І. Азгура. У залах музея экспануецца 170 скульптурных твораў, якія ўслаўляюць прыгажосць савецкага чалавека — воіна і стваральніка, творцы светлага камуністычнага грамадства. Выстаўка мае вялікі поспех у мінчан і гасцей беларускай сталіцы. За гэтыя дні на ёй пабывала каля 6 тысяч чалавек.**

**1 лютага выстаўку наведалі тт. П. М. Машэраў, С. О. Прытыцкі, Ц. Я. Кісялёў, У. Е. Лабанок, І. М. Макараў, У. Ф. Міцкевіч, С. А. Пілатовіч, І. Я. Папякоў, А. А. Смірноў, Ф. А. Сурганаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў, міністр культуры БССР М. А. Мінковіч.**

**БЕЛТА.**

*ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!*

За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў пісьменніка Шамякіна Івана Пятровіча ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

## СВЯТА КНІГАЛЮБАЎ

*Сход прадстаўнікоў грамадскасці Мінска, прысвечаны 50-годдзю выдавецтва «Беларусь»*

Глядзельная зала Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы перапоўнена. Адзначыць паўвекавы юбілей старэйшага ў рэспубліцы выдавецтва прыйшлі работнікі выдавецтваў, паліграфічных прадпрыемстваў, кніжнага гандлю, пісьменнікі, журналісты, дзеячы мастацтва.

Урачысты сход, прысвечаны гэтай знамянальнай падзеі, адкрыў уступным словам старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. Канавалаў.

Зачытваецца Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб узнагароджанні выдавецтва «Беларусь» Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Высокую ўзнагароду ўручае дырэктару выдавецтва З. Матузаву Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР С. Прытыцкі. Ён сардэчна вітае калектыў выдаўцоў з узнагародай, жадае ім новых поспехаў у працы.

З дакладам пра паўвекавы шлях выдавецтва «Беларусь» выступіў З. Матузаў.

Юбіляра на сходзе цёпла віталі намеснік начальніка Галоўнага упраўлення рэспубліканскіх і абласных выдавецтваў Камітэта па друку пры Савеце Міністраў СССР Ц. Барашкаў, ад рэдакцыйнай калегіі газеты «Правда» — уласны карэспандэнт газеты па Беларусі І. Новікаў, ад Саюза пісьменнікаў БССР — сакратар праўлення Саюза І. Шамякін, ад міністэрства культуры БССР і прафсаюза работнікаў культуры — старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры Л. Паміла, ад Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку — намеснік старшыні камітэта А. Барушка, ад журналістаў рэспублікі — член прэзідыума праўлення Саюза журналістаў БССР, рэдактар газеты «Знамя юности» В. Чанін, ад паліграфістаў рэспублікі — дырэктар Мінскага паліграфкамбіната імя Я. Коласа Г. Шаўчэнка, ад работнікаў кніжнага гандлю — сакратар камсамольскай арганізацыі Мінскага аблкнігагандлю Т. Цюліна. На сходзе былі зачытаны шматлікія прывітальныя тэлеграмы, якія паступілі ў адрас юбіляра.

На сходзе прысутнічалі сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Сняжкова, загадчык аддзела ЦК КПБ А. Кузьмін, першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Максім Танк.

## НОВЫ НАРОДНЫ

*За высокае выканаўчае майстэрства і плённую работу ў мастацкім выхаванні насельніцтва калегія Міністэрства культуры БССР прысвоіла званне НАРОДНАГА самадзейнаму ансамблю танца «Палессе» Пінскага гарадскога Дома культуры.*

□

**Ансамбль танца «Палессе» створаны на аснове танцавальнага самадзейнага калектыву, які выступаў з пяцьдзесят шостага года. Калектыў удзельнічаў у многіх абласных і рэспубліканскіх аглядах мастацкай самадзейнасці, у дэкадах і фестывалях. Выязджаў з канцэртамі дружбы ў Люблінскае ваяводства Польскай Народнай Рэспублікі, на ВДНГ. Вельмі часта калектыў выступае перад працоўнымі свайго і суседніх раёнаў. Добра наладжаная вучэбна-выхаваўчая работа і прадуманы падбор рэпертуару далі магчымасць стварыць канцэртную праграму з двух аддзяленняў, у якую ўваходзяць «Прывітальны танец», «Лявоніха», танцавальны малюнак «Ля ваколіцы» і іншыя беларускія, рускія, украінскія, малдаўскія танцы. У канцэртах ансамбля прымае ўдзел мужчынская вакальная група, якая выконвае беларускія народныя песні, песні Ю. Семянякі, Н. Сакалоўскага, І. Любана і інш.**

**Цяпер ансамбль працуе над харэаграфічнымі кампазіцыямі «Яго вялікасць рабочы клас», «Набат Хатыні», і «Маракі-дняпроўцы».**

## ГОСЦІ — В'ЕТНАМСКІЯ СКУЛЬПТАРЫ



**Амаль тыдзень гасцілі ў Мінску тры в'етнамскія скульптары — Зьен Мінь Цёу, Нгуен Фыох Шань, Ле Фінь Куі. «Мэта нашай паездкі, — сказаў кіраўнік групы Зьен Мінь Цёу, — пазнаёміцца з работай беларускіх скульптараў, якія шмат і плённа працуюць над увасабленнем тэмы героікі партызанскай барацьбы. Гэтая тэма блізкая і нам, в'етнамскім мастакам, бо сёння ў нас, як некалі ў Беларусі, палаюць вёскі, гінуць мірныя жыхары, жанчыны, дзеці, старыя, бо і ў нас, як некалі ў Беларусі, кожны, хто лічыць сябе патрыётам, сумленным чалавекам, бярэцца за зброю, каб помсціць нелюдзям-інтэрвентам, каб змагацца за шчасце і свабоду свайго народа».**

**У в'етнамскіх мастакоў была вельмі насычаная праграма: яны сустракаліся з беларускімі скульптарамі, наведвалі творчыя майстэрні, выстаўкі, пабывалі ў Хатыні.**

**— Мемарыял у Хатыні — выдатны помнік, — сказаў Ле Фінь Куі. — Нам ён вельмі блізкі і зразумелы і сваёй жалобнасцю, і мужнасцю.**

**На здымку нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука — в'етнамскія мастакі ў майстэрні скульптара Г. Мурамцава.**

# ЗАЎСЁДЫ Ў ПОШУКУ

### УРАЧЫСТЫ ВЕЧАР, ПРЫСВЕЧАНЫ 50-годдзю І. ШАМЯКІНА

Вечарам 29 студзеня ў рэспубліканскі Дом мастацтваў прыйшлі пісьменнікі, вучоныя, артысты, прадстаўнікі арганізацый і ўстаноў сталіцы, партыйныя і камсамольскія работнікі, госці з Масквы, Кіева, Ленінграда, каб ва ўрачыстай абстаноўцы павіншаваць з 50-годдзем выдатнага пісьменніка Савецкай Беларусі, актыўнага грамадскага і партыйнага дзеяча, лаўрэата дзяржаўных прэмій—саюзнай і рэспубліканскай — Івана Пятровіча Шамякіна.

Урачысты вечар адкрыў старэйшы майстар нашай літаратуры, народны пісьменнік Міхась Ціханавіч Лынькоў.

— Мне надзвычай прыемна, — гаворыць ён, — паведаміць усім прысутным, што наш паважаны юбіляр за вялікую і плённую літаратурную дзейнасць і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем узнагароджаны савецкім урадам ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

М. Лынькоў, характарызуючы асноўныя этапы ў творчасці юбіляра, падкрэслівае, што І. Шамякін увесь час дастойна ўслаўляе гераічную барацьбу нашага народа ў імя вялікага будучага чалавецтва — камунізма.

Са словам пра Івана Шамякіна, яго жыццёвы і творчы шлях выступіў Іван Навуменка.

— Пакаленне, — гаворыць ён, — якое ў юнацкім узросце сустрэла Вялікую Айчынную вайну і ад імя якога так хараша, звонка, на поўныя грудзі загаварыў Іван Пятровіч Шамякін, мы неяк прызвычаіліся лічыць маладым. Можа, ішло гэта ад таго, што людзі, якія бралі ўдзел у вайне, якія, прайшоўшы вогненныя віхуры, засталіся жывымі, псіхалагічна былі як бы прыкаваны да гэтай агромністай падзеі, вярталіся да яе зноў і зноў і як бы нанава праходзілі сцежкамі маладосці.

Нагадаўшы асобныя моманты з біяграфіі Івана Пятровіча, І. Навуменка працягвае: — У кожнага пісьменніка ёсць улюбёная кніга. У Шамякіна — гэта «Трывожнае шчасце». Аповесці «Непаўторная вясна», «Агонь і снег», «Мост», якія вызначаюцца высокім мастацкім узроўнем, мяккім лірызмам, глыбокім псіхалагізмам, — у значнай меры творы аўтабіяграфічныя. Аповесці гэтыя — добрая, пранікнёная споведзь пакалення, да якога належыць сам пісьменнік. Тут ёсць цудоўная рамантыка маладосці, першага кахання, юнацкага роздуму аб жыцці. Пахне тут прасторамі Прыдняпроўя, водарам лясоў і сенажацей, нібы зрокава паўстаюць перад намі краявіды суровай Поўначы. Пра герояў названых аповесцей можна сказаць, што яны дзеці рэвалюцыі і дзеці вайны. З малаком маці ўспрынялі яны ідэалы Савецкай улады, якая расчыніла перад імі жыццёвыя дарогі, далягляды, дала магчымасць выявіць свае здольнасці. Менавіта тут вытокі таго бяспрыкладнага ў гісторыі гераізму, які праявілі савецкія пакаленні ў Вялікай Айчыннай вайне. Панёсшы велізарныя страты, ахвяраваўшы мільёнамі жыццяў, адолеўшы пасляваенныя нягоды, савецкая моладзь мінулай вайны ў сваім светаўспрыманні нават аддалена не нагадвала «згубленае пакаленне» першай сусветнай вайны, апетае Рэмаркам.

Вясной 1948 года быў закончаны раман «Глыбокая плынь». Дзеля таго, зазначае І. Навуменка, каб напісаць гэту кнігу, Шамякін здзейсніў сапраўдны пісьменніцкі подзвіг. Ён абыйшоў пехатой ледзь не ўсё Гомельскае Прыдняпроўе, пагаварыў з дзесяткамі людзей і ўражанняў меў столькі, што яны далёка не ўмесціліся ў «Глыбокую плынь».

Прамоўца падрабязна спыняецца на характарыстыцы такіх твораў І. Шамякіна, як раманы «У добры час», «Крыніцы», «Сэрца на далоні», «Снежныя зімы», аповесць «Лёс майго земляка», адзначае прыкметны ўклад юбіляра ў беларускую Ленініяну.

— Іван Шамякін,—гаворыць у заключэнне І. Навуменка,—пісьменнік вострага сацыяльнага зроку. Вось ужо чвэрць стагоддзя кожная новая яго кніга выклікае бурныя спрэчкі, становіцца прадметам дыспутаў, абмеркаванняў. Прычына, мабыць, у тым, што пісьменнік востра, умела расказвае аб сучаснасці, аб сённяшнім дні. Калі ў некалькіх словах сказаць аб самым галоўным у творчасці Івана Шамякіна, то гэтым галоўным будзе тонкае разуменне таго, што вырасла ў светаадчуванні, у характарах людзей, выхаваных ва ўмовах савецкай, сацыялістычнай рэчаіснасці.

Са шчырым і цёплым словам да юбіляра звярнулася сакратар Мінскага гаркома партыі Т. Ц. Дзмітрыева.

— Бюро гарадскога камітэта партыі і гарвыканком,—гаворыць яна,—даручылі мне ўручыць вам памятны адрас, пажадаць вам моцнага здароўя і плённай творчай працы на карысць нашага сацыялістычнага грамадства.

Без вашых твораў немагчыма ўявіць сабе беларускую савецкую літаратуру. Напісаныя таленавітай рукой сапраўднага майстра, вашы кнігі даследуюць жыццё з пазіцый высокай грамадзянскасці. У кожным радку адчуваецца палымянасць пісьменніка-камуніста, які верна служыць ідэям партыі, справе народа.

Ад імя дэлегатаў 17-й Мінскай абласной партыйнай канферэнцыі глыбокую ўдзячнасць і прызнанне Івану Шамякіну выказаў сакратар Мінскага абкома партыі Ул. С. Багданаў. Чуйнасць да карэнных праблем і штодзённых людскіх клопатаў, зазначае ён, высокае літаратурнае майстэрства робяць вашы раманы, аповесці, п'есы, апавяданні надзвычай папулярнымі, выхоўваюць чытачоў у духу камуністычных ідэалаў.

Мы ведаем і цэнім не толькі вашу пісьменніцкую, але і вялікую грамадскую дзейнасць як дэпутата Вярхоўнага Савета БССР, члена Мінскага абкома партыі, сакратара праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі. Упэўнены, што і ў дні падрыхтоўкі да XXIV з'езда КПСС, XXVII з'езда КПБ і заўсёды ваш голас будзе шчодра

Алесь КУЧАР




ТВОРЧАЯ ТРЫБУНА



## ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ І ДЗЕНЬ НАСТУПНЫ

У святле вялікай падзеі ў жыцці савецкага народа — надыходзячага XXIV з'езда Кампартыі Савецкага Саюза — ёсць пільная неабходнасць разабрацца ў тым, якое месца займае ў нас сучасная тэма. Твораў пра сучаснасць у нашых часопісах за мінулы год з'явілася не шмат, але ёсць тут і шырокія палотны. Надрукаваны раман «Мсціжы» Івана Пташнікава, аповесць «Зноў у Будневе» Анатоля Кудраўца, дакументальная аповесць «Металургі» Алеся Савіцкага, нарыс «Па зялёную маланку» Янкі Сіпакова, апавяданні «Шчасце» Міколы Ракітнага, «Ракі» Васіля Хомчанкі, «Салавей» Міхася Вышынскага, «Сакратарыха» Івана Сіняўскага, тры апавяданні Алеся Пальчэўскага, «Жыві» Міколы Капыловіча, «Вера Мікалаеўна» і «Бэзавы цвет» Лідзіі Арабей, «Нотны хлопец» Аркадзя Савелічава, «Аліна» Аркадзя Пінчука і шмат іншых.

Але ці толькі гэтыя творы, напісаныя пра сённяшні дзень, можна назваць сучаснымі? Мне здаецца, калі твор адлюстроўвае праблемы жыцця

гучаць у нашай беларускай савецкай літаратуры, што вы і надалей будзеце палымяным прапагандыстам ідэй партыі, актывістам грамадскага жыцця.

— Ваша маладосць і пачатак літаратурнай дзейнасці, — гаворыць сакратар Ленінскага райкома партыі горада Мінска Р. С. Піонава, — супалі з цяжкімі гадамі ў жыцці беларускага народа — Вялікай Айчыннай вайной. Гэта быў час фарміравання вашых поглядаў і пачуццяў, школа мужнасці. За перыяд сваёй літаратурнай дзейнасці вы ўнеслі дастойны ўклад у развіццё беларускай савецкай літаратуры, вашы кніжкі па праву ўвайшлі ў скарбніцу беларускай прозы. Шырокую вядомасць не толькі ў нашай рэспубліцы, але і за яе межамі набылі вашы творы «Глыбокая плынь», «Сэрца на далоні» і іншыя, дзе з вялікай мастацкай сілай паказаны гераізм і мужнасць беларускага народа, раскрыты веліч яго духу і адданасць справе Камуністычнай партыі...

Сардэчна і горача віншавалі юбіляра першы сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР народны паэт Беларусі Максім Танк, намеснік сакратара па літаратурах народаў СССР праўлення Саюза пісьменнікаў СССР Міхась Гарбачоў, рускі паэт Віктар Бокаў, украінскі пісьменнік Багдан Чалы, навучэнцы Мінскага сувораўскага вучылішча Ул. Мальцаў, А. Немагай і Г. Паншын, міністр культуры БССР М. А. Мінковіч, сакратар ЦК ЛКСМБ Генадзь Анціпаў, намеснік міністра асветы БССР Г. І. Канцавая, сакратар Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў М. Л. Дубкова, старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. В. Канавалаў, рэктар Мінскай вышэйшай партыйнай школы М. І. Пахомаў, намеснік начальніка палітупраўлення ЧБВА Ул. А. Захараў, намеснік міністра вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі БССР М. І. Красоўскі, рэдактар газеты «Звязда» М. І. Дзялец, намеснік міністра ўнутраных спраў БССР Шкундзіч, пісьменнік Яўген Каршукоў, які жыве і працуе ў Гомелі, намеснік старшыні прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі В. А. Чарняўская, народная артыстка СССР Л. П. Александроўская, дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, дырэктар тэатра імя Янкі Купалы заслужаны дзеяч культуры рэспублікі І. Ф. Міхалюта, намеснік старшыні праўлення Саюза архітэктараў БССР Ю. П. Грыгор'еў, старшыня праўлення Саюза мастакоў Беларусі В. А. Грамыка, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» пісьменнік Алесь Асіпенка, галоўны рэдактар часопіса «Вожык» пісьменнік Уладзімір Корбан.

Галоўны рэдактар часопіса «Нёман» драматург Андрэй Макаёнак зачытаў віншавальныя тэлеграмы, якія паступілі ў адрас юбіляра ад шматлікіх арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў, калектываў і асобных чытачоў з розных куткоў Беларусі і братніх рэспублік.

У канцы вечара са словам у адказ выступіў Іван Пятровіч Шамякін.

— Дарагія таварышы! Дарагія сябры! — звярнуўся ён да прысутных.— Нядаўна я недзе прачытаў, што пісьменніку ўсё творчае жыццё прыходзіцца трымаць экзамен. Як вечнаму студэнту. Гэта сапраўды так. Кожная кніга, кожны новы твор і, нарэшце,



Юбіляра віншуе галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Алесь Асіпенка (злева).

кожная сустрэча з чытачамі ў любой іншай форме — гэта экзамен. І такое ж хваляванне, як у студэнта, толькі, відаць, больш працяглае і моцнае. Адным словам, усё жыццё на нервах.

Праўда, усе мы розныя, як чалавечыя асобы. Адны стараюцца трымаць гэты экзамен перад крытыкамі. Іншыя ж аддаюць перавагу чытачам, перад імі экзаменуюцца. Я, напэўна, належу да апошніх. Ведаю, што некаторыя крытыкі-прафесіяналы такім пісьменнікам кідаюць папрокі: маўляў, працуюць на чытача. Але што зробіш — такая асаблівасць, народжаная ці выхаваная — цяжка сказаць. Я — грэшны, каюся — стараўся працаваць на чытача. Па прыкладу партыйных прапагандыстаў. Відаць, сапраўды гэта выхавана ў мяне, бо я ўсё жыццё быў прапагандыстам: сакратаром камсамольскага бюро ў тэхнікуме, камсоргам і парторгам у арміі, сакратаром партарганізацыі ў сельсавеце, сакратаром партбюро СП і, нарэшце, пасада сакратара праўлення СП, якую я займаю многа год — гэта таксама ў пэўнай меры абавязкі партыйнага прапагандыста ў творчай арганізацыі.

А біяграфія пісьменніка не можа не адбівацца на яго творчасці.

Некаторыя мае сябры часам раяць: «Навошта табе гэтая грамадская работа? Літаратурнае імя ў цябе ёсць. Сядзі і пішы». Спакуслівая парада. Але часам цішком уначы ўяўляеш сябе ў такой ролі і халадзееш. «А пра што пісаць тады, — думаеш, — калі замкнуцца дзе-небудзь на дачы, адарваць сябе ад звыклай стыхіі?»

Відаць, каб тварыць нешта вартае ўвагі чытачоў, пісьменніку трэба жыць жыццём гэтых чытачоў — сваіх сучаснікаў.

Я трохі паездзіў па свеце, гаворыць далей І. Шамякін, быў у розных краінах, сустракаўся з пісьменнікамі іншых народаў. І з гэтых гутарак, гэтак жа, як з літаратуры, я пераканаўся, што нідзе ў свеце не створаны такія ўмовы для росквіту талентаў, як у нас, нідзе пісьменнік, мастак не акружаны такой увагай, клопатам на самым высокім дзяржаўным узроўні, як гэта робіцца ў нашай шматнацыянальнай савецкай краіне.

Узнагароджанне мяне ордэнам, як і многіх маіх таварышаў, якія ўжо адзначалі круглыя даты свайго жыцця — адно са сведчанняў гэтых клопатаў, гэтай увагі.

Вось чаму, выкарыстоўваючы трыбуну гэтага вечара, мне хочацца яшчэ і яшчэ раз і ад свайго імя і ад імя ўсіх маіх калег выказаць сардэчную падзяку Камуністычнай партыі, яе Цэнтральнаму Камітэту, Савецкаму ўраду.

Ад сябе асабіста я хачу сёння падзякаваць старэйшым таварышам, сваім настаўнікам, якія выводзілі мяне ў людзі, вучылі і жыць і пісаць — Міхасю Лынькову, Кандрату Крапіве, Петрусю Броўку, Васілю Вітку, Ільі Гурскаму, Максіму Танку, Піліпу Пестраку.

Словы любві і ўдзячнасці звяртае Іван Шамякін да рускіх, украінскіх сяброў, да перакладчыкаў, выдаўцоў, чытачоў усіх савецкіх рэспублік. Дзякуючы рускім і ўкраінскім выданням, гаворыць ён, я маю мільённыя тыражы, пра што не можа марыць ніводзін пісьменнік нават у такіх вялікіх краінах, як Англія, Японія, Італія. Я кажу пра гэта не таму, што хачу пахваліцца сваімі тыражамі. Не. У гэтым адзіночным факце праяўляецца глыбокі сэнс нашага саюза, нашага братэрства, еднасці, дружбы і ўзаемаўплыву сацыялістычных культур.

Я дзякую ўсім вам, хто прыйшоў на гэты вечар, каб прыняць ад мяне яшчэ адзін экзамен, які па сіле майго хвалявання і важнасці гэтага моманту варта назваць дзяржаўным...

Вечар закончыўся канцэртам майстроў мастацтваў рэспублікі.

На вечары, прысвечаным 50-годдзю Івана Шамякіна, прысутнічалі сакратар ЦК КПБ С. А. Пілатовіч, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР І. Ф. Клімаў, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцэлеў.

# КАРЫСНАЯ САДРУЖНАСЦЬ

## З ПАСЯДЖЭННЯ КАЛЕГІІ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ БССР

**Калегія Міністэрства культуры БССР абмеркавала работу культасветустаноў Пінска і Пінскага раёна па падрыхтоўцы да XXIV з'езда КПСС. Было адзначана, што ўстановы культуры горада і раёна працуюць мэтанакіравана, творча, з поўным напружаннем сіл. Наглядаецца добрая і шчырая садружнасць і ўзаемадапамога паміж работнікамі гарадскіх культурна-асветных устаноў і сельскіх, паміж гарадскім аддзелам культуры і раённым (загадчыкі І. Збароўскі і І. Паўлюкавец).**

**Гарадскім Домам культуры, яго калектывамі мастацкай самадзейнасці летась было паказана семдзесят пяць канцэртаў, з іх больш паловы — на сяле. З дапамогай работнікаў гарадскога Дома культуры зусім нядаўна былі створаны яшчэ тры калектывы мастацкай самадзейнасці — на камбінаце верхняга трыкатажу, ліцейна-механічным заводзе і ў аўтобусна-таксаматорным парку. Усяго ў горадзе зараз працуе 180 гурткоў, якія аб'ядноўваюць больш сямі тысяч аматараў мастацкай творчасці.**

**Зараз у гарадскім Доме культуры праводзяцца вечары ўшаноўвання пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва ў мінулай пяцігодцы, кавалераў ордэна Леніна, вечары «Ад з'езда да з'езда», «Камуністы, наперад!», «Партыя, слухай голас тваіх сыноў». Адзін раз у квартал у гарадскім Доме культуры праводзіцца семінар усіх сельскіх культасветработнікаў. Кожны месяц тут праходзяць стажыроўку па пяць-дзесяць сельскіх клубнікаў. Шмат цікавых вечароў у сельскіх культасветустановах праводзіцца па распрацоўках, зробленых у гарадскім Доме культуры.**

**Народны тэатр, хор палескай песні, народны танцавальны ансамбль «Палессе» амаль кожны тыдзень выязджаюць у калгасы і саўгасы, трымаюць перад працаўнікамі палёў і ферм справаздачу за свае апошнія дасягненні. Нядаўна ў паход па сёлах у дваццаты раз накіравалася з новай праграмай агітбрыгада гарадскога парку культуры і адпачынку. У сваю чаргу раённы Дом культуры, які размешчаны ў Малатковічах, арганізаваў «Агітпоезд раённага аддзела культуры і райкома камсамола», а пры сельскіх клубах яшчэ сем агітацыйна-мастацкіх брыгад. Многія агітбрыгады арганізоўваюцца сумеснымі намаганнямі як гарадскога, так і раённага аддзелаў культуры**

**Шырокае распаўсюджанне ў гэтыя дні атрымалі працоўныя рапарты і справаздачы адных гаспадарак у другіх з паказам дасягненняў у развіцці мастацкай самадзейнасці.**

**Як вясковыя, так і гарадскія бібліятэкі аформілі цікавыя стэнды, вітрыны, выстаўкі, куткі, альбомы з матэрыяламі, прысвечанымі выкананню пяцігодкі, дастойнай сустрэчы XXVII з'езда Кампартыі Беларусіі і XXIV з'езда КПСС. Праведзены ўжо шэраг чытацкіх канферэнцый, сустрэч з ветэранамі рэвалюцыі і войнаў, героямі мірнай стваральнай працы і героямі кніг.**

**Асноўныя напрамкі, у якіх развіваюць сваю дзейнасць установы культуры Пінска і Пінскага раёна, — замацаванне дасягненняў мінулых гадоў, пошук новых форм, умацаванне шэфскіх сувязей паміж калектывамі, павышэнне эфектыўнасці ў рабоце, умацаванне матэрыяльна-тэхнічнай базы ўстаноў культуры і да т. п.**

**Калегія Міністэрства культуры адобрыла вопыт садружнасці ў рабоце пінскіх гарадскіх і раённых устаноў культуры. Гэты вопыт павінны вывучыць і скарыстаць у сябе дзеячы культуры іншых гарадоў і раёнаў.**

---

нават дваццацігадовай даўнасці, але яны і цяпер з'яўляюцца праблемамі востра актуальнымі, а не маюць толькі гістарычную цікавасць, дык гэта сучасны твор. Бо і вопыт нашага сацыялістычнага будаўніцтва да вайны, і вопыт Вялікай Айчыннай вайны і пасляваеннага перыяду — гэта сучаснасць. Па-першае, не ўсе праблемы гэтых перыядаў зняты з парадку дня. Наш перадваенны вопыт мае значэнне таксама і для іншых сацыялістычных краін. З вырашанымі і нявырашанымі праблемамі вайны і пасляваеннага перыяду звязана цяперашняе жыццё чалавецтва. Таму выключаць гэтыя перыяды з сучаснасці неправамерна. Але я хачу ўмовіцца, што буду гаварыць аб сучаснасці як аб надзённасці.

Увесь пасляваенны перыяд мы ўслед за падзеямі, якія адбываліся ў краіне, пісалі аб тым, як уздымаецца гаспадарка, як паляпшаецца матэрыяльны дабрабыт людзей. Зрэшты, гэтым жыла ўся краіна. Мы дбалі аб тым, каб у горадзе былі вышэйшыя тэмпы і якасць працы, каб чалавек больш зарабляў, меў добрую кватэру, добрыя ўмовы жыцця. А ў вёсцы — каб узняць калгасную гаспадарку на вышыню, мець важкі працадзень. Дзякуючы захадам, якія Камуністычная партыя ўжыла ў апошні час, становішча карэнным чынам змянілася. Асабліва гэта прыкметна ў вёсцы.

І вось калгасная вёска на ўздыме. Разам з матэрыяльным дабрабытам узрасла і культура людзей. Сапраўды, у кожнай кватэры ў горадзе, у многіх вясковых хатах з'явіліся тэлевізары, шмат транзістараў, газет.

Але побач са станоўчым жывуць яшчэ і рэшткі мінулага. У горадзе, побач з ростам культуры, існуюць такія непрыемныя факты, як хуліганства. У вёсцы грашовыя заробкі трацяцца не толькі на кнігі, але часамі на зялёнага змія.

Але ж станоўчае ў нашым жыцці пераважае. Моладзь наша, побач з асобнымі адмоўнымі з'явамі, выяўляе выключную стойкасць духу, мэтанакіраванасць, я б сказаў—нязломнасць.

Мы добра разумеем, што азначае прастаяць 8 гадзін каля станка, а потым 6 гадзін — аж да 12 ночы — сядзець за школьнай партай. А вывучаць супрамат і вышэйшую матэматыку ў політэхнічным інстытуце вечарам — гэта лёгка? А такіх вячэрнікаў, завочнікаў — тысячы юнакоў і дзяўчат. Можа яны дрэнна зарабляюць, стоячы ля станка? Не! І ўсё ж імкнуцца стаць інжынерамі, тэхнікамі, атрымаць вышэйшую адукацыю. Што гэта — пагарда да фізічнай працы? Не! Наша моладзь едзе на цаліну, у Брацк, Варкуту, пракладвае шляхі ў тайзе. Але цяга моладзі атрымаць вышэйшую асвету — вялікая заваёва савецкага чалавека, вызваленага ад рабскай неабходнасці дбаць толькі пра кавалак хлеба.

Растуць культурныя запатрабаванні савецкага чалавека. Ёсць у яго здаровая, зусім апраўданая цікавасць да важнейшых падзей нашых дзён, да падзей мінулай вайны, да яе герояў, але ёсць і цікавасць да «Ад'ютанта яго правасхадзіцельства», да прыгодніцкага жанру.

У нас яшчэ мала, нават у гарадах, атракцыёнаў, весялосці ў парках, цікавых праграм на плошчах. А ў вёсцы яшчэ не ўсе клубы такія, што могуць глыбока зацікавіць чалавека.

Гэтыя думкі навеяў мне нарыс Янкі Сіпакова «Па зялёную маланку».

«— Вось мы гаворым пра выхаванне,— кажа там сібірак Толя Наседкін,— і вельмі ж ужо агульна да яго падыходзім, неяк абстрактна думаем пра яго».

У нас адбываецца працэс пераходу ад першай ступені культуры — тэлевізар, транзістар, кіно, джазавая і іншая такая музыка, масавая песня і прыгодніцкі раман — да другой, вышэйшай ступені культуры, дзе існуе Талстой, Дастаеўскі, Гётэ, Купала і Багдановіч, сімфанічная музыка, дзе існуюць сур'ёзныя і глыбокія творы сучасных пісьменнікаў. Працэс далучэння да вышэйшых здабыткаў чалавечай культуры ідзе і будзе ісці няўхільна і няспынна.

А можа ў тым, што асобныя кнігі не захапляюць пераважную большасць чытачоў, часткова вінаваты і змест саміх кніг, у прыватнасці тое, як адлюстроўваецца сучаснасць?

Тут мы маем на ўвазе прэтэнзіі чытачоў да пісьменнікаў. Гэтыя прэтэнзіі заканамерныя.

Чытач патрабуе ад пісьменніка адлюстравання кардынальных праблем часу. Ён хоча бачыць **сябе** ў мастацкім творы, паказ таго лепшага і высакароднага, на што ён здольны: яго гераічнай працы, яго імкнення да новых здзяйсненняў, да будучыні.

У яго ёсць праблемы і пытанні, на якія ён хацеў бы атрымаць адказ ад любімага пісьменніка. Людзям хочацца ведаць, у якіх абставінах давядзецца жыць іх дзецям у будучыні, якія далягляды раскрыюцца перад імі; ім хочацца ведаць і разам з пісьменнікам прасачыць працэс таго, як

(Заканчэнне на 6—7 стар.)

# Івану МЕЛЕЖУ— 50 ГАДОЎ

*8 лютага спаўняецца 50 гадоў выдатнаму беларускаму пісьменніку Івану Мележу. Праўленне Саюза пісьменнікаў Беларусі накіравала юбіляру віншаванне, у якім гаворыцца:*

**«Дарагі Іван Паўлавіч!**

**З нагоды Вашага слаўнага 50-годдзя шлём Вам, нашаму таварышу па літаратурнай працы, выдатнаму пісьменніку Савецкай Беларусі, гарачае шчырае прывітанне.**

**Вы належыце да таго пакалення беларускіх пісьменнікаў, якое прымала ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне і прыйшло ў літаратуру ў першыя пасляваенныя гады. Першы Ваш зборнік апавяданняў «У завіруху», выдадзены ў 1946 годзе, быў прыхільна сустрэты чытачамі і крытыкай. З таго часу Ваш голас мацнеў і мужнеў з году ў год.**

**Буйным крокам у Вашай творчасці і важнай з'явай у пасляваеннай беларускай прозе з'явіўся Ваш раман «Мінскі напрамак» — шырокае мастацкае палатно аб Вялікай Айчыннай вайне, аб гераізме і мужнасці савецкага народа.**

**З асаблівай сілай Ваш талент самабытнага, удумлівага мастака раскрыўся ў раманах з задуманай Вамі палескай хронікі — «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». У гэтых творах — згустак Вашых глыбокіх назіранняў і Вашага роздуму над жыццем і лёсам людзей роднага палескага краю.**

**Сагрэтыя святлом гуманізму і вялікага жыццесцвярджэння, Вашы раманы заваявалі шырокую папулярнасць сярод чытачоў. Яны перакладзены на шматлікія мовы братніх народаў СССР і зарубежных краін.**

**Поспехам у чытача карыстаюцца таксама Вашы апавядачні і аповесці, у якіх Вы грунтоўна даследуеце праблемы нашага жыцця. Праявілі Вы сябе і як таленавіты драматург — па Вашых п'есах «Калі вы маладыя» і «Дні нашага нараджэння» пастаўлены цікавыя спектаклі.**

**Актыўна працуеце Вы і на ніве грамадскай дзейнасці, як дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, сакратар праўлення нашай пісьменніцкай арганізацыі. Шмат увагі аддаяце рабоце з маладымі пісьменнікамі, іх творчаму выхаванню.**

**Жадаем Вам, дарагі Іван Паўлавіч, многа сіл, здароўя, далейшай радаснай творчай працы».**

*Рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» далучаецца да гэтага цёплага віншавання і ў сваю чаргу жадае юбіляру моцнага здароўя і новых творчых здзяйсненняў.*

# ШЧОДРЫ

ПРА ІВАНА МЕЛЕЖА — празаіка і драматурга напісана не так ужо і мала. Трэба спадзявацца, будзе напісана куды больш, бо талент гэтага выдатнага пісьменніка, які інакш не назавеш, як шчодры, цяпер у самым росквіце і хто можа сказаць, чым яшчэ парадуе ён усіх нас, тых, хто па-сапраўднаму любіць літаратуру, жывое беларускае слова. Мой артыкул — не аналіз таго, што ўжо гаварылася пра Івана Мележа, не спроба сказаць новае слова пра творчасць гэтага самабытнага, арыгінальнага мастака. Задача мая вельмі сціплая — даць н е к а л ь к і штрыхоў да партрэта чалавека і пісьменніка, якога я глыбока паважаю і люблю, нагадаць н е к а л ь к і эпізодаў са свайго жыцця, якія так ці інакш звязаны з Іванам Паўлавічам і яго кнігамі, — і ў гэтай сувязі выказаць н е к а л ь к і думак...

ПІСЬМЕННІК, які б ні быў, мае перавагу перад усімі астатнімі хоць бы ўжо тую, што каб з ім сустрэцца, не абавязкова трэба ехаць у горад, дзе жыве пісьменнік, прасіцца да яго на прыём, а дастаткова зайсці ў кнігарню ці ў бібліятэку і ўзяць кнігу, на вокладцы якой надрукавана вядомае прозвішча. Гэтак я, як і іншыя, пазнаёміўся з многімі-многімі пісьменнікамі. І з Іванам Паўлавічам Мележам таксама. Было гэта даўно, недзе адразу ж пасля майго звароту з Нямеччыны. І прыпамінаецца так: я, вясковы хлапчук, якога бацька ўзяў на базар у Хойнікі, іду дадому з кнігай, якую мне надта ж руціць хутчэй прачытаць. Дзіва што! Яе, гэтую кнігу, напісаў не проста пісьменнік, а пісьменнік з недалёкіх ад нашага Вялікага Бору Глінішчаў...

Цяпер мне цяжка сказаць, якое ўражанне зрабіла на мяне тая ці не першая купленая мною кніга. Але дзень той у памяці астаўся...

Мінула некалькі год і мне давялося вучыцца ў Хойніцкай сярэдняй школе—той самай школе, якую перад вайной закончыў Іван Паўлавіч Мележ. І з творчасцю пісьменніка-глінішчанца я пазнаёміўся паўней—прачытаў не толькі раман «Мінскі напрамак», але і аповесць «Гарачы жнівень», апавяданні «У завіруху», «Павел прыехаў», «Перад навальніцай»...

Тады, у тыя гады, я не ведаў, нават не ўяўляў, як гэта цяжка напісаць і выдаць добрую кнігу, што значыць наогул быць пісьменнікам. Разам з усімі маімі равеснікамі я хадзіў у РДК глядзець па тры-чатыры разы «Кубанскіх казакаў» і «Сталінградскую бітву», запісваўся ў бібліятэцы ў чаргу на раманы «Кавалер Залатой Зоркі», «Шчасце»... На ўроках я ўважліва слухаў настаўнікаў, што расказвалі падрабязна пра здзек, які цярпелі амаль усе тыя, кім пасля захаплялася і ганарылася Расія,—Пушкін, Гоголь, Лермантаў, Герцэн, Чарнышэўскі, Леў Талстой, пра жорсткі ўціск царскай цэнзуры, якая бязлітасна калечыла творы сусветна вядомых пісьменнікаў, пра разносы і ганенні, якім падвяргаліся выдатныя кнігі і іх аўтары... Мяркуючы па прэміях, што сыпаліся залатым дажджом штогод, жыццё савецкіх пісьменнікаў не ішло, ні ў якое параўнанне з жыццём пісьменнікаў царскай Расіі. Я, да прыкладу, не зусім добра помніў, якія творы напісалі М. Вірта і К. Сіманаў, але павінен быў ведаць, па колькі яны атрымалі прэмій...

Потым... Потым былі падзеі, якія прымусілі мяне—ды хіба аднаго мяне!—над многім задумацца...

Разумнела ўся краіна. Разумнеў і я.

У тыя дні, будучы студэнтам універсітэта, я сустрэўся зноў з кнігамі Івана Мележа, а потым, праз нейкі час і з самім пісьменнікам. Іван Паўлавіч тады не быў яшчэ аўтарам славутых раманаў «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Ён захапіўся тэатрам, пісаў п'есы...

Ды ўсё ж сапраўднае знаёмства з пісьменнікам і яго творамі ў мяне пачалося значна пазней, калі я ўжо выдаў сам кнігу апавяданняў і працаваў у часопісе «Полымя». Янка Скрыган, які загадваў аддзелам прозы, неяк палажыў мне на стол даволі ёмкую папку.

—Гэта новы раман Івана Мележа,—так, ці прыкладна так, сказаў ён.—Чытай.

Я не спяшаючыся, спакваля развязаў папку, перагарнуў старонку, дзе была напісана назва твора і, узяўшы ў руку аловак, пачаў чытаць. І раман адразу ж захапіў, заваражыў мяне. Здарылася тое, што бывае рэдка і толькі тады, калі сустракаешся з сапраўдным мастацтвам—забываеш, дзе ты, хто ты, а жывеш тым жыццём, якое паказвае пісьменнік і якім жывуць яго героі—разам з героямі ты думаеш, адчуваеш, хвалюешся... У рамане не было нідзе ніякага фальшу, кожная дэталь, кожнае слова вывераны і пастаўлены так, як яны і павінны стаяць у сапраўды мастацкім творы. Радавала і яшчэ адно—Іван Мележ апісваў мясціны, якія я, здавалася, так добра ведаў і якія ўсё ж да гэтага рамана, выходзіла, я не ведаў. Праблемы, што хвалявалі некалі майго бацьку, дзеда, хвалявалі і мяне. А Ганна, Хадоська, Васіль, Карчы! Пасля Кузьмы Чорнага беларуская проза бадай што не ведала яшчэ такіх паўнакроўных мастацкіх вобразаў. Ды дзе там вобразаў—тыпаў, жывых людзей, якія вось так, нібы змовіўшыся, узялі дый прыйшлі проста з жыцця ў кнігу, прыйшлі са сваімі скаргамі і клопатамі, са сваімі звычкамі і мовай. Так, так, мовай, бо Іван Мележ не пабаяўся ўвесці ў раман мову сваіх мясцін (заўважым: вельмі ўмела, ашчадна, не ў прыклад некаторым!)—і раман ад гэтага выйграў: людзі не прытвараліся,не гаварылі так, як гаварыў пісьменнік, а гаварылі, як думалі, гаварылі, як яны заўсёды гавораць, калі на іх ніхто не глядзіць, ніхто вельмі не прыслухоўваецца, як і што яны гавораць... І хай у маёй вёсцы людзі гаварылі трохі інакш, чым у Куранях, я хутка прывык да мовы мележаўскіх герояў. І, зусім забыўшыся на свой рэдактарскі аловак, чытаў старонку за старонкай—чытаў так, як чытаў кнігі некалі, даўней—у школе, ва універсітэце. Іншы раз мне хацелася вярнуцца, перачытаць яшчэ і яшчэ раз тую ці іншую сцэну, тое ці іншае апісанне прыроды, і я не адмаўляў сабе ў такой радасці. І чым далей я чытаў раман Івана Мележа, тым усё больш і больш адчуваў—беларуская—ды і не толькі беларуская! — літаратура займела новы выдатны, можа нават у нейкай ступені этапны, твор...

ПАСЛЯ чытання рамана «Людзі на балоце» і доўгай, па-палеску шчырай гутаркі з Іванам Паўлавічам Мележам, калі, можна сказаць, мы ўпершыню па-сапраўднаму і пазнаёміліся, мяне пацягнула раптам яшчэ раз перачытаць яго ранейшыя кнігі. Вось тады я і ўбачыў, што поспех пісьменніка ў новым рамане не выпадковы. Ужо самыя першыя яго творы гаварылі, што ў беларускую літаратуру прыйшоў празаік, ад якога можна многага чакаць. Кузьма Чорны, дарэчы, гэта ўбачыў адразу ж. Даводзіцца шкадаваць, што тое, што ўбачыў Кузьма Чорны ў першых мележаўскіх апавяданнях, многія ўбачылі толькі пасля надрукавання рамана «Людзі на балоце». Вядома, шлях у вялікую літаратуру Івана Мележа не быў роўны, гладкі. «Ёсць людзі, якія лічаць, што творчасць пісьменніка павінна быць простай, няспыннай дарогай угору. У жыцці так бывае — калі толькі бывае!—рэдка. Нават шасэ, як яго ні стараюцца раўняць, але ніколі не сцелецца роўным абрусам»,—пісаў неяк сам Іван Паўлавіч. Не трэба забываць, што пісьменнік — таксама чалавек. Здараецца, ён хварэе, хварэюць яго дамашнія; бываюць іншыя розныя, значныя і нязначныя, прычыны, якія не даюць яму сесці за свой рабочы стол, а калі ён і сядае, то працуе не так, як мог бы працаваць. Талент—гэта вельмі натурлівы конь: ледзь-ледзь нешта не так—і ён... Хоць лопні, хоць трэсні—не ідзе, не пішацца далей і ўсё! Вядома, што да ўсяго гэтага чытачу! Яму трэба творы. І калі пісьменнік напіша дрэнна, яго не выратуюць, не абароняць «ни звания, ни награды, ни прошлые успехи». Чытач адвернецца ад пісьменніка, знойдзе таго, хто яго задаволіць: балазе—добрых пісьменнікаў шмат, добрых кніг—яшчэ болей. Не задаволяць сучаснікі—ёсць свежая, неўміручая класіка.

Ні званняў, ні асаблівых узнагарод у Івана Мележа не было. Пісьменнік належаў да таго пакалення, якое, не паспеўшы ўзмужнець, прыняло на сябе асноўны цяжар нялёгкае, крывавае барацьбы з фашызмам. Як і ўсе яго аднагодкі, Іван Мележ з першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на фронце, бярэ ўдзел ва многіх баях—на Збручы, пад Уманню, Нікалаевам, Сінельнікавам, Растовам, Лазавой. Цяжка паранены, трапляе то ў адзін, то ў другі шпіталь. Потым ён вучыцца ў БДУ, у аспірантуры. І піша, піша. Піша спачатку апавяданні, потым аповесць, раман... Не ўсё ўдаецца аднолькава добра маладому празаіку, асабліва ў вялікім як па ахопе падзей, так і па аб'ёме, шматпланавым рамане «Мінскі напрамак». «Жанр рамана маладосці не ўласцівы. Якія б ні былі яго форма, думкі, што натхнілі пісьменніка, ідэя, ён заўсёды павінен адносна глыбока пранікнуць у свет і ў жыццё. А ў маладым веку свет прыходзіць да нас у нейкім асляпляльным беспарадку, жыццё яшчэ здаецца нашым вачам нейкай чароўнай вежай з ярка зіхатлівымі гранямі, а людзі, што сустрэліся на дарозе, альбо вельмі добрыя, альбо вельмі дрэнныя, альбо пачварныя, альбо вялікія. Як жа апісаць іх, вярнуўшыся дадому? Як, выйшаўшы на дарогу, каб пазнаёміцца з імі, не зачапіць іх, сутыкаючыся з імі, аднесціся да іх з цярплівасцю, з усмешкай, з лагоднасцю, са спагадай? Як прымірыцца з іх непадобнасцю, з іх супярэчлівасцю, што так часта сустракаецца? Як спакойна гутарыць, калі не церпіцца зрабіць вывады, як ісці паволі, калі цягне пусціцца з усіх ног, як успамінаць, калі хочацца марыць і фантазіраваць. Не, пісаць раман—не занятак маладому чалавеку» (Сент-Бёў). І маладога літаратара трэба больш разумець, чым караць, крытыкаваць. Івана Мележа разумелі не ўсе. І хоць першы раман трыццацігадоваму пісьменніку, можна лічыць,

«ЛЮДЗІ НА БАЛОЦЕ»



**У ТЭАТРЫ...**
На сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У ролі Васіля — Г. Гарбук, Ганны — Л. Давідовіч.



**У МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ...**
Сцэна са спектакля Мазырскага народнага тэатра.



**НА ТЭЛЕБАЧАННІ...**
У ролі Чарнушкі — Ул. Дзядзюшка, Куліны—М. Былінская.

Генадзь ЦІТОВІЧ,

народны артыст СССР

# ПЯСНЯР ПАЛЕСКАГА КРАЮ

Я здаўна люблю наша беларускае Палессе. За гады этнаграфічных вандровак даводзілася мне бываць пад Гомелем і Пінскам, Столінам і Туравам, каля Давыд-Гарадка і Лельчыц, у Нароўлі і Капаткевічах. Які гэта чароўны і багаты край, край дзіўных песень і старажытных паданняў, край партызанскай і працоўнай славы!

Кожны, хто пабываў у гэтых мясцінах, не мог не захапіцца спрадвечнымі дубровамі, сонцазвонкімі гаямі, задумнай плынню палескіх рэк і першароднай блакітнасцю азёр, атуленых зараслямі аеру і шапаткіх чаратоў; не мог не захапіцца і мудрай разважлівасцю палешукоў, іх мяккай, мілагучнай у сваёй еднасці з роднай прыродай гамонкай, іх самабытнымі, непаўторнымі, на дзіва меладычнымі і пяшчотнымі песнямі.

Уздоўж і ўпоперак пехатою абышоў я Мазырскі край, бываў на Хойнішчыне (тутэйшыя людзі і дагэтуль гавораць крышачку інакш, па-мясцоваму — Хвойнішчына), заходзіў у Глінішчы і Тульга-

# ТАЛЕНТ

Барыс САЧАНКА

удаўся, знаходзіліся людзі, якія гаварылі не толькі на пісьменніцкіх сходах, але і ў друку, рознае. Хто не ведае з-за чаго ў нас бывае яшчэ рознае гавораць не толькі на пісьменніка, але і на звычайнага чалавека! І мала — крыўдна мала! — было тых, хто хацеў па-гаспадарску разабрацца ў тым, што рабіў у літаратуры гэты вельмі шчыры, сумленны і мужны працаўнік...

Але не будзем наракаць на лёс. Былі і, мабыць, будуць тыя, каму заўсёды ўсё ясна, хто ніколі ні ў чым не сумняваўся, хто прывык працаваць не сам, а патрабаваць нечага, зусім немагчымага, ад другіх. Мяняюцца часы, адны такія «падганялы-ўсёведы» раптам знікаюць, дзяваюцца немаведама дзе. Гэта яны, «падганялы-ўсёведы», адразу ж пасля вайны аб'явілі, што пра Вялікую Айчынную вайну напісана ўжо даволі і трэба пісаць — «патрабуе народ!» — пра коксагыз, пра торфаперагнойныя гаршчэчкі і г. д. Гэта яны, тыя самыя «падганялы-ўсёведы», аб'явілі раптам, што тэма гераічнага мінулага нашага народа, тэма рэвалюцыі і калектывізацыі — гістарычныя тэмы, — і куды лепш было б, каб пісьменнікі надта не захапляліся імі, а пісалі пра сучаснасць. (Сучаснасць яны разумелі толькі як сённяшні дзень). І калі знаходзіўся новы Петрарка, які спяваў пра сваю Лауру, вакол яго падымаўся адразу ж згэлк.

У той час, калі тэма вайны лічылася не жаданай, Мележ, былы франтавік, «каму пашчасціла больш», як многім яго таварышам, што «асталіся ляжаць у гарачай зямлі сорак першага года», адчуваў абавязак расказаць пра іх — пісаў «Мінскі напрамак». Раман «Людзі на балоце» ён закончыў тады, калі знайшоўся дзівак, які аб'явіў, што пасля рамана «Паднятая цаліна» другіх твораў пра калектывізацыю не трэба... І Івану Мележу даставалася! Трэба было быць Іванам Мележам, каб, не зважаючы на ніштo, — не, не зважаць усё ж нельга, бо кніга — гэта дзіця і лёс яе ніколі не быў і не будзе абыякавы пісьменніку! — рабіць, рабіць тое, што падказвае рабіць сумленне. Крытыкі-балбатуны прыходзяць і адыходзяць, літаратура ж астаецца. Мінае за годам год, і час, суровы, непадкупны час, пытае ў кожнага: «А ты, што рабіў ты?..» І калі ты займаўся глупствам, гнаўся за мімалётнай славай і не думаў «пра вечнае, мудрае, добрае», на Парнас ён цябе не пусціць, табе там няма месца. І ніякіх апраўданняў час не прыме, бо «і кожны несправядлівы суддзя можа апраўдвацца ў тым, што браў хабар і гандляваў правасуддзем, вінавацячы свае невыкрутныя абставіны, жонку, вялікую сям'ю, словам — ці мала на што можна спасылацца... Нашчадкам няма справы да таго, хто быў вінаваты, што пісьменнік сказаў дурасць ці недарэчнасць, ці выказаўся наогул непрадумана і нястала. Яны не будуць разбіраць, хто штурхаў яго пад руку... Яны зробяць папрок яму... Чаму ты не супрацьстаяў усяму гэтаму?..» (Гогаль). Сапраўдны пісьменнік заўсёды слухаў і слухае больш сябе, чым другіх. Ён думаў і думае, не пра тое, што сёння выгадна ці не выгадна, за што хваляць, за што лаюць, а пра тое, як лепш сказаць, данесці да чытача запаветнае, што ведае ён адзін і «лучше всех на свете» і пра што, калі ён не скажа, ніхто, ніхто не скажа...

НЕ КОЖНАМУ, на жаль, пісьменніку дадзена сказаць людзям запаветнае, што ведае адзін ён і «лучше всех на свете». Многія, нават пражыўшы доўгі век, гавораць то адно, то другое, а таго, запаветнага, так і не скажуць. Больш таго: не ведаюць, што яны павінны сказаць, не знаходзяць яго ў сабе ці, кажучы мовай крытыкі, — не знаходзяць сябе. Як правіла, такія пісьменнікі і іх кнігі не астаюцца ў літаратуры. Літаратура — такая жанчына, якая любіць толькі тых, хто аддае ёй усяго сябе, сабе ж не бярэ нічога...

Іван Мележ, гэта можна сказаць з упэўненасцю, знайшоў сябе, знайшоў запаветнае, што ведае ён адзін і «лучше всех на свете». Яно, гэтае запаветнае, вельмі цікавае, патрэбнае людзям. Гэта пацвердзілі раманы «Людзі на балоце» і яшчэ ў большай ступені — «Подых навальніцы». Бо ўтрымацца ў апошнім рамане на той высокай ноце, якую пісьменнік узяў у рамане «Людзі на балоце», было нялёгка. Да гонару Івана Мележа, ён не толькі ўтрымаўся, а ў сім-тым пайшоў і далей. Я маю на ўвазе, у прыватнасці, глыбокае філасофскае асэнсаванне тых падзей, што адбываліся не толькі ў Куранях, а ва ўсёй нашай краіне. На маленькую палескую вёску ў новым сваім рамане Іван Мележ паглядзеў як бы зверху, — гэта часам робяць у кінематографе, каб сабраць разам, у адзін фокус тое, што раскідана на шырокай плошчы і што не ахоплівае абсяг чалавечага вока. І раман ад гэтага выйграў, ён стаў больш інтэлектуальным, філасофскім. У гэтым, перш за ўсё ў гэтым, я бачу наватарскі пошук Івана Мележа, крок наперад не толькі самога Івана Мележа, але і ўсёй нашай прозы.

Цікава і яшчэ адно: пасля надрукавання раманаў Івана Мележа неяк вельмі стала, самабытна адчула зноў сябе наша проза. Бадай-што гэтак жа, як адчувала яна сябе толькі ў лепшыя свае гады, калі ў ёй, спаборнічаючы адзін з адным, працавалі Я. Колас, Зм. Бядуля, Ц. Гартны, М. Гарэцкі, К. Чорны, М. Лынькоў, М. Зарэцкі. Нашы і маскоўскія газеты пісалі і пішуць пра росквіт беларускага рамана. Гэта тым больш прыемна, бо ва ўсім свеце ідзе гаворка пра заняпад, а то і проста пра выраджэнне рамана як жанру... Неяк незаўважна сціхлі і спрэчкі, якой прозе — лірычнай, аналітычнай ці псіхалагічнай — трэба аддаваць перавагу. Сёння кожнаму відаць: проза павінна быць перш за ўсё прозай, праўдзівай, мастацкай прозай. Тады толькі яна будзе цікавіць чытача, абуджаць пачуцці і думкі.

Вядома, кнігі не аднаго Івана Мележа вярнулі беларускай прозе яе былую славу. Поруч з Іванам Мележам плённа папрацавалі і іншыя пісьменнікі. Але мележаўскі ўклад — гэта трэба прызнаць — быў асабліва значны і адчувальны. І, я сказаў бы, вельмі жыццядзейсны. Іван Мележ сваімі апошнімі раманамі прымусіў многіх — і старэйшых і маладзейшых — задумацца над тым, як і што яны пісалі і пішуць.

КАЖУЦЬ, вялікае лепш бачыцца здалёку. Сучаснікі часта памыляліся, даючы ацэнкі той ці іншай з'яве, таму ці іншаму твору. Лягчэй гаварыць пра тое, што было, цяжэй — пра тое, што ёсць. Да таго ж, літаратура, як і жыццё, ніколі не спыняецца на месцы, яна ўвесь час у руху — адно ў ёй памірае, другое нараджаецца. За кожным творам стаіць не толькі пэўны аўтар (з пасадай, аўтарытэтам!), але і пэўнае кола людзей, якім твор патрэбен ці не патрэбен, патрэбны ці не патрэбны тыя ідэі, што ён адстойвае, прапагандуе. Ды і само жыццё такое шматграннае, яго ніяк не можа ахапіць, а тым больш адлюстраваць ні адзін аўтар. Сучаснікам здаецца, што пісьменнік адлюстраваў не тое, што павінен быў адлюстраваць, і не так, як усё было на самай справе. І ўсё ж, новыя раманы Івана Мележа сучаснікі прынялі, далі ім самую высокую ацэнку. «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» сталі з'явай не толькі беларускай, але і ўсёй савецкай літаратуры. Высокае, зайздроснае майстэрства вялікі накал думак і пачуццяў, чалавечнасць у самым лепшым сэнсе гэтага слова вылучае гэтыя раманы ад многіх псеўданаватарскіх твораў ультрамодных пісьменнікаў Захаду, набліжае іх да лепшых узораў сусветнай класікі. Раманы Івана Мележа яшчэ раз пацвердзілі праўдзівасць слоў А. Чэхава: «Новае толькі тое, што таленавіта. Што таленавіта, то новае».

Задуманая Іванам Мележам «Палеская хроніка» яшчэ не закончана. З нецярплівасцю разам з усімі чытачамі чакаю і я новых раманаў Івана Мележа, над якімі, я ведаю, пісьменнік дбайна, не спяшаючыся, па-флобераўску працуе. Працуе, нягледзячы на вялікую занятасць. Выдавецтва «Беларусь» выдае шасцітомны збор яго твораў і трэба не толькі чытаць карэктуру, рыхтаваць у набор новыя тамы, але і многае папраўляць, перапісаць. Каб уявіць хоць трохі гэтую працу — перачытайце раман «Мінскі напрамак», які надрукаваны ў другім і трэцім тамах. Колькі ў ім новага! Дэталі, сцэны і цэлыя раздзелы!.. Іван Паўлавіч — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Беларускага Камітэта абароны міру, старшыня і член многіх-многіх камісій. У адной з такіх камісій — прыёмнай — разам з Іванам Паўлавічам працую вось ужо каторы год і я. Чулі б маладыя літаратары, тыя, хто прыняты ў Саюз пісьменнікаў і хто па нейкіх меркаваннях адхілены, колькі добрых слоў знаходзіць Іван Паўлавіч, каб сказаць пра кожнага з іх і пра тую работу, якую яны — адзін з большым поспехам, другі з меншым — робяць! А колькім, сёння вядомым не толькі ў Беларусі пісьменнікам ён памог і памагае! Не толькі па абавязку службы, а і па абавязку сэрца.

А больш за ўсё Іван Паўлавіч працуе. «Нямала дзён — і хмурых, і сонечных мінула за пісьмовым сталом, над рукапісамі, нямала недаспаных начэй — з сумненнямі, з роздумам, з пошукамі...» — прызнаецца сам пісьменнік. Без гэтага нельга. Пісьменнік — гэта творы. Ёсць яны — ёсць і пісьменнік. Твораў не заменяць тыя пасады, якія займае іншы член Саюза пісьменнікаў. «Літаратуру могуць рабіць толькі валы. Самыя дужыя валы — гэта геніі, хто не пакладаючы рук працуе па васемнаццаць гадзін у суткі...» (Ж. Рэнар). Пісьменнік — гэта раб, прыкуты да свайго стала, і пакуль ён жыве, у яго павінна быць работа, многа-многа работы, цэлы непачаты край. За адным шчасліва пераплаўленым праз сэрца эпізодам ці кавалкам жыцця стаіць многа-многа эпізодаў, жыццё, жыццё яго самога, таварышаў, бацькоў, вякі мінулыя і будучыя. І ён мусіць рабіць сваю работу, бо інакш ён перастане быць пісьменнікам, перастане быць тым, кім наканаваў яму быць лёс. І хай злуецца жонка — яна хоча, як і іншыя жанчыны, схадзіць са сваім мужам у кіно, хай злуюцца дзеці, бо яны бачаць свайго бацьку толькі сагнутым крукам над рукапісамі, хай злуюцца тыя, хто хацеў бы з пісьменніка зрабіць гастралёра-артыста, які б выступаў, чытаў са сцэны свае творы, хай, урэшце, злуюцца ўсе, увесь свет, які, здаецца, толькі тым і заняты, каб як-небудзь адарваць пісьменніка ад свайго стала, ад работы — ім гэта не ўдасца. Пісьменнік, калі ў яго ёсць работа, робіць яе, жыве толькі адной ёй, думае толькі пра яе...

Добра, радасна, калі ў пісьменніка ёсць работа, калі ён працуе. Значыцца, будуць новыя кнігі....

Хочацца, каб у Івана Паўлавіча Мележа заўсёды была работа і каб ён, нягледзячы ні на што — ні на занятасць, ні на свае гады яе рабіў. Рабіў натхнёна, па-талстоўску трывала, на вякі.

ПА ЎСІМ СВЕЦЕ...




Васіль БЫКАЎ

# ЖЫВАПІСЕЦ

Проза Івана Мележа — сведчанне майстэрскага спалучэння лепшых традыцый нацыянальнай літаратуры і яе наватарскіх пошукаў, уласцівых самаму новаму часу.

Ягоны зварот да грунтоўнага даследавання народнага жыцця 20-х — 30-х гадоў пазначыў сабой як бы паўторны заход нашай літаратуры ў даволі ўжо распрацаваныя пласты беларускай гісторыі, які пад пяром сапраўднага мастака даў нечакана багаты плён. Мусіць, гэта ўжо аксіёма, што не бывае няўдзячных тэм або тэм другарадных, малаістотных — чалавечае жыццё, апрамененае святлом гуманізму, якраз і ёсць тое самае значнае ў мастацтве, што не траціць свайго кошту ніколі. Іван Мележ сваімі раманамі даказаў таксама, што самыя сціплыя вобразы самых звычайных, здавалася б, далёкіх ад колькі-небудзь вытанчанага інтэлекту, людзей, вясковых сялян, калі яны сагрэты цяплом сапраўднага чалавекалюбства, зацікаўленасцю і пашанай, здольны скінуць з сябе транты правінцыяльнай абмежаванасці і набыць агульначалавечую значнасць.

Мележаўскія Ганна, Васіль, Міканор, Апейка блізкія і зразумелыя чытачам розных краін, розных адукацыйных узроўняў і розных ступеняў духоўнасці. Сакрэт гэтай даходлівасці — у глыбіні псіхалагічнага пранікнення, меры сацыяльнай напоўненасці, мастацкай праўдзівасці.

Пры ўсім тым нельга забываць, што Іван Мележ не адразу і нялёгка адкрыў у сабе таго, кім ён сёння з'яўляецца — адкрыццю гэтаму папярэднічала шмат гадоў пошукаў і працы. І тым важней для ўсіх нас здаецца гэты ягоны ўрок. Кожнаму бязмерна важна ў свой час знайсці сябе і ў сабе — тое самае значнае, на што вымагае талент. Мележ — прызнаны майстра эпічнага жанру прозы, вартасць якога ён пераканана засведчыў сваёй літаратурнай практыкай. Але мастацтва рэдка задавальняецца аднойчы атрыманым доказам і патрабуе нястомна практычнага пацвярджэння ягоных спрадвечных ісцін. Таму будзем спадзявацца, што талент і сілы Івана Мележа і надалей не здрадзяць яго зайздроснай прыхільнасці да шырокай эпічнасці ў даследаванні самых складаных часоў народнай гісторыі. І пажадаем яму ў гэтым пісьменніцкай мужнасці, гатоўнасці да непазбежнай салдацкай рызыкі і ў выніку — безумоўнай творчай удачы.

вічы, Алексічы і Веляціно, дзе запісаў нямала песень, казак, дасціпных анекдотаў і мудрых прымавак.

У каментарыях да маіх фальклорных запісаў другой паловы 40-х гадоў неаднаразова сустракаецца прозвішча Мележаў — людзей, якія перадавалі мне здабыткі народнага фальклору, напявалі мне мелодыі палескіх напеваў, расказвалі дзівосныя легенды і паданні. У той час прозвішча «Мележ» было для мяне звычайным палескім прозвішчам.

Прайшлі гады. На небасхіле беларускай літаратуры ўзышло імя Мележа-пісьменніка. Неўзабаве гэтае імя стала ў шэрагу лепшых імён беларускіх пісьменнікаў. Асабліва са з'яўленнем яго рамана «Людзі на балоце». Чытаў я раман і з дзіўным хваляваннем адчуваў, што гэта некалі я сам бачыў, чуў, перажываў, што я сам быў у тых мясцінах, пра якія расказвае пісьменнік, слухаў тых людзей, якія сталі героямі яго хронікі (як жа ўзбагаціў, апаэтызаваў пясняр Палесся гэтае будзённае слова!). А калі пазнаёміўся з біяграфіяй пісьменніка, — як жа я быў узрушаны: так надарылася, што ў часе сваіх вандровак па Хойнінішчыне я быў не проста ў Глінішчах, але і ў той хаце, дзе нарадзіўся Іван Мележ, пісьменнік, імя якога сёння вядома далёка-далёка — у розных краінах свету — ад яго родных Глінішч...

Дык вось адкуль ідуць вытокі гэтага таленту — з Палескага песеннага і эпічнага краю!

Іван Паўлавіч Мележ... Сёння без яго нельга ўявіць нашай роднай літаратуры. Без яго «Мінскага напрамку», без яго «Людзей на балоце», без яго «Подыху навальніцы»... Для мяне асабіста (я не сумняваюся, што не для аднаго мяне, а для многіх і многіх) ён адкрыў вочы на шырокі і бязмежны свет чалавечых перажыванняў, барацьбы, будзённага побыту, раскрыў сэнс чалавечага існавання, звязанага ўсімі ніцямі з жыццём грамадства, чалавецтва. Героі «Палескай хронікі» нясуць на сабе адбітак чалавечых канфліктаў і перажыванняў, у якіх выявілася высакародная сутнасць барацьбы за ўсталяванне новага, сацыялістычнага ладу, новых адносін паміж людзьмі.

Сёння, калі прыхільнікі таленту выдатнага беларускага пісьменніка Івана Мележа адзначаюць яго пяцідзесяцігоддзе, хочацца і мне, ад свайго імя і ад імя сваіх калег, павіншаваць юбіляра і выказаць яму шчырыя словы падзякі за духмяны букет палескіх кветак, які так хараша аздабляе вянок нашай роднай літаратуры.

ным фарватэры». Хоць ўсё яшчэ тут не дужа глыбока, манера не зусім самастойная, але ёсць дасціпнасць і інтрыга. А некаторым апавяданням нестае зместу. Зрэшты, змест ёсць, але ён не глыбокі. Аркадзь Пінчук піша пра жонку палкоўніка, якая крычыць аб тым, што вясковая дзеўка не пара яе сыну-афіцэру, ды забылася, што сама некалі была прачкай; Мікола Капыловіч прыблізна пра тое ж: добры хлопец трапіў пад абцас жонкі—мяшчанкі. А галоўнае — залішне шмат у апавяданнях герояў, якія прагнуць «касіць сена на асфальце». На жаль, не сустрэў я ў 1970 годзе ў часопісах апавяданняў узроўню «Караля Нябожы» і нават «Дзён ранняе восені» Вечаслава Адамчыка.

Нарэшце, пра горад пішуцца і п'есы.

Паколькі п'есы ў нас друкуюцца рэдка, дазволю сабе сказаць аб двух п'есах на сучасную тэму, якія з'явіліся ў рэпертуары тэатра імя Янкі Купалы. Гэта п'еса «Амністыя» Мікалая Матукоўскага і «Начное дзяжурства» Анатоля Дзялендзіка.

М. Матукоўскі напісаў камедыю з вялікімі элементамі гратэску, і яна мае поспех у гледача. Можна шчыра парадавацца за драматурга, шлях якога ў драматургію, я вельмі добра ведаю, не быў усеяны кветкамі. З'яўленне новага драматурга — з'ява заўсёды радасная. Праўда, для карысці будучай работы драматурга я хацеў бы зрабіць некалькі заўваг. Мне асабіста здаецца, што вобраз Салавейчыка, героя п'есы, не дужа арганічны. Ён як бы сплецены з некалькіх вобразаў. Пачынаецца п'еса вельмі арганічна і натуральна, я б сказаў — зусім рэалістычна, без гратэскавых перабольшванняў. Рабочы фабрыкі цацак Салавейчык трапіў у выцвярэзнік. Трэба ратаваць — ганьба на ўсю фабрыку. Натуральна, так часам бывае. А вось далей паравоз ідзе ўжо як бы не толькі па рэйках, але і па шпалах. Чамусьці вырашылі п'яніцу Салавейчыку стварыць асобныя ўмовы і нават тэлефон для станка паставілі. Тут ужо ўзнікае нейкі іншы вобраз. Гэта не тып, стала прапісаны ў выцвярэзніку. А далей яму яшчэ шыкоўныя імяніны наладжваюць. Ну, натуральна, калі гэта «перадавік» з тэлефонам каля станка, дык і імяніны можна наладзіць. Але куды падзеўся кандыдат «на пятнаццаць сутак» за п'янства? Да таго ж, гэты тып яшчэ на п'янках занатоўвае ў кніжачку, хто што робіць. Гэта ўжо трэці вобраз, вобраз паклёпніка. Матукоўскаму з большага ўдалося звязаць канцы з канцамі, але гэтая неарганічнасць шкодзіць трошкі вобразу. Часам гратэскавыя сцэны (дурныя паводзіны Божашуткавай, залішняя дурнота ўдзельнікаў таварыскага суда) не дужа манціруюцца з выразна рэалістычнымі сцэнамі, у якіх вельмі натуральна сябе паводзяць дырэктар фабрыкі, Ягадка, мастак Дрозд.

Зрэшты, ёсць востры спектакль на сучасную тэму, а галоўнае — нарадзіўся драматург.

Дзеянне п'есы Анатоля Дзялендзіка «Начное дзяжурства» адбываецца ў псіхіятрычнай лячэбніцы. Але палохацца не трэба. Ніводнага псіхіятрычна хворага Дзялендзік не паказвае на сцэне. Пра іх толькі гаворыцца. Ёсць праблема гуманістычных адносін да чалавека. У цэнтры доктар Марозаў, які дзеля гэтага ахвяраваў нават асабістым шчасцем.

Пабудавана п'еса не на вельмі свежым матэрыяле: наватар супраць кансерватараў. Вырашыў доктар Марозаў адкрыць дзверы бальніцы, каб не трымаць псіхічна хворых пад замком, на футбол іх пускае. Праўда, гэта ледзь не скончылася трагедыяй. Адзін псіхічна хворы збег з нажом, каб зарэзаць жонку. Як новы метад станоўча ўздзейнічае на хворых, мы не бачым. Тое, што Марозаў дзеля сваіх хворых адмовіўся ехаць працаваць у Маскву, у даследчую ўстанову, таксама не нова. Але Анатоль Дзялендзік мае драматургічныя здольнасці будаваць шматзначны дыялог, у яго ёсць майстэрства інтрыгі, і гэта выратоўвае самыя банальныя сітуацыі. А яны ёсць, гэтыя банальныя сітуацыі. Да Марозава прыехала нявеста, якая, праўда, ўжо звязалася з яго сябрам-кар'ерыстам. Таксама не новая сітуацыя. Але ўсё гэта, як ні дзіўна, глядзіцца з увагай, дзякуючы правільнай фабульнай пабудове і дасціпнаму дыялогу.

Ёсць і добрая сцэна: жанчына, якую пакінуў каханы, вырашыла скончыць жыццё самагубствам. Яна слухала некалі лекцыю ўрача-псіхіятра Марозава аб радасці жыцця і звоніць яму ўначы ў бальніцу, каб паведаміць аб сваім намеры. Адбываецца востры дыялог. І калі б не спроба Марозава гіпнатызаваць гэту жанчыну па тэлефоне, — было б наогул вельмі добра.

Усё ж станоўчыя рысы вобраза няўрымслівага ўрача, сябра людзей адчуваюцца выразна. Гледачы сядзяць да канца спектакля, і ніхто не падымаецца ў сярэдзіне дзеі, каб ісці дадому. А нядаўна і такое тут было.

Вяртаючыся да нашай гаворкі аб прозе і драматургіі на сучасную тэму па творах, якія з'явіліся ў 1970 годзе, мы павінны падкрэсліць што, як і раней, пераважае сялянская тэма. Горад рэдка трапляе ў сферу ўвагі пісьменнікаў.

А між тым, праблема паказу рабочага жыцця для беларускай літаратуры, як і для ўсёй савецкай літаратуры, застаецца ўсё яшчэ праблемай нявырашанай.

Рост рабочага класа нашай рэспублікі ідзе няспынна. Індустрыяльнымі становяцца не толькі Мінск, Магілёў, Гомель, Віцебск, але і Гродна, Полацк, Рэчыца, Старобіншчына, Лепельшчына, Васілевічы.Хутка, відаць, большасць насельніцтва будзе сканцэнтравана ў гарадах. Але, як мы падкрэслівалі, гарадская рабочая тэма асвоена пакуль што толькі ў адным плане, ў плане паказу пераходу ад сялянскага жыцця да гарадскога. Калі ж будзе адлюстравана жыццё тых людзей, якія ўжо чвэрць стагоддзя жывуць супольным жыццём са сваімі заводамі і фабрыкамі? Вельмі важна выявіць тут псіхалогію гэтых людзей, умець знайсці ў іх асяроддзі сур'ёзныя канфлікты.

Новыя плацдармы зазаёўвае дакументалізм у нашай прозе, творы, пабудаваныя ў форме маналога. Нельга забыць расказы сібірскіх беларусаў аб сабе ў нарысе Я. Сіпакова «Па зялёную маланку». Дзіву даешся, як мог пісьменнік так дакладна запісаць іх або па кароткіх запісах потым узнавіць.

Новыя праблемы паўстаюць у творах маладзейшых і старэйшых пісьменнікаў, такія, як чалавек і прырода, рацыяналізм і паэзія жыцця, месца чалавека ў сучасным свеце. Глыбокі роздум, імкненне не абмяжоўваць сябе канстатацыяй фактаў, а паглыбляцца ў аналіз іх, характарызуе гэтыя творы. Станаўленне чалавека як асобы, гаспадара свайго лёсу і жыцця — таксама адметная рыса сучаснай прозы. На гэтым шляху нашых празаікаў чакаюць новыя поспехі.

## НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ



Дзяржаўны рускі тэатр БССР імя М. Горкага паставіў яшчэ адну п'есу вялікага пісьменніка, чыё імя ён косіць. — «Ворагі». Паставіў спектакль заслужаны дзеяч мастацтваў РСФСР А. Даброцін (асістэнт рэжысёра У. Багалюбскі) у дэкарацыях па эскізах заслужанага дзеяча мастацтваў БССР А. Грыгарянца. Ролі выконваюць народны артыст СССР Я. Палосін, народны артыст рэспублікі Р. Янкоўскі, заслужаныя артысты БССР Ю. Сідараў, Е. Весніна, І. Лакштанава, А. Шах-Парон, М. Сокал, І. Ражба, К. Верамейчык і акцёрская моладзь тэатра.

На здымку, зробленым Ул. Крукам, сцэна са спектакля.

У ролі Якава Бадзіна — народны артыст БССР Р. Янкоўскі, Таццяны — артыстка Л. Былінская.

Беларускі тэатр імя Я. Коласа паказаў віцяблянам новы спектакль — казку-камедыю «Прынцэса і Дрывасек» па п'есе Я. Волчака і М. Мікаэлян (пераклад на беларускую мову У. Ганчарова). Рэжысёр У. Забела, мастак А. Салаўёў, балетмайстар — Л. Барадулька.

На здымку С. Кохана вы бачыце сцэну са спектакля: у ролі Прынцэсы артыстка Н. Левашова, Дрывасека — Л. Трушко.



Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР пазнаёміў аматараў аперэты з новым спектаклем — «Вольны вецер». Музыка І. Дунаеўскага. Рэжысёр заслужаны дзеяч мастацтваў Украінскай ССР А. Барсегян, дырыжор заслужаны артыст БССР П. Кірыльчанка, мастак А. Аруцюнян. У спектаклі бяруць удзел заслужаныя артысты рэспублікі Д. Іванова, В. Шаўкалюк, Ул. Дзёгцеў, Н. Равінская, Ул. Ажзрэльеў, маладыя салісты і артысты балета.

На здымку Ул. Крука — сцэна са спектакля «Вольны вецер».

Пакупнік ідзе ў магазін і абвінавачвае прадаўцоў, што не завезлі кнігу са склада. Два тыдні кнігарню «атакоўвалі» бацькі і вучні шостых класаў, патрабуючы «Дрыгву» Якуба Коласа. Я спачатку вёў улік попыту, але калі ён пераваліў за 50—махнуў рукою. Ёсць «На ростанях», «Новая зямля», «З майго летапісу», «Апавяданні». А «Дрыгвы», на жаль, няма. Выдавецтва «Народная асвета» не прадугледзела попыту на аповесць, выдаючы серыю «Школьная бібліятэка».

Валянціна Іванаўна Леўчык, выкладчыца беларускай літаратуры Пухавіцкага раёна, піша: «Аб'ехала раён, сталіцу. Раманы Івана Мележа не знайшла... А так патрэбны «Подых навальніцы». Леўчык, між іншым, не першая і не апошняя, каму патрэбен раман І. Мележа, хто не знаходзіць кнігу ў магазінах.

Цяпер давайце заглянем на паліцу серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». Вось зборнікі паэзіі і іх тыражы: Александровіч—3,5 тысяч экземпляраў, Таўбін—2,7, Пушча—5,0, Дубоўка—3,0. В. Вітка—5,5, Бураўкін—4,0,Макаль—6,0, Астапенка — 5,0, Купала—5,0, .

Як бачыце, і тут многія кнігалюбы пазбаўлены магчымасці поўнасцю набыць серыю. Ужо зараз не знойдзеш зборніка Янкі Купалы.

У кнігарні любы прадавец скажа, што Купалу і Коласа патрабуюць увесь час і літаральна ўсё, што імі напісана. А знайдзіце сёння ў кнігарнях «Прымакоў» ці «Тутэйшых» Купалы, «На прасторах жыцця» ці тую ж «Дрыгву» Коласа. Не знойдзеце.

У апошнія гады значна павысілася цікавасць пакупнікоў да маладой беларускай літаратуры. Недаравальна малым тыражом выходзіць серыя «Першая кніга паэта». Штодзённа патрабуюць Разанава, Мацяш, Янішчыц, Іпатаву, а кніг у продажы няма. Тыражы? Кот наплакаў, як у народзе кажуць. Разанава і Мацяш выдалі двухтысячным тыражом, Янішчыц на 300 экземпляраў больш, 4,5 тысячы першай кнігі Іпатавай таксама разышліся. Глядзім у тэматычны план выдавецтва «Беларусь» на 1971 год—у серыі выходзіць сем кніжак і зноў тыражы па 2 тысячы экземпляраў. Хочацца спадзявацца, бо яшчэ не позна, што цікаўнасць да гэтай серыі з боку пакупнікоў будзе ўлічана выдавецтвам.

Малавата і мізэрнымі тыражамі выпускаецца ў нас яшчэ крытычная літаратура пра творчасць вядомых беларускіх пісьменнікаў, якіх вывучаюць у школах, інстытутах, універсітэтах. Попыт на яе заўсёды павышаны. Гэта і зразумела, бо менавіта гэтыя кніжкі дапамагаюць лепш зразумець самога пісьменніка, яго творчасць.

Мне здаецца, што выдавецтва «Беларусь», дзе друкуецца не толькі мастацкая літаратура, проста «фізічна» не можа працаваць без хібаў. Наспела патрэба і ў нас, у Беларусі, мець спецыялізаванае выдавецтва мастацкай літаратуры, накшталт «Художественной литературы», «Советского писателя» ў РСФСР, «Радзяньскага пісьменніка», «Молоді», «Дніпра»—на Украіне, якія выпускаюць мастацкую літаратуру. Калі такое выдавецтва будзе створана, то справы, безумоўна, палепшацца, і гэта пойдзе на карысць дзяржаве, грамадству, чытачам.

Кніжны гандаль, попыт чытачоў на беларускую мастацкую літаратуру паказвае, што сённяшнія тыражы яўна не задавальняюць пакупнікоў. І разам з тым можна пачуць: чаму ж кнігі многіх аўтараў залежваюцца на паліцах гадамі, трацяць таварны выгляд, не знаходзяць чытача. Мне здаецца, таму, што такіх кніг, выдадзеных і перавыдадзеных, скапілася шмат на паліцах кнігарань, або і таму, што аўтары іх не здолелі зацікавіць сваімі творамі чытачоў.

Думаецца, што тыражы кніг, якія не карыстаюцца попытам, павінны рэзка скарачацца, трэба такія кнігі і выдаваць радзей. Творы высокамастацкія, паўтараю, на паліцах не ляжаць, і такім творам, такім аўтарам і трэба даваць большыя тыражы, як яны таго і заслужылі.

Мне здаецца, што такая пастаноўка справы выхоўвала б і патрабавальнасць аўтараў, спрыяла б іх творчаму росту.

Зразумела, гэта толькі мае прыватныя думкі. Цікава было б пачуць, што пра гэта думаюць самі выдаўцы. Спадзяюся пачуць іх слова ў газеце «Літаратура і мастацтва».

Пятрусь КАПЧЫК,
студэнт Мінскага кааператыўнага тэхнікума Белспажыўсаюза.

# РОДНАЕ І ЗНАЁМАЕ

«Роднае» — так называецца новы зборнік вершаў У. Ляпёшкіна. Сапраўды, паэт піша пра роднае і знаёмае. І піша неяк «знаёма», проста, сціпла, верачы, што і сёння паэзія яшчэ можа быць такой — па-хатняму звыклай, цёплай, не лішне патрабавальнай, як матчына песня.

> Зубчаты лес за вёскаю сінеў,
> Гусей крыклівых плавалі чароды...
> Спявала маці у маленстве мне,
> Худой рукой падпёршы падбародак.
>
> («...Зубчаты лес за вёскаю сінеў»)

У вершы «Дудзічы» за эпіграф узяты радкі з народнай песні «Ой, дудка мая, весялушка мая» і апаэтызавана сама дудка — старажытны беларускі музычны інструмент, які даўно стаў сімвалам сціплага народнага мастацтва. Некалі паэты любілі параўноўваць сваю музу з народнай дудой, дэкларуючы гэтым непасрэднасць паэзіі, сугучнасць яе настроям простага чалавека, яе «хатняе» прызначэнне, гатоўнасць заўсёды быць «пад рукой». І хоць сучасная беларуская паэзія гучыць ужо як складаная аркестравая сімфонія, у ёй ёсць месца для некалькіх паэтычных галасоў, якія бяруць блізка да тону дуды. Паэзія У. Ляпёшкіна, на нашу думку, таксама належыць да іх.

Вершы зборніка «Роднае», як і ўсё напісанае У. Ляпёшкіным, вельмі традыцыйныя па форме, па мастацка-выяўленчых сродках, па вобразным каларыце. У гэтым сэнсе яны таксама нагадваюць характэрную нязменнасць музычнага ладу дудкі.

За апошнія дзесяцігоддзі беларуская паэзія перажыла даволі шырокія (храналагічна) перыяды глыбокіх стылявых пошукаў і паспяховага абнаўлення самой мовы верша. Аднак гэтыя важныя падзеі на паэтычным небасхіле нібы зусім не кранулі творчасці У. Ляпёшкіна, быццам нават іх водгулле не пачута ім. Ствараецца такое ўражанне, што паэт дазволіў сабе ісці наперад абочынай галоўных паэтычных дарог, на прыстойнай дыстанцыі ад іх, спадзеючыся толькі на ўласны самаізаляваны запас эмацыянальных узрушэнняў. Такая пазіцыя рыхтуе шмат пастак на паэтычным шляху — асабліва пагрозлівай становіцца небяспека правінцыялізму, калі прыглушваюцца паэтычныя пачуцці і звужаецца грамадзянскі кругагляд паэта. Але адносная незалежнасць ад агульных зрухаў у паэтычным развіцці часам дае і выйгрыш. У пару ўсеагульнага таптання на месцы, калі эстэтычна вычэрпваецца модная тэндэнцыя і замест рэальнага поступу да ідэйна-мастацкіх адкрыццяў пачынае пераважаць сканструяваная абстрактная і пустая імітацыя гэтага поступу, такі паэт застаецца сам сабой і яго вершы нярэдка гучаць свежа, непасрэдна і прывабна. Як верш У. Ляпёшкіна «На начлезе»:

> Табун скубе заспаную траву,
> Атрэсвае астуджаныя росы,
> Густыя цені ад кастра плывуць,
> І месяц твар над хмараю выносіць.

Верш «На начлезе» — успамін пра маленства. Але ўспамін эмацыянальна стрыманы, акрэслены, па-чалавечы тактоўны і натуральны. У. Ляпёшкіна зусім не захапіла ўласцівая некаторым паэтам мода вяртацца ў думках да свайго дзяцінства, роднай вёскі з завышанай экзальтацыяй, з надрыўнай, але лёгкаважкай кляцьбой у вернасці роднаму дому. У вершах У. Ляпёшкіна вобраз мінулага праўдзівы і звычайны. У ім — лёгкі сум па незваротнай маладосці і памяць пра цяжкае пасляваеннае, бясхлебнае дзяцінства, і непаказны гонар за яго, бо там пачатак плённай сталасці, якая прыйшла як быццам трохі захутка і незапрошана.

> Я імяніннік. Сёння ў госці
> Пазваў мінулыя гады.
> Малечыя гады — на покуць,
> Гады юнацтва — леваруч.
> Ступае сталасць справа, збоку,
> — Пастой садзіцца, — гавару.
>
> («Гады ў гасцях»)

У вершах У. Ляпёшкіна «радзімай пахнуць туманы», шмат іншых па-мастацку дакладных вобразаў: «Як касец, стаіць у мурагах да сарочкі распрануты бусел», «Ваду чарпнуўшы вёдрамі, лугамі восень... ідзе шчаслівая і гордая». Ёсць не толькі цікавыя, арыгінальныя мастацкія знаходкі, але і ёмістыя па сэнсе, па сіле абагульнення вобразы. У паэзіі ўзрост чалавека, лірычнага героя перадаецца традыцыйна колькасцю пражытых вёснаў або маяў. У гэтым жа вершы «Гады ў гасцях» У. Ляпёшкін напісаў: «Я сорак лютых размяняў». І як шмат сказаў гэтым паэт не толькі пра сябе, але і пра сваё пакаленне, «пра студэнтаў згаладалых брацтва», пра тых, каму давялося «губляць і даганяць» свае гады.

Можна сказаць, што У. Ляпёшкін узяў прастату за галоўны эстэтычны прынцып сваёй творчасці. Ён палемічна не прымае ніякай вобразнай складанасці, мастацкай умоўнасці і суаднесенасці. У самым стылявым вобліку паэтычнай фразы, вершаванага радка ніколі няма неазначальнасці, неакрэсленасці, няпэўнасці сцвярджэння, накшталт: «Ці ўсе лугі пакошаны, ці ўсе сенажаці?» У вершах У. Ляпёшкіна ўсё пэўна, усё сцвярджальна:

> Жыты змалочаны ўсе,
> Усе лугі пакошаны.
>
> («Маўчыць дуброва, не гудзе»)

Аднак прастата вершаў У. Ляпёшкіна — сціплая прастата. Яна не рэкламуе сябе, не выдае ўласных магчымасцей за ўзровень класічны, не супроцьпастаўляе сябе астатняй паэзіі, складанаму мастацка-стылявому ладу сучаснага верша. Яна хоча гаварыць толькі сама за сябе. І гэта падкупляе.

Калі шукаць нейкі агульны вывад адносна зборніка «Роднае», то можна сказаць, што галоўнае ў ім — паэтызацыя жыццёвай звычайнасці, у якой таксама ёсць свая прыгажосць і паэзія, калі яна да болю знаёмая і дарагая сэрцу. Вось радкі з верша «Зноў развінае чэрвень свае плечы»:

> У гай туман без бою адступае,
> Чапляецца над рэчкай за вярбу...
> З гадоў маленства я не прасыпаю
> Сяўбу, жніво і звонкую касьбу.

Паэт і не ставіць сабе ў заслугу гэтую чуйнасць да важных падзей вясковага жыцця. Ён проста сцвярджае факт душэўнай блізкасці свайго лірычнага героя да вёскі. У. Ляпёшкін заўсёды відочна аддае перавагу бясспрэчнаму і характэрнаму факту перад нібыта суб'ектыўнай паэтычнай няпэўнасцю адносін да гэтага факта.

І ўсё ж у пазіцыі паэта, які так ахвотна трымаецца прастаты, традыцыйнасці, звычайнасці, крыецца небяспека абмежаванасці і аднастайнасці. Тое ж можна сказаць пра некаторыя вершы зборніка «Роднае». Часам фактаграфічнасць у іх залішне ўжо бяскрылая, паэтычная думка — бедная або неразгорнутая, эмацыянальны запал — слабы, невыразны, а псіхалагізм сітуацый — павярхоўны.

Вось змест верша «Максіміха». Жанчына, якая не прычакала з вайны пяцёх сыноў, кожную вясну выходзіць сустракаць іх на дарогу. Вядома, сітуацыя такая драматычная сама па сабе. Але драматычнасці гэтай чытач не адчуе па-сапраўднаму, бо ён не ўведае з верша, што на душы ў няшчаснай жанчыны, пра што яна думае і як, наогул, які яе маральны стан у такім горы.

У вершы «Дахаты больш не вернецца яна» жанчына, паміраючы, наказвае мужу глядзець дзяцей. І ўсё. Змест верша гэтай канстатацыяй і вычэрпваецца. Таму, можна сказаць, верша яшчэ і няма. Ёсць толькі яго пачатак, зачын, «экспазіцыя» да развіцця паэтычнага дзеяння, паэтычнай думкі.

Паэт нібы баіцца складанасці ўнутранага жыцця людзей у вострых, незвычайных сітуацыях, і таму зусім абмінае яго.

Нязначнымі па змесце, па ідэі з'яўляюцца вершы «Уздыхаюць ля вакзала цягнікі», «Свабодны я да восені ў палях», «Роздум пра багаж», «Хваляваецца вам шкодна» і некаторыя іншыя.

У. Ляпёшкіну трэба асцерагацца, каб прастата ў яго вершах не ператваралася ў спрошчанасць, сціплая непатрабавальнасць — у неахайнасць формы, раўнавага эмоцый — у заспакоенасць, традыцыйнасць тэмы — у боязь надзённай жыццёвай праблематыкі.

Простая, традыцыйная манера пісьма сёння таксама патрабуе самых высокіх і сучасных эстэтычных асноў творчасці.

**Віктар КАВАЛЕНКА.**

Уладзімір Ляпёшкін. «Роднае». Вершы. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1970.

# ЗАПРАШЭННЕ ДА ПАДАРОЖЖА

**У маскоўскім выдавецтве «Детская литература» выйшла кніга Алены Кобец-Філімонавай «Лясны барабан». Кніжка пачынаецца вершам «Пісьмо Алесі», гераіня якога запрашае ўсіх дзяцей наведаць яе родную Беларусь: яна абяцае ім паказаць блакітныя азёры і неба, залатое сонца, векавыя лясы, у якіх некалі грымела партызанская слава. Велічны і прывабны вобраз нашай краіны паўстае перад вачыма маленькіх чытачоў, і народ яе — працалюбівы і гасцінны, які здаўна славіцца сваімі добрымі традыцыямі.**

**З уласцівай аўтару прыўзнятасцю і захапленнем вядзецца размова пра ручайкі, абуджаную раку, якая так раптам «зашумела, забурліла», што аж «затапіла ваколіцы».**

**У многіх вершах з кніжкі «Лясны барабан» дзейнічаюць не толькі дзеці, птушкі, звяры, але і розныя рэчы. Адухоўлены і з'явы прыроды. Усё гэта, безумоўна, абуджае цікавасць у дзяцей, спрые іх актыўнаму ўспрыняццю навакольнага асяроддзя. Так, напрыклад, вецер у вершы «Вецер і хмара», нібы хлапчук-гарэза, гуляе бестурботна па свеце, а, сустрэўшы хмару, схапіў яе балюча за чорную грыву і прымусіў праліцца дажджом над засмяглым полем.**

**А. Кобец-Філімонава ўмее некалькімі штрыхамі стварыць запамінальны вобраз, малюнак. Усяго восем радкоў склалі верш «Добрая раніца», але гэтага аказалася дастаткова, каб «увачавідкі» ўбачыць ціхую раніцу, якая вандруе ад двара да двара і апавяшчае малышоў аб наступленні новага дня.**

**Чым больш дзеяння ў творах для дзяцей, тым больш яны падабаюцца маленькім, бо гэта адпавядае іх дапытлівасці, трапляе іх неўтаймаванаму імкненню да дзейнасці. Сустракаюцца, праўда, сярод дзяцей і такія, што падоўгу могуць назіраць за птушкамі, насякомымі, «вывучаць» іх характары. У «Лясным барабане» знойдзецца і для такіх шмат цікавага і прывабнага.**

**Многія вершы прасякнуты грамадзянскім пафасам, услаўляюць сацыялістычную рэчаіснасць, выклікаюць у маленькіх пачуццё гонару за нашу айчыну, вучаць іх любіць чырвоны колер нашых сцягоў...**

**Аднак сярод мноства па-сапраўднаму харошых і цікавых вершаў надараюцца недапрацаваныя, як бы выпадковыя. Возьмем, напрыклад, верш «Вясёлы карагод». У ім аўтар рыфмуе ўласныя імёны што, безумоўна, зніжае мастацкія вартасці твора. Цяжка ўявіць і тое, што ў мяшку можа быць і вуда, і вожык, і суніцы, і брусніцы, і птушка, і яшчэ шмат чаго.**

**Як і некаторыя другія аўтары, хто піша для дзяцей, паэтэса не пазбегла відочных памылак. Так, у вершы «Рамонка» яна гаворыць, што «салодкі мядок рамонкі п'юць і пчала, і матылёк». Але ж вядома, што пчолы з кветак рамонкаў ніколі не бяруць мёду, а матылькі і казуркі — тым больш.**

**В. ЖГУТ,**
**настаўнік.**

А. Кобец-Філімонава. «Лясны барабан». Выдавецтва «Детская литература», Масква, 1970.

# З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ У СЭРЦЫ

**Зусім нядаўна ў шведскім горадзе Упсала выйшла праца, якая, безумоўна, зацікавіць беларускіх філолагаў і гісторыкаў. Гэта — даследаванне Юзафа Трыпуцькі «Пра мову ўспамінаў Францішка Міцкевіча», выдадзенае на польскай мове ў славістычнай серыі Упсальскага універсітэта.**

Спачатку — некалькі слоў пра тое, хто такі Францішак Міцкевіч.

Аўтар мемуараў, мову якіх даследуе Ю. Трыпуцька, цікавы для нас перш за ўсё таму, што ён старэйшы брат генія польскай літаратуры Адама Міцкевіча і, як і ён, правёў значную частку свайго жыцця ў Навагрудку. Удзельнік паўстання 1831 года, Францішак Міцкевіч трапіў потым у выгнанне, у Вялікапольшчу, і там, у Лукаве, дзесьці каля 1835 года, напісаў мемуары пра сваё дзяцінства на беларускай зямлі. Цяпер тэкст успамінаў захоўваецца ў Парыжскім музеі А. Міцкевіча, дзе іх і ўзяў Юзаф Трыпуцька для першай навуковай публікацыі.

Тэкст успамінаў Ф. Міцкевіча, які прыкладзены да манаграфіі, з'яўляецца цікавай крыніцай для даследчыка першай паловы мінулага стагоддзя. Аўтар падрабязна расказвае пра сваіх бацькоў, якія былі вядомы «сапраўдным замілаваннем да любімай Літвы-зямліцы — мілай і дарагой Айчыны нашай». У мемуарах апісаны колішні Навагрудак, яго ратуша са старадаўнім гадзіннікам на вежы. З успамінаў мы можам даведацца аб жыцці і настроях навагрудскай школьнай моладзі, якая аднойчы выступіла супраць салдат царскай арміі, збіла і ўзяла «пад арышт» паручніка Сяміградскага. Грамадскае жыццё горада ажыўлялі прадстаўленні ў час ярмарак. На іх, піша Ф. Міцкевіч, прыязджалі заканадаўцы мод з Варшавы і Вільні, «натоўпы артыстаў і артыстак, звычайна нейкіх немцаў з Прус і Аўстрыі... Адны даюць канцэрты, другія скачуць на лінах, іншыя, наследуючы па сіле Самсону, па цэнтнеру каменні на жываце разбіваюць. Там Балоні на конях цуды робіць. У іншым месцы Арас звярынец корміць. Тут сабачкі ў такт танцуюць і папяровыя ўмацаванні здабываюць. У іншым месцы драўляныя аўтаматы як людзі ходзяць. Нарэшце, балы, рэдуты, казіно». Ладзіліся прадстаўленні і ў школьным самадзейным тэатры, дзе браты Міцкевічы выконвалі галоўныя ролі ў п'есе А. Фялінскага. Аўтар мемуараў не толькі падрабязна апісаў горад (у ім тады было 8 тысяч жыхароў, 5 рамесных цэхаў, 21 камяніца, 96 крам), але і прывёў найбольш цікавыя факты з яго даўняй гісторыі.

Як даследчыка, Юзафа Трыпуцьку мемуары Францішка Міцкевіча зацікавілі перш за ўсё тым, што яны напісаны на тым «паўночна-крэсовым дыялекце» польскай мовы, на якой гаварыла тагачасная навагрудская шляхта, гаварылі ў доме Міцкевічаў. Гэтай мовай карыстаўся будучы паэт у дзяцінстве і юнацтве. Вось чаму, слушна сцвярджае Ю. Трыпуцька, даследаванне мовы ўспамінаў садзейнічае «грунтоўнаму і ўсебаковаму пазнанню ўсіх аспектаў мовы Адама Міцкевіча».

Паколькі ўспаміны Ф. Міцкевіча невялікія па аб'ёме, Ю. Трыпуцька змог даць поўную «статыстыку» лексічнага іх складу. Каля 22 працэнтаў лексікі твора складаюць запазычанні — лацінізмы, германізмы, цюркізмы. Ну і, вядома ж, русізмы і беларусізмы. Такім беларусізмам з'яўляецца, напрыклад, слова «бжаск» (ключа). Як аргументавана даказвае даследчык, яно паходзіць ад беларускага «бразгаць». У працы ёсць спасылкі на Карскага і іншых беларускіх даследчыкаў.

Апрача мемуараў, Ю. Трыпуцька выявіў у Парыжы і іншыя рукапісы Ф. Міцкевіча — паэму «Сумны ўспамін» са зваротамі да Нёмана, нарыс гісторыі Расіі з найдаўнейшых часоў да Кацярыны II, апісанне Навагрудка, пісьмы.

Застаецца толькі сказаць некалькі слоў аб самім аўтары цікавага даследавання. Юзаф Трыпуцька нарадзіўся на Маладзечаншчыне, у 1929 годзе закончыў гімназію ў Вілейцы, у 1934 годзе — Віленскі універсітэт. Да вайны паехаў у Хельсінкі выкладаць польскую мову, а ў 1940 годзе аказаўся ў Швецыі, дзе цяпер працуе прафесарам-славістам. Ю. Трыпуцька апублікаваў ва Упсалі двухтомную працу «Мова Уладзіслава Сыракомлі», дзе таксама шырока адзначаны беларусізмы. Як бачна з пісьма Ю. Трыпуцькі да аўтара гэтых радкоў (пісьмо, дарэчы, напісана па-беларуску), шведскі славіст добра ведае творы Купалы і Коласа, сістэматычна знаёміцца з «Полымем». Факты беларускай мовы ён шырока выкарыстоўвае ў сваіх лінгвістычных працах.

**А. МАЛЬДЗІС.**

Józef Trypucko. O jezyku wspomnien Franciszka Mickiewicza. Upsala. 1970.

# ЗАГАНЫ ПАЧЫНАЮЦЦА З ПРАГРАМ

*З ВОПЫТУ РАБОТЫ УНІВЕРСІТЭТАЎ КУЛЬТУРЫ*

УЖО НЕКАЛЬКІ год у Мінскім раёне працуе Сенніцкі універсітэт культуры з факультэтамі музыкі і выяўленчага мастацтва. Яго профіль вызначан наяўнасцю тут дзіцячай музычнай школы і цеснымі кантактамі з Мастацкім музеем БССР. Гэтыя некалькі год работы далі каштоўны вопыт, які можна з поспехам выкарыстоўваць у іншых раёнах.

Перш за ўсё — хто наведвае універсітэт? Сярод якога насельніцтва ён праводзіць сваю работу, каго выхоўвае?

Склад аўдыторыі універсітэта разнастайны і па ўзросце і па адукацыі. Яго наведваюць пажылыя і маладыя калгаснікі, спецыялісты сельскай гаспадаркі, настаўнікі, навучэнцы старэйшых класаў і хатнія гаспадыні. З улікам іх пажаданняў складзена праграма універсітэта.

Знаёмства з музыкай пачалося з самага даступнага — з песні. Вось некаторыя тэмы заняткаў: «Харавое мастацтва —самае масавае», «Народная песня — аснова прафесіянальнага мастацтва», «Руская народная песня» і інш. Слухачы знаёмяцца з гісторыяй развіцця музычнага мастацтва, частымі гасцямі ва універсітэце бываюць музыказнаўцы, кампазітары рэспублікі. Незабыўныя ўражанні засталіся ў слухачоў ад сустрэч са славутымі беларускімі музыкантамі Р. Шырмай, І. Жыновічам, У. Алоўнікавым, Ю. Семянякам, прарэктарам па навуковай і навучальнай часткі Белдзяржкансерваторыі К. Сцепанцэвіч, музыказнаўцам А. Ракавай. Іх выступленні прысвячаліся пытанням развіцця беларускай музыкі.

На факультэце выяўленчага мастацтва заняткі праводзяць навуковыя работнікі Мастацкага музея БССР. У час лекцый паказваюцца рэпрадукцыі з карцін і дыяпазітывы, умела звязваецца мастацтва далёкіх часоў з жыццём сённяшнім, даюцца практычныя парады па прыкладным мастацтве — усё гэта пакідае след у свядомасці слухачоў, фарміруе іх мастацкі густ.

Бываюць агульнаўніверсітэцкія лекцыі на грамадска-палітычныя тэмы, аб перамогах у космасе, па праблемах развіцця сучаснага мастацтва.

Для многіх народных універсітэтаў складанай праблемай застаюцца арганізацыйныя непаладкі: то лектар своечасова не падрыхтаваўся і просіць перанесці заняткі, то слухачы не прыйшлі, то не паспелі слухачам паведаміць аб зменах у праграме. Здаецца, дробязі, але ўсе яны прыводзяць да дэзарганізацыі навучальнага працэсу, парушэння рабочага рытму і, урэшце, да правалу ўсёй справы. Так здарылася ў Радашковіцкім гарадскім універсітэце эстэтычнага выхавання.

Савет Сенніцкага універсітэта, які ўзначальвае дырэктар музычнай школы Уладзімір Фёдаравіч Богдан, надае сур'ёзную ўвагу планаванню заняткаў, удасканаленню методыкі іх. Строгая і паслядоўная сістэма навучання выключае ўсякія зрывы заняткаў. Адсюль і поспехі ў навучальна-выхаваўчай рабоце. Па выніках Усесаюзнага грамадскага агляду, які праводзіўся ў гонар юбілею У. І. Леніна, універсітэт узнагароджан Ганаровай граматай Міністэрства культуры БССР і Беларускага рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў культуры. Заахвочванні і ўзнагароды атрымалі яшчэ 12 лепшых універсітэтаў культуры: Уздзенскі, Стаўбцоўскі, Касцюковіцкі, Рагачоўскі і іншыя.

Шмат цікавага ў дзейнасці універсітэтаў эстэтычнага выхавання насельніцтва. І тым не менш няма падстаў сказаць, што ўсё цудоўна. Аблічча кожнага універсітэта вызначае навучальная праграма. Яна павінна прадугледзець дакладнае і сістэматычнае вывучэнне прадмета, разумна весці слухачоў ад простага да складанага, спалучаць навуковасць і папулярнасць у выкладанні матэрыялу.

Многія універсітэты культуры распрацавалі стройныя, прадуманыя планы, якія даюць слухачам цэласнае ўяўленне аб прадмеце. Але нярэдкія выпадкі, калі заняткі праводзяцца па планах, складзеных наспех, павярхоўна, без пэўнай сістэмы і паслядоўнасці. Іншы раз ёсць проста 10—12 выпадковых тэм па розных пытаннях грамадска-палітычнага жыцця, эстэтыкі, этыкі, літаратуры і мастацтва. Напрыклад, ва універсітэце пры Жлобінскім раённым Доме культуры ў гэтым навучальным годзе заняткі ідуць у такой паслядоўнасці: «Аб ленінскіх прынцыпах партыйнасці літаратуры і мастацтва», «Музыка ў жыцці У. І. Леніна», «Вялікія рускія мастакі», «Развіццё савецкага кінамастацтва», «Росквіт культуры і мастацтва народаў СССР — вынік ленінскай нацыянальнай палітыкі». Апрача таго, прадугледжаны тры заняткі па тэатры, адны — на грамадска-палітычную тэму, адны — па танцавальным мастацтве, адны — па жывапісе наогул. Вядома, усе гэтыя тэмы важныя, выклікаюць цікавасць у слухачоў. Культасветустановам трэба і надалей праводзіць клубныя мерапрыемствы па розных пытаннях літаратуры і мастацтва. Але наўрад ці трэба падобныя лекцыі называць універсітэтам культуры, паколькі ў самой тэматыцы адсутнічае сістэма ведаў, пераемнасць.

Часам навучальныя планы здзіўляюць сваёй складанасцю, непрадуманасцю, імкненнем арганізатараў у адной тэме ахапіць неахопнае. Напрыклад, ці можна цікава пабудаваць лекцыю, тым больш ва ўмовах раёна, на тэму «Вобраз У. І. Леніна на экране і ў выяўленчым мастацтве» (Чачэрскі універсітэт культуры), «Выдатныя савецкія кампазітары С. Пракоф'еў, Д. Шастаковіч, А. Хачатуран» (Рэчыцкі універсітэт культуры), «Вялікія рускія мастакі» (Жлобінскі універсітэт культуры). Ва універсітэце пры Ельскім раённым Доме культуры Гомельскай вобласці па аднаму занятку выдзелена на вывучэнне тэм «Рускі тэатр XIX стагоддзя: Грыбаедаў, Пушкін, Астроўскі, Чэхаў, Гогаль», «Сімфанічная творчасць савецкіх кампазітараў Пракоф'ева, Шастаковіча, Мяскоўскага, Кабалеўскага, Хачатурана, Гліера». Кожнаму відаць, што такі «галоп» можа назаўсёды адбіць ахвоту ў слухачоў наведваць універсітэт.

Ці яшчэ адна крайнасць. Ва універсітэце культуры пры Гомельскім музычным вучылішчы імя Н. Ф. Сакалоўскага на першым годзе навучання заняткі са слухачамі праводзіліся на тэмы: «Ф. Шапэн», «Л. Бетховен», «М. Мяскоўскі», «С. Пракоф'еў», «Р. Гліер», «Д. Шастаковіч», «Г. Свірыдаў» і інш. Многае, аб чым ішла гутарка на занятках, было незразумела слухачам. Ва ўніверсітэт жа прыйшлі людзі, якія не маюць спецыяльнай музычнай падрыхтоўкі — рабочыя і служачыя прадпрыемстваў, навучэнцы рамесніцкіх вучылішчаў, медыцынскія работнікі. З-за складанасці тэматыкі большасць слухачоў перасталі наведваць універсітэт. Па рашэнні савета быў вызначаны новы кантынгент слухачоў — са студэнтаў, будучых музыкантаў. Але зноў жа для іх навучанне ва універсітэце не з'яўляецца асабліва неабходным і цікавым, паколькі пытанні тэорыі, гісторыі музыкі, творчасць кампазітараў вывучаюцца па асноўнай праграме вучылішча. Улічваючы наяўнасць высокакваліфікаваных кадраў, хацелася б, каб універсітэт стаў даступны для ўсіх жыхароў Гомеля, якія жадаюць павысіць свае веды ў галіне музычнага мастацтва.

Агульным недахопам навучальных праграм з'яўляецца іх празмерная лаканічнасць. Яны ўключаюць назву раздзелаў і тэм, але не раскрываюць змест матэрыялу. Часта ў вучэбных праграмах можна сустрэць тэмы: «Народная песня — аснова музычнага мастацтва», «Тэатр і яго асаблівасці». А якія пытанні выкладчыку трэба разгледзець на занятках? Аб чым гаварыць у сваёй лекцыі? Аб гэтым складальнікі вучэбных праграм не гавораць ні слова. Лектар раскрывае тэму так, як ён яе разумее, і многія важныя пытанні застаюцца неасветленымі.

Бывае і так — ёсць добры навучальны план, праграма, застаецца толькі арганізаваць як след вучэбна-выхаваўчы працэс. Гэта вялікая і складаная справа. Трэба ўлічваць, што слухачы ў большасці выпадкаў маюць розную адукацыю, прафесію, узрост, а праграма для ўсіх адна. «Прыстасаванне да разумовых сродкаў аўдыторыі», калі казаць словамі Сечанава, — закон для выкладчыкаў. Возьмем форму падачы матэрыялу. Для адных слухачоў дастаткова лекцый і мастацкіх ілюстрацый. Для другіх трэба арганізаваць канферэнцыі, субяседванні, індывідуальныя кансультацыі.

Ва універсітэце мастацкага выхавання Гомельскага Палаца культуры імя У. І. Леніна ў мінулым навучальным годзе для слухачоў якія даўно наведвалі універсітэт, былі арганізаваны групы, дзе кожнаму прадстаўлялася магчымасць не толькі слухаць тэарэтычныя лекцыі, але і праявіць свае здольнасці на занятках у гуртках мастацкага слова, аматараў паэзіі, музыкі, студыі выяўленчага мастацтва. На жаль, у гэтым навучальным годзе добрае пачынанне не знайшло далейшага развіцця.

Добрым дапаможнікам у дзейнасці Пінскага, Віцебскага, Полацкага універсітэтаў культуры з'яўляюцца фанатэкі. Выкарыстанне запісу музычных твораў робіць лекцыі больш зразумелымі, эмацыянальнымі, садзейнічае лепшаму засваенню матэрыялу. Але пакуль не кожны раённы, гарадскі Дом культуры мае фанатэку, хоць усе забяспечаны магнітафонамі. Тыя ж запісы, якія ёсць, бедныя, у асноўным гэта эстрадная музыка. Цяжка сустрэць грампласцінкі або магнітафонныя стужкі з запісамі сімфанічнай і інструментальнай музыкі, лекцыі па розных пытаннях літаратуры і мастацтва.

Недахопаў у рабоце універсітэтаў культуры яшчэ шмат. Але накоплен каштоўны вопыт, які дае магчымасць ставіць перад імі новыя, больш складаныя задачы.

**А. КАРПАВА,**
старшы інспектар Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР.

З АРХІЎНЫХ ПАЛІЦ

# ЧАМУ ЎСХВАЛЯВАЎСЯ ГУБЕРНАТАР?

**На пачатку вясны 1833 года генерал-губернатар віцебскі, магілёўскі і смаленскі князь Хаванскі па службовых справах прыехаў у Магілёў. І зусім выпадкова ў адной з устаноў убачыў знаёмы яму твар. Ды гэта ж Васілій Аляб'еў, успомніў губернатар, што ён тут робіць? Вярнуўшыся ў сваю рэзідэнцыю ў Віцебску, генерал-губернатар піша сакрэтнае пісьмо магілёўскаму губернатару Міхайлоўскаму: «Міласцівы гасудар мой, Аляксей Іванавіч! У апошні раз будучы ў горадзе Магілёве, меў я выпадак бачыць там стацкага саветніка Аляб'ева. Прашу ваша высокаблагароддзе, праз каго належыць даведаўшыся, паведаміць мне, з якога часу і для якіх патрэб гэты Аляб'еў знаходзіцца ў Магілёве: чым менавіта ён займаецца і ўвогуле якой вы пра яго думкі...»**

Чым жа было выклікана гэта сакрэтнае пісьмо? Чаму стацкі саветнік Аляб'еў занепакоіў самога генерал-губернатара?

Справа ў тым, што Васілій Аляб'еў, якога ўбачыў князь Хаванскі ў Магілёве, быў родным братам Аляксандра Аляксандравіча Аляб'ева, ужо вядомага ў той час рускага кампазітара. Аляб'евы былі прагрэсіўна настроенымі людзьмі. Па ініцыятыве іх бацькі, правіцеля Табольскага намесніцтва, узнік перыядычны друк у Сібіры і быў створаны першы ў гэтым краі публічны тэатр (у Табольску). Маці была блізкай сваячкай рускага асветніка Новікава. Аляксандр Аляб'еў, які ўдзельнічаў у Айчыннай вайне 1812 года пад начальствам Дзяніса Давыдава, належаў да вольналюбівай неспакойнай часткі рускага афіцэрства. А браты вельмі сябравалі паміж сабой. Творчыя інтарэсы зблізілі Аляксандра, а значыцца і Васілія, з А. Грыбаедавым, У. Адоеўскім, А. Вярстоўскім, пазней з паэтам-рэвалюцыянерам М. Агаровым. Аляксандр Аляб'еў быў вядомы як таленавіты і сталы майстар рускага раманса, вызначаўся тонкім дараваннем меладыста і адчуваннем гармоніі. З паэтаў, прадстаўленых у рамансах Аляксандра Аляб'ева, на першым месцы па колькасці твораў— Пушкін, затым Дэльвіг і Жукоўскі, далей Языкоў, Вельтман і брат Васілій Аляб'еў.

Царскія ўлады не грэбавалі нічым, каб пазбавіцца ад прагрэсіўна настроеных, з перадавымі поглядамі людзей. Пазбавіліся і ад Аляксандра Аляб'ева, сфабрыкаваўшы ілжывае абвінавачанне ў забойстве партнёра па гульні ў карты. І хоць віна яго не была даказана на судзе, яго саслалі ў Сібір, пазбавіўшы ўсіх маёмасных правоў.

І раптам родны брат Аляксандра Аляб'ева ў Магілёве! Пасля падаўлення паўстання 1830 года брат чалавека, які сябраваў з дзекабрыстамі і іншымі рэвалюцыйна настроенымі асобамі, з'яўляўся яўна непажаданым госцем для слуг царскага самадзяржаўя. Таму і было паслана сакрэтнае пісьмо князя Хаванскага магілёўскаму губернатару. Апошні піша адказ наступнага зместу:

«Міласцівы гасудар, князь Мікалай Мікалаевіч! Выконваючы волю, выказаную мне ў пісьме вашага сіяцельства ад 18 дня сакавіка за № 36, маю гонар данесці: памешчык Маскоўскай губерні стацкі саветнік Васілій Аляксандравіч Аляб'еў жыве ў Магілёве каля двух год... па справе сваёй, якая знаходзіцца ў тутэйшай грамадзянскай палаце, аб спагнанні з князя Казлоўскага 50 тысяч рублёў, якія яму і прысуджаны... Прыватнае яго жыццё тут не прадстаўляе нічога незвычайнага, у асаблівасці ж такога, што б паслужыла да нявыгаднага аб ім заключэння. Ён жанаты, займае добрую кватэру, мае некалькіх для паслугі людзей, трымае экіпаж, словам, жыве, як кажуць, прыстойна. Не будучы знаёмы ў яго доме, я ведаю, аднак, што кола бліжэйшага яго знаёмства вельмі малалікае і абмяжоўваецца некалькімі настаўнікамі з тутэйшай гімназіі, мастаком Ражновым і іншымі, сам жа п. Аляб'еў вядомы як вершаскладальнік; між іншым, на візітах ён знаёмы з многімі, што жывуць тут. Жонку яго ў публіцы здаралася мне бачыць толькі ў тутэйшым высакародным сабранні, дамамі ж, здаецца, яна ні з кім не знаёма. Больш гэтага аб пане Аляб'еве вашаму сіяцельству нічога прадставіць не маю».

Магчыма, грошы, з-за якіх Васілій Аляб'еў прыехаў у Магілёў, патрэбны яму былі для аказання дапамогі сасланаму ў Сібір брату Аляксандру. Цікава адзначыць, што кола знаёмых Аляб'евых у Магілёве складалася з мясцовых інтэлігентаў, а не з багатых і знатных асоб.

...Відаць, генерал-губернатар думаў, што калі яму паведамяць пра Аляб'ева хоць што-небудзь кампраметуючае, ён запатрабуе высылкі яго з Магілёва. Але прычапіцца не было да чаго, і Васілій Аляб'еў застаўся ў горадзе. І зноў з вокнаў асабняка, нанятага ім, ліліся чароўныя гукі рамансаў Аляксандра Аляб'ева, раздаваліся трэлі «Салаўя», які дажыў да нашых дзён.

**Т. ВАРАБ'ЁВА,**
старшы навуковы супрацоўнік Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР.

цягвае ўзрушваць. Прыгадаем праўду яго партрэтаў удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Людзі розных узростаў, розных лёсаў, розных нацыянальнасцей, розных характараў. І для кожнага ў гэтай сюіце знаходзіцца адмысловае вырашэнне.

Пераклікаюцца з прыгаданай сюітай Вялікай Айчыннай вайны і многія вобразы з даўняй беларускай гісторыі. Вось, напрыклад, Гаркуша. Дакладная задума. Дакладнае яе вырашэнне. Мы, сучаснікі, не можам не адчуць тут асацыяцыі, сугучнасць з вобразамі народных мсціўцаў часоў



Ібн-Эзра.



Князь Васілёк Мінскі.

Вялікай Айчыннай вайны — таго ж Талаша або Гальчэні.

Нямала сапраўдных удач у скульптара ў вырашэнні вобразаў савецкіх пісьменнікаў — нашых сучаснікаў, дзеячоў савецкага мастацтва. А яго вобразы дзеячоў міжнароднага рабочага руху!

Ды што пералічваць! Усё гэта трэба глядзець. Глядзець уважліва, імкнучыся ўслед за мастаком у той складаны свет характараў, у якім ён жыве.

Паглыбляючыся ў змест і стылявыя асаблівасці творчасці Заіра Азгура, увачавідкі пераконваемся: ён развівае вялікія, сур'ёзныя традыцыі скульптурнага мыслення. Яму ўдаецца ў лепшых сваіх работах своеасабліва сінтэзаваць раскрыццё ўнутранага ладу натуры і ўласную ўнутраную накіраванасць да выяўлення значных ідэй часу. Жывая пластычная тканіна яго твораў супрацьстаіць схематызму, прыблізнасці. І ў той жа час у станковых формах ён па-свойму набліжаецца да манументальна-абагуленага пластычнага мыслення. Пра такое яго мысленне не ў станковых формах на выстаўцы меркаваць цяжка, паколькі ў экспазіцыю зусім мала ўвайшло адпаведнага матэрыялу.

Азгуру яшчэ нямала прадстаіць зрабіць. Яму яшчэ прадстаіць нанова асэнсаваць ужо зробленае, прааналізаваць, у якіх работах давялося дасягнуць арганічнага адзінства агульначалавечага і нацыянальнага, абагуленага і індывідуальнага, а ў якіх «характэрнае» для мадэлі (тое самае **як ёсць**) высунулася на першы план, засланіла пэўную мастацкую задачу, вартую яго таленту.

Заявіўшы пра сябе як пра мастака-рэаліста яшчэ ў часы мадэрнісцкіх спрэчак дваццатых гадоў, Азгур застаўся верны свайму шляху па сёння. Застаўся верны сабе. Ненатуральна было б, калі б ён спрабаваў ісці шляхам, неўласцівым ягонаму таленту, як гэта здараецца сёння часам нават з вядомымі і заслужана прызнанымі мастакамі, схільнымі не-не ды і збочыць з дарогі свайго таленту ва ўгоду тым ці іншым павевам мод.

Вернасцю свайму таленту і моцны Заір Азгур.

КІНО

# РАЗВЕДКА ТЭМЫ

Дакументальны фільм, у цітрах якога абазначана імя паэта Анатоля Вялюгіна, амаль заўсёды абяцае нешта цікавае: бывае, гэта адкрываеш у смелым развароце мастацкага роздуму аўтара пра жыццё чалавека, у іншым выпадку — арыгінальны выяўленчы лад кадравай пабудовы і мантажу, а то ён разгорне раней незакранутыя старонкі гісторыі, такой блізкай і апякаючай душу, што яе і не так зручна называць гісторыяй. Ад кінематаграфічнай балады «Бацька Нёман» да эпасу дакументальнай праўды «Генерал Пушча», ад лірычнага апавядання пра партызанскую сувязную «Балада пра маці» да паэтычнага прачытання архіўнай перапіскі Ф. Э. Дзяржынскага з сястрой Альдонай («Там, за ракой — Дзяржынава»)— ва ўсіх вялюгінскіх стужках б'ецца нерв знаўцы паэзіі, якой прасякнута жыццё, той цудоўны і жорсткі свет, паводле слоў А. Платонава, у якім мы жывём. Паэт карыстаецца экранам, каб сродкамі кіно працягваць гаворку пра час і пра сябе, што так выразна і па-трапяткому чула «настроена на хвалю» ў яго вершаваных творах, у яго слове.

**Цяпер новы фільм —«Тайна Івянецкай пушчы». Самастойны. І адначасова — працяг стужкі «Там, за ракой—Дзяржынава». Бо і тут Дзяржынскія. На гэты раз— Казімір і Люцыя, брат Фелікса Эдмундавіча з жонкай, адданай сяброўкай сціплага змагара - рэвалюцыянера. Здаецца, ніколі раней у мастацтве такой ёмістай па форме гаворкі пра сям'ю Дзяржынскіх не было. Кінадакументалісты першымі павялі разведку хвалюючай тэмы: яны зачэрпнулі з багатай крыніцы, якую так ярка нясе ўжо само прозвішча «Дзяржынскія». Праз лёс сям'і раскрываецца такое багацце насычанага барацьбой, духоўным гартам і інтэлектуальным напалам жыццё людзей! Цяжка меркаваць, як можа падысці да гэтага багацця пісьменнік-празаік, але два фільмы па сцэнарыях А. Вялюгіна абуджаюць надзею, што яно з цягам часу знойдзе свайго мастака-летапісца, мастака-даследчыка характараў яркіх, своеасаблівых, складаных.**

«Тайну Івянецкай пушчы», як і «Там за ракой — Дзяржынава» здымаў і манціраваў рэжысёр Часлаў Цяўлоўскі. Яго творчая манера, зразумела, адбілася і на агульным гучанні стужак, і на стылявым характары апаратарскай работы. І ўсё ж, трэба спадзявацца, яму не будзе крыўдна, калі мы скажам, што вельмі каштоўная якасць яго рэжысуры якраз у тым, як беражліва і ўдумліва пераносіць ён на экран задуму сцэнарыста, які ў лепшых кінематаграфічных работах застаецца паэтам.

Скажам, нават у так званай «звычайнай» пейзажнай панараме з беластвольмі бярозамі рэжысёр разам з аператарамі Р. Масальскім і А. Сіманавым знаходзіць эмацыянальны настрой, патрэбны сутнасці першых кадраў. Кадры як бы падтрымліваюць словы дыктарскага тэксту, яны метафарычна падмацоўваюць наша ўспрыняцце сказанага, здаецца, Люцыяй, а можа — аўтарам: «Даўнымдаўно адгарэла, асыпалася лістотай тая сумная восень, калі рыцар рэвалюцыі Фелікс Дзяржынскі трывожыўся на царскай катарзе...» Гэта была трывога за братоў у Дзяржынаве. На экране тры метры стужкі паказваюць сагнутыя ветрам вершаліны бяроз. А потым камера выхоплівае стромкія сосны. Трымціць на іх прамень сонца. «У навальніцах сусветных бураў успыхвалі і гаслі, як маланкі, бясстрашныя сэрцы...»

Слова і паказанае на экране зліваецца ў змястоўны вобразны струмень. І тая інфармацыйная частка тэксту, без якой большасць гледачоў не можа абысціся, не «выпірае» па-службоваму, а эмацыянальна ўздзейнічае на гледача. І не заўважаеш, што ніякай біяграфіі Казіміра і Люцыі аўтары стужкі не даюць, яны адразу пасля інфармацыйна-вобразнага «пасылу» пераходзяць да галоўнага подзвігу жыцця гэтых людзей у час Вялікай Айчыннай вайны.

Яны былі вопытныя канспіратары. І ў Івянцы нічога з таго, што рабілі нямецка-фашысцкія акупанты, не праходзіла па-за іх увагай. І савецкія бамбардзіроўшчыкі выходзілі дакладна на цэль. І партызаны распрацоўвалі і ажыццяўлялі дзёрзкія аперацыі. Кінадакументалісты знайшлі рэдкія хранікальныя кадры той пары, і ў стужку арганічна ўваходзяць «цытаты» з трафейных рэпартажаў, знятых некалі нямецкімі аператарамі. Рэжысёр з добрым густам «узнаўляе» ход і абставіны баявых аперацый — тут так тоўна ўводзяцца як бы «нейтральныя» здымкі: зграя крумкачоў у небе, голая сцяна каля касцёла, успышка асвятляльнай ракеты — і зноў манціруюцца хранікальныя кадры часоў вайны. Такім чынам Ч. Цяўлоўскі дае моцна збіты малюнак таго, што рабілі, застаючыся глыбока заканспіраванымі, Казімір і Люцыя Дзяржынскія.

Так, гэта — кінематограф. Сапраўдны. Сумленны.

І—вобразны. Стужка ў адной частцы. Ідзе на экране якіх дзесяць мінут. Мабыць, лепш за ўсё ў пракаце паказваць «Тайну Івянецкай пушчы» разам з фільмам «Там, за ракой—Дзяржынава». Хоць ёсць пры такой умове і пэўная пагроза цэласнаму ўражанню, бо Ч. Цяўлоўскі ў абедзвюх стужках бывае і перабольшвае ў падборы падкрэслена метафарычных кадраў. Без іх не абысціся рэжысёру, калі ў яго так мала дакументаў, архіўных здымкаў — вобразная мова кіно «выратоўвае».

**Але калі глядзіш гэтую своеасаблівую дакументальную кінадылогію, ловіш сябе на думцы, што рэжысура пачынае выглядаць аднастайнай, надакучлівай у карыстанні аднымі і тымі ж прыёмамі. Відаць, Ч. Цяўлоўскаму наступны фільм трэба здымаць не па архіўных матэрыялах, а з сённяшняга жыцця, нешта сапраўды аператыўнае. Тады ён пашырыць арсенал выяўленчых прыёмаў, адыдзе ад шчасліва знойдзенай манеры і потым паглядзіць на яе з вопыту рэжысёра-журналіста. Штосьці замацуе як сваё, індывідуальнае ў рэжысуры, а штосьці палічыць ужо раз і назаўсёды для сябе скарыстаным. Каб не заштампавацца яму!..**

Тым больш варта пра гэта падумаць рэжысёру, бо поспех двух стужак можа (такое здараецца не толькі ў кіно!) прытупіць неабходнае любому мастаку пачуццё самакантролю ў творчасці.

Б. БУР'ЯН.

# АБУДЖАНЫ ЎСПАМІН ХВАЛЮЕ СЭРЦА

Напісаць рэцэнзію на дакументальную стужку В. Дашука «Дом» я напрасіўся сам. Чаму? Прывык давяраць першаму ўражанню, а «Дом» усхваляваў мяне па-сапраўднаму. Аднак жа, калі ўзяўся за рэцэнзію і яшчэ раз «пракруціў» гэтую стужку ў галаве, раптам адчуў, што мне амаль няма на чым засяродзіцца — карціна неяк «размылася».

Гэта мяне насцярожыла — я добра помніў той светлы сум, тую маўклівую радасць, тую крыху шчымлівую пяшчоту, якія агарнулі мяне пасля прагляду карціны і якія бываюць пасля сустрэчы з дарагімі сэрцу роднымі мясцінамі, калі пройдзеш па сцяжынках свайго дзяцінства, пабываеш пасля доўгай разлукі ў матчынай хаце... А можа маё ўражанне ад фільма «Дом» было выклікана нейкай рэмінісцэнцыяй? Магло ж быць, што мяне бралі ў палон нейкія ўспаміны пра перажытае ці прачытанае... Гэта, відаць, знаёма кожнаму. Іншы раз дастаткова пачуць адну ноту песні, убачыць дэталь пейзажа, каб зноў перажыць пачуцці, якія звязаны з гэтай песняй, з гэтым пейзажам, — яны ўздзейнічаюць на свядомасць, як электроды, якімі дакранаюцца да пэўных мазгавых цэнтраў, і чалавек чуе даўно забытыя галасы, бачыць даўно забытыя з'явішчы, зноў, як у першы раз, ярка перажывае тое, што ўжо аднойчы перажыў.

**Дык ці ёсць такі «электрод» у фільме В. Дашука? Здаецца,ёсць... І, здаецца, гэта недзе ў пачатку фільма. Так, у пачатку!.. Белы, белы рачны пясок, абрыў над сонечным плёскам, і хлопчык навыперадкі з сабакам коціцца па гэтым пяску, шчаслівы, бесклапотны. І такое над ім радаснае неба, такое вясёлае сонца!.. Прамяністы, звонкі, дзівосны бераг дзяцінства!..**

**Але ж гэта — з «Іванавага дзяцінства», гэта было ў мастацкай стужцы А. Таркоўскага — хлопчык на белым, белым пяску, хлопчык, які захлынаецца радасцю зямнога існавання і смяецца ад шчасця. Толькі ў Таркоўскага гэтыя кадры ўрываліся ў жорсткую аповесць пра маленькага салдата-разведчыка, рассякалі яе промнем святла як пражэктар рассякае цемру ночы, рассякалі, каб падкрэсліць бязлітаснасць вайны, якая зрабіла з дзіцяці суровага мсціўца, і рэжысёр - дакументаліст Віктар Дашук узяў, можа, несвядома, тую ж самую ноту, падаўшы названыя кадры амаль гэтак жа, як яны пададзены ў «Іванавым дзяцінстве», і яна, гэтая нота, увесь «Дом» прымусіла гучаць на матыў гэтых кадраў.**

**Гэты матыў мяне і перабівае, не дае засяродзіцца, «размывае» карціну В. Дашука. Запазычанасць вобразнага «запеву» помсціць рэжысёру, хоць ён паддаўся чужому ўплыву толькі на кароткі момант. Але ж і фільм — кароткі... Пра тое, як старэнькія бацькі з вёскі паклікалі дамоў сына з горада, — валіць струхлелую хату, ладзіць новую.**

Нібы разрыўныя кулі сыпанулі па даху старой хаты, узрываюць фантанчыкамі пылу спарахнелую драніцу — гэта з-пад нізу пачалі бурыць яе сякерамі, бо на злом ідзе старая хата. Адстаяла сваё... Адрыпелі ў ёй дзіцячыя калыскі, назаўсёды адляцеў дым з коміна... Побач пабудавана новая хата, не хата — дом. І ўсё ж так шкада старую, і гэтыя вясёлыя фантанчыкі на даху крыху бязлітасныя...

Стаіць на двары старэнечкі калаўротак — больш ніколі не будзе круціцца ягонае кола, ніколі не засівее на ягоным шастку пук кудзелі... Адкруцілася кола, час абарваў ніткі прадзіва—каму яны цяпер патрэбны? Хіба адзін толькі дзед, што сядзіць на лавачцы, яшчэ ходзіць у даматканым, даношвае зробленае гэтай «машынай»...

Дапатопныя «ходзікі» выстаўлены ў акне — час, які яны адлічылі, спыніўся навечна, і гадзіннік, нібы твар гэтага часу, звернуты на тое, што дзеецца цяпер. І шкада гэты гадзіннік, як жывую істоту... Ды ён і быў жывой істотай — хіба вы самі не думалі ў дзяцінстве, што гадзіннік жывы, што ў яго ёсць сэрца? І хіба не сумнавата вам, што яму не будзе месца ў новым доме? Яшчэ як балюча — не так таму даросламу чалавеку, ад імя якога ідзе кінарасказ, як таму хлапчаняці, які жыве ў гэтым чалавеку. Хлапчаняці, які толькі цяпер, калі разбураюць старую хату і пераходзяць у новы дом, назаўсёды развітваецца са сваім дзяцінствам, з усім, што было, што жыло ў старых сценах — і добрае, і благое, і шчаслівае, і горкае.

І зноў да мяне прыходзіць той светлы сум, тая шчымлівая пяшчота, што агарнулі сэрца адразу пасля прагляду карціны, бо я ўсё ж прабіўся праз кіношныя рэмінісцэнцыі да самога В. Дашука, да ягонай уласнай мастацкай думкі.

**Думка гэтая простая і вечная — жыццё няспыннае. І ніякі час не парве ніткі прадзіва, якія прайшлі праз рукі маці, бо гэта ніці самога жыцця, і мінулы час не спыняецца навечна — ён пераходзіць у жывую плынь гісторыі, дзе хваля сённяшняй явы зліта з хваляй памяці, дзе добры плён і простае чалавечае шчасце новых часоў заснавана на працы і выпрабаваннях дня мінулага. Па-аператарску выдатна зроблены выразныя кінапартрэты маці і старога дзеда — яны наплываюць на мяне з экрана, і вочы іх, твары, вусны і парэпаныя ад працы рукі гавораць пра тое самае. І тое ж сцвярджае старое дрэва, якое ад асколкаў і куль, што ўпіліся ў ягоную плоць, засохла было, а цяпер зноў пусціла галінкі да сонца...**

Як бачыце, я ўспомніў амаль увесь фільм. І адказваючы на пытанне, што ж засталося ў памяці, маю права сказаць—шчырасць і непасрэднасць рэжысёра, паэтычная камера маладога аператара Галіны Гіравай (пры ўдзеле Рыгора Масальскага і Віктара Ёркіна). А галоўнае — вобразная думка аб простым, звычайным і вечным жыцці, якое мы любім ад калыскі.

Валянцін ТАРАС.

Мікола НАГНІБЯДА

# О НЕСКАНЧОНЫЯ ДАРОГІ...

Вядомы ўкраінскі паэт Мікола Нагнібяда — вялікі і даўні друг беларускай літаратуры — жаданы госць у нашай хаце. Украінскі чытач пазнаёміўся з творамі многіх беларускіх паэтаў у яго перакладах. Зараз Мікола Нагнібяда — галоўны рэдактар трохтомнай Анталогіі беларускай паэзіі на ўкраінскай мове.

Наш беларускі чытач таксама знаёмы з паэзіяй М. Нагнібяды. У свой час у нас выйшлі дзве кніжкі яго паэзіі. І як працяг гэтага знаёмства, сёлета ў выдавецтве «Беларусь» выйдзе яго новы паэтычны зборнік «Трэцяе спатканне».

Прапаную ўвазе чытачоў цыкл вершаў з «Кастрычніцкай кнігі» Міколы Нагнібяды ў сваім перакладзе.

Генадзь КЛЯЎКО.



●

«Хлеб здабываць сумленна трэба,
Шануй, сынок, і крошку хлеба»,—
Матуля змалку вучыць нас...
Нам праз жыццё ўсё
Звоніць колас,
Праз леты усе
Чуваць нам голас—
Матулі роднае наказ.
Той вечны голас—
запаветам
У сэрцы ў нас,
Над нашым светам,—
сузор'ем,
Пад якім ісці...

Матуля... Хлеб, здабыты шчыра...
Хіба іх раз'яднаць магчыма
Хоць на хвіліну у жыцці!!



●

Паклічце памяць на гаворку,
Як звечарэе за акном,
Згадаем час маленства горкі,
І шлем, і вогненную зорку
Над любым бацькавым чалом.

«Сядай, татуля, на хвіліну.
Я столькі год цябе чакаў,
Калі заглянеш у хаціну...
Ты ў бой апошні паскакаў».

«Я не забыў! Заўжды са мною
Сядзіш ты, хлопча, у сядле,
У дыме, у віхуры бою,
У рэйдах—з песняй баявою,
І каля вогнішча ў імгле.

Але прабач, не час размовы—
Заве сурмач, б'юць капыты...»



Каторы раз на гэтым слове
Знікае ўсё, як сон мядовы...
І зноў у шлях імчышся ты!

О несканчоныя дарогі,
І прада мной ляглі яны,
І я праз долы і аблогі
Лячу на бацькавым кані...

●

Як да гнёздаў буслы,
У цішы вечаровай
Самалёты ляцяць па-над промнямі
дня,
І палошацца птушкі
ў дняпроўскай дуброве,
Самалётаў крылатых жывая радня.

Пралятаюць,
Пяюць самалёты ўрачыста,
Зноў вяртаюцца
Ў родныя порты яны.
І з сабою на крылах нясуць
серабрыстых
Дух вандровак далёкіх і дух вышыні.
Як да сэрца падобны яны,
што лятае
У вандроўкі на крылах
Імкненняў і мар...
А ці ж грузу яно,
пасажыраў не мае!!

Ці ж яно не ўзнімаецца ўвысі,
да хмар!!
Ці яно застрахавана будзе
ў аблоках!!
І хіба ж у палёце яно не звініць!!
Самалёты вяртаюцца з рэйсаў
далёкіх.



Ім, нібыта буслам,
У блакіце кружыць...
Чую сэрца свайго
Устрывожаны клёкат—
Сэрца з імі ляціць.
Разам з імі ляціць.

## КІЕЎСКІЯ ПРЫСВЯЧЭННІ

I.

Быццам оды каменныя
даўнім майстрам—
Цеслярам, малярам,
разбярам адмысловым,—
Не скарыўшыся часу,
пажарам, вятрам,
На зялёных курганах бялеюць
будовы.
Цёплы камень спявае
пра край над Дняпром,
Пра той край,
што, ад ворага выпіўшы гора,
Аб'яднаўшы славян,
размахнуўся крылом
Да ўзбярэжжаў сцюдзёных
далёкага мора.
Цёплы камень Русі
у сталіцы маёй,
Ты—свяшчэнны
не толькі як згадка.
Будзь жа сведкам,
што Кіеў наш ззяе красой,
Узвялічаны подзвігам
майстра-нашчадка.



Будзь жа сведкам
адвагі яго баявой,
Што легендаю новай спавіта...
Ты паслухай,
як песняй тут плешча прыбой,
Палюбуйся аблічччам,
да сонца адкрытым.
Ты за працу усмешку яму паднясі,
Пакланіся красе яго новай.
Цёплы камень Русі,
родны камень Русі
У вянку
маладое
будовы.

II.

Калі б для Кіева прыйшлося
Мне герб разбярыць для вякоў,
Я ружу, молат,
Меч, калоссе,—
Усё б незабудкамі абвёў.
А ля дняпроўскага прыбою
Багдан стаяў бы з булавой,
Над арсенальскаю сцяною
Ззяў ранак барваю жывой.
А на братэрскім на кургане
Ў маланку ўплёў бы дзеразу,
Яшчэ б я высек на цюльпане
Дажджынку—
мацеры слязу.
Дзе помнік Славы,
Я б паставіў
Двух сурмачоў,
Каб сурмачы
Ігралі век зару Дзяржавы
Таму, хто воінам спачыў.
І гэты герб золататканы
Ўвянчаў бы крыламі сцягоў
І сотні келіхаў каштанаў
Узняў бы ў гонар змагароў.



Мал. А. САПЕТКІ.

# КЛОПАТ ЛЮДЗЕЙ

ПАСЛЯ АРТЫКУЛА «З ПАНЯДЗЕЛКА ДА СУБОТЫ»

## ДА АПОШНЯГА СЛОВА СПРАВЯДЛІВА

Артыкул «З панядзелка да суботы» ўрача А. Чарняўскай («Літаратура і мастацтва» за 11 снежня 1970 года) усхваляваў мяне. Як усё правільна сказана ў ім, да апошняга слова справядліва!

Цяжка цэхавым урачам змагацца за зніжэнне захворванняў. Мы адзінокія. А як бывае крыўдна чуць справядлівыя дакоры заводскай адміністрацыі...

«Як гэта рабочы Іваноў плануе сабе выхад на бальнічны ліст?» — звярнуўся аднойчы да мяне з пытаннем адзін майстар. «Ты мне гэту работу не давай, я праз тыдзень пайду на бальнічны ліст», —заявіў яму Іваноў.

І вось атрымліваецца, што вытворчыя ўмовы, як і матэрыяльна-бытавыя, штогод паляпшаюцца, а захворванні не зніжаюцца. Не сакрэт, што хворы-хронік амаль у любы неабходны для яго момант можа атрымаць бальнічны ліст, асабліва калі звернецца да ўчастковага ўрача.

Хочацца прывесці такі прыклад. Рабочы кавальскага цэха Мінскага завода шасцярэнь Максімовіч злоўжывае алкаголем, парушае працоўную дысцыпліну, паводле слоў начальніка цэха, «п'е ўсякія сурагаты, ад чаго ў яго баліць жывот».

Гэта, вядома, не важна, ад чаго баліць, мы павінны лячыць і лечым, але пры ацэнцы працаздольнасці мы павінны ўлічваць прычыну. Аднак правы нашы?

На цэхавым камітэце гэты рабочы быў папярэджаны, каб звяртаўся толькі да цэхавага ўрача. Але, акрамя цэхавых, ёсць участковыя. І сам Максімовіч, вядома, лічыць, што выгадней ісці да ўчастковага, які не ведае яго паводзін у быце. І вось, калі ласка, у 3-й клініцы Максімовіч летась атрымаў тры бальнічныя лісты з дыягназам — абвастрэнне язвенай хваробы дванаццаціперснай кішкі. Усяго — 51 дзень. Абвастрэнне адбывалася пасля кожнай моцнай выпіўкі. На прадпрыемстве гэта ведалі, мы — таксама. Але чалавек прыносіў бальнічны ліст, што ж ты яму скажаш?

Цалкам далучаюся да думкі Чарняўскай, што цэхавая служба ва ўчастковай паліклініцы на правах пасынкаў. Аб'ядноўвалі заводскія паліклінікі, а дзе іх размясціць — не падумалі. Цэхавыя ўрачы не маюць кабінетаў для работы. Рабочы таксама нічога не мае ад гэтага аб'яднання — каб атрымаць кансультацыі спецыялістаў, яму патрэбуецца некалькі дзён.

Р. МІЖУЙ,
цэхавы ўрач паліклінікі № 14.
г. Мінск

## ГЭТА БЛІЗКА І МНЕ

А. Чарняўская ўзнімае пытанні, вельмі актуальныя для штодзённай урачэбнай практыкі, таму тое, пра што яна піша, вельмі блізка і мне, хоць я не цэхавы ўрач, я — фтызіятр. Але і ў нас шмат такога, што перашкаджае нармальна працаваць, перашкаджае выконваць абавязкі так, як таго патрабуе прафесійны абавязак.

Па-першае, гэты канвеер. Дальбог, як быццам робім нейкія дэталі, а не лечым хворых. Устаноўленая нагрузка для фтызіятра на прыёме—4,5 пацыента ў гадзіну (гэта ж нехта доўга думаў, перш чым вызначыў такую норму—аж чатыры, ды яшчэ з палавінкай). У мяне летась нагрузка складала 7 чалавек. Выходзіць па 8—9 мінут на хворага. А калі ўлічыць, што я працую з дзецьмі, народам капрызным, што за гэтыя мінуты трэба дзіцё распрануць і апрануць дык колькі застаецца таго «чыстага» часу на агляд?

Вось адкуль і памылкі ў дыягназе, і незадавальненне, скаргі хворых.

Дарэчы, пра скаргі. Што і казаць, ёсць і сярод нас, медыкаў, людзі няўважлівыя, чэрствыя. Бясспрэчна, за кожны выпадак няўважлівасці да хворага трэба караць. Але адбываецца нешта дзіўнае: кожная, нават неабгрунтаваная, скарга начыста ўзводзіцца ў абсалют, прымаецца, як ісціна ў апошняй інстанцыі. Правільна піша аўтар нарыса, што ўсё гэта выбівае ўрача з каляіны і, урэшце, адбіваецца на хворым. Калі ва ўрача ўзвінчаны нервы, затлумлена галава, якая ад яго хвораму карысць?..

Мы ганарымся нашай бясплатнай сістэмай медыцынскага абслугоўвання. І ўсё ж, на маю думку, было б разумна мець хоць у Мінску адну ці дзве платныя паліклінікі (такія паліклінікі ёсць у Маскве, Ленінградзе, курортных гарадах). Яны маглі б абслугоўваць хронікаў, якім цяжка выстойваць чаргу ў звычайных паліклініках (гэта ж 3—4 гадзіны) і сярод якіх многія не маюць патрэбы ў бальнічных лістах. Тут урач, вядома, высокакваліфікаваны, вопытны (калі ўжо плаціць, дык не абы каму), змог бы кансультаваць хворага не 8—10 мінут, а столькі, колькі трэба

Але вярнуся з нябёс на зямлю. Вярнуся зноў да нашай паўсядзённай працы. Працяглы час ужо на старонках друку, і спецыяльнага, і не спецыяльнага— ўзнімаецца пытанне аб тым, каб вызваліць урача ад пісаніны. Запаўненне гісторый хвароб адбірае вельмі і вельмі многа часу (адыміце і гэты час ад тых 8—10 мінут). Дзе ж тая і блаславёная тэхніка — дыктафоны, магнітафоны, пра якія мы столькі чуем, але ні разу не бачылі.

Вось некалькі думак, якія ўзніклі ў мяне пасля прачытання нарыса «Ад панядзелка да суботы».

Н. ЛЯШКЕВІЧ,
урач 2-га процітуберкулёзнага дыспансера.

## ДАВЯРАЦЬ УРАЧУ...

*Думаю, ніводзін урач не застанецца абыякавым, прачытаўшы артыкул А. Чарняўскай «З панядзелка да суботы». Так, работа ў цэхавага ўрача, ды і ва ўчастковага, нялёгкая. Цяжкасцей не змяншаецца, праблемы застаюцца. Ці вядома ўсё гэта кіраўнікам сістэмы аховы здароўя? Ці ведаюць яны сапраўднае становішча рэчаў у лячэбных установах? Ці прымаюцца меры для рашэння мноства пытанняў, закранутых у артыкуле?*

*Мы ўжо не першы год працуем, добра ведаем структуру стацыянарнай лячэбнай установы, і нам таксама не дае спакою пастаянная нервовасць у працы. Справа ў адносінах да радавога ўрача, у даверы да яго. Бо несумненна, што ў лячэбным працэсе ўрач павінен кіравацца толькі меркаваннямі мэтазгоднасці, адкінуўшы суб'ектыўныя фактары і, у прыватнасці, магчымыя скаргі пацыентаў. Хворы не ведае прафесійных тайн і метадаў урача, не можа ацаніць неабходнасці яго ўчынкаў, а таму яго скарга, як правіла, не можа быць аб'ектыўнай.*

*Урач жа заўсёды, за вельмі рэдкім выключэннем, дзейнічае з перакананнем, што прыносіць хвораму карысць. Ён не павінен, не можа задумвацца пра магчымую скаргу. Гэта зневажае яго, перашкаджае працаваць. Хаця, несумненна, няма апраўдання грубаму, нетактоўнаму, абмежаванаму чалавеку, асабліва, калі ён урач.*

Р. ЦЕРАШКОВА,
урач паліклінікі Мінскага трактарнага завода.

С. КУЧМІНСКАЯ,
урач ваеннага шпіталя.

## АД РЭДАКЦЫІ:

11 снежня 1970 года ў «Літаратуры і мастацтве» былі надрукаваны запіскі цэхавага ўрача А. Чарняўскай «З панядзелка да суботы», якія выклікалі цікавасць чытацкай аўдыторыі. Пра гэта сведчаць пісьмы ў газету, частку якіх мы сёння змяшчаем.

Як гэта належыць, артыкул А. Чарняўскай, які ўзнімаў шэраг вострых праблем штодзённай урачэбнай практыкі, быў пасланы на рэагаванне ў Міністэрства аховы здароўя БССР і Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза медыцынскіх работнікаў. З адказамі міністра аховы здароўя М. Саўчанкі і старшыні БРК прафсаюза медработнікаў М. Райковай нашы чытачы таксама сёння могуць пазнаёміцца.

Такім чынам, адпаведныя ўстановы адрэагавалі і, здаецца, можна было б паставіць на гэтым кропку. Каб не адна акалічнасць...

Але спачатку дазволім сабе коратка нагадаць змест запісак. Цэхаваму, ды і ўчастковаму ўрачу з дня ў дзень даводзіцца працаваць у вялікай спешцы. Не ўпарадкавана сістэма ўрачэбных кансультацый — хвораму даводзіцца выстойваць вялікія чэргі да кожнага спецыяліста паасобку. Цэхавыя і ўчастковыя ўрачы туляцца ў адных кабінетах і перашкаджаюць адзін аднаму. Паміж цэхавымі ўрачамі і заводскай адміністрацыяй пастаянна ўзнікаюць канфлікты, бо адміністрацыя, натуральна, зацікаўлена, каб менш выдавалася лісткоў непрацаздольнасці, а ўрачы, у сваю чаргу, вымушаны такія лісткі выдаваць у самым нават нязначным выпадку, бо «хворы» можа паскардзіцца, а кожная скарга дамоклавым мячом вісіць над урачом.

Аўтар выказваў шэраг іншых, на нашу думку, слушных заўваг (яны, дарэчы, падтрыманы многімі пісьмамі ў рэдакцыю). Аказалася, што ліквідацыя паліклінік на прамысловых прадпрыемствах прывяла да пагоршання медыцынскага абслугоўвання рабочых і служачых, што існуючы парадак прафілактычнага агляду дыспансерных хворых носіць часта фармальны характар і робіцца хутчэй для справаздачы, чым для карысці справы, бо практычна ўрач не можа прымусіць пацыента, які зараз адчувае сябе добра, кінуць працу і пайсці рабіць шматлікія аналізы, што ва ўрача адбірае шмат часу штодзённая пісаніна і г. д. і да т. п.

На жаль, адказы т. т. М. Саўчанкі і М. Райковай не закранаюць усіх

ЧЫТАЧ ПРАЦЯГВАЕ РАЗМОВУ

# У БЕЛЫХ ХАЛАТАХ

## АДКАЗВАЕ МІНІСТЭРСТВА

Міністэрства аховы здароўя БССР старанна вывучыла артыкул цэхавага ўрача А. Чарняўскай «З панядзелка да суботы». Пытанні, закранутыя ў артыкуле, Міністэрству аховы здароўя БССР добра вядомы. Сапраўды, да гэтага часу маюць месца выпадкі, калі пасобныя ўрачы паліклінікі працуюць з перагрузкай, іншы раз у адным кабінеце адначасова прымаюць па два ўрачы і г. д.

Для ліквідацыі такога становішча міністэрства праводзіць лінію на ўзбуйненне бальніц і расшырэнне сеткі амбулаторна - паліклінічных установ. Так, толькі ў мінулым пяцігоддзі ў горадзе Мінску дадаткова разгорнута 990 бальнічных ложкаў, нанава пабудавана сёмая гарадская бальніца, процітуберкулёзны дыспансер, хірургічны корпус у 3-й клінічнай бальніцы, лячэбны корпус інфекцыйнай бальніцы, паліклініка на 9000 наведванняў у змену. Пабудаваны станцыя і падстанцыя хуткай медыцынскай дапамогі, санэпідстанцыя ў Заводскім раёне. Вядзецца будаўніцтва туберкулёзнай бальніцы на 450 ложкаў, скурна-венералагічнага дыспансера са стацыянарам на 300 ложкаў, паліклінікі ў мікрараёне па Ракаўскай шашы і гаража станцыі хуткай медыцынскай дапамогі на 100 аўтамашын. У надыходзячым пяцігоддзі прадугледжваецца будаўніцтва шматпрофільнай бальніцы на 1000 ложкаў, бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі на 800 ложкаў, лячэбных корпусаў у радзе дзеючых бальніц, паліклінік у мікрараёнах Усход, Серабранка, Курасоўшчына і інш. Увесь час праводзіцца разбуйненне тэрапеўтычных і педыятрычных участкаў. Колькасць насельніцтва на большасці ўрачэбных участкаў не перавышае існуючых нарматываў.

Далейшае развіццё тэрытарыяльна-ўчастковага прынцыпу, забеспячэнне паліклінічных установ сучаснай медыцынскай тэхнікай, ажыццяўленне будаўніцтва новых і разгортванне самастойных паліклінік дасць магчымасць забяспечыць нармальныя ўмовы працы ўрачоў.

Адным з сур'ёзных раздзелаў дзейнасці паліклінік з'яўляецца арганізацыя дыспансернага абслугоўвання насельніцтва, як найбольш дзейснага метаду барацьбы за ахову здароўя працоўных. Дыспансернае абслугоўванне з'яўляецца важнейшым метадам у ажыццяўленні прафілактычнага напрамку ў рабоце лячэбных установ.

Значная ўвага надаецца паляпшэнню стану экспертызы часовай непрацаздольнасці, павышэнню адказнасці за арганізацыю і якасць работы па вывучэнні прычын захворваемасці з часовай і стойкай стратай працаздольнасці. З урачамі пастаянна праводзяцца заняткі па павышэнні спецыяльных ведаў у пытаннях экспертызы часовай непрацаздольнасці.

Неабходна адзначыць, што асобнымі хворымі пры амбулаторным лячэнні парушаецца ўстаноўлены ўрачом рэжым. У гэтых выпадках медыцынскія работнікі робяць адзнакі ў бальнічным лістку аб парушэнні рэжыму. Аднак, прафсаюзныя арганізацыі раду прамысловых прадпрыемстваў і ўстаноў нярэдка пагарджаюць гэтым, поўнасцю аплачваюць дні непрацаздольнасці і не караюць вінаватых.

У горадзе Мінску і іншых гарадах рэспублікі за апошнія гады праведзена пэўная работа па ўкараненні навуковай арганізацыі працы і аргтэхнікі ў лячэбна-прафілактычных установах. Напрыклад, у клінічных бальніцах № 4 і № 5 горада Мінска арганізавана дыктафоннае вядзенне асноўнай медыцынскай дакументацыі, што значна скараціла затраты рабочага часу ўрачоў на запаўненне гісторый хвароб.

Стварэнне кабінетаў даўрачэбнага прыёму ў многіх паліклініках рэспублікі таксама аблегчыла працу ўрачоў. Што датычыць начных дзяжурстваў, дадзена ўказанне аб упарадкаванні дзяжурстваў урачоў як у паліклініках, так і стацыянарах.

Трэба адзначыць, што некаторыя пытанні, якія закрануты ў артыкуле, не ўваходзяць у кампетэнцыю Міністэрства аховы здароўя БССР. Так, часовыя нормы нагрузкі ўрачоў на адну гадзіну работы ў амбулаторна-паліклінічных установах зацверджаны загадам міністра аховы здароўя СССР № 321 ад 20 ліпеня 1960 года.

З мэтай больш рацыянальнага выкарыстання медыцынскіх кадраў загадам міністра аховы здароўя СССР № 340 ад 30 красавіка 1968 года зацверджаны штатныя нарматывы медыцынскага і педагагічнага персаналу гарадскіх паліклінік, урачэбных і фельчарскіх пунктаў аховы здароўя. У сувязі з гэтым загадам паліклінікі і ўрачэбныя пункты на прамысловых прадпрыемствах былі ліквідаваны. Гэтыя мерапрыемствы не прывялі да пагоршання медыцынскага абслугоўвання рабочых і служачых, бо медыцынскае забеспячэнне арганізавана ўрачамі тэрытарыяльных і прымацаваных да прамысловых прадпрыемстваў паліклінік. Што ж датычыць заработнай платы медыцынскіх работнікаў, то гэтыя пытанні вырашаюцца Камітэтам па працы і заработнай плаце пры Савеце Міністраў Саюза ССР.

У заключэнне неабходна сказаць, што Міністэрствам аховы здароўя БССР сістэматычна праводзіцца работа па паляпшэнні ўмоў працы і ўдасканальванні медыцынскай дапамогі работнікам установ аховы здароўя.

М. САЎЧАНКА,
міністр аховы
здароўя БССР.

## АДКАЗВАЕ РЭСПУБЛІКАНСКІ КАМІТЭТ ПРАФСАЮЗА

Беларускі рэспубліканскі камітэт прафсаюза медыцынскіх работнікаў сістэматычна займаецца пытаннямі паляпшэння ўмоў працы ва ўстановах аховы здароўя.

Неабходна адзначыць, што матэрыяльная база ўстаноў аховы здароўя яшчэ не ўсюды адпавядае нашым патрэбам, нягледзячы на тое, што вядзецца вялікае будаўніцтва. Для кантролю за ходам і якасцю будаўніцтва ўстаноў аховы здароўя прафсаюзныя камітэты стварылі грамадскія кантрольныя пасты.

Пры Рэспубліканскім камітэце прафсаюза медыцынскіх работнікаў таксама створана група для кантролю за ходам і якасцю будаўніцтва на чале з прафесарам М. Аляксандравым.

Паводле планаў будаўніцтва ўстаноў аховы здароўя на 1971—1975 гг. матэрыяльная база будзе расшырацца, што дасць магчымасць пастаянна паляпшаць умовы працы медыцынскіх работнікаў.

Прафсаюзныя арганізацыі аддаюць увагу правільнаму складанню графікаў рабочага часу, выхадных дзён і прадастаўлення водпускаў.

Рэспубліканскі камітэт прафсаюза медработнікаў сумесна з Рэспубліканскім камітэтам рабочых тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці вывучыў і абмеркаваў пытанне стану захворванняў рабочых і служачых на прадпрыемствах тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці. Не было адзначана, што ў сувязі з рэарганізацыяй медыцынская дапамога рабочым і служачым пагоршылася.

Што датычыць пытання дыспансернага нагляду за хворымі і працуючымі ў шкодных умовах працы, то гэты метад прафілактыкі і лячэння хвароб цалкам сябе апраўдаў. Адзначана, што сістэматычны медыцынскі нагляд, назначэнне процірэцыдыўнага лячэння, дыэтхарчаванне і да т. п. вядзе да зніжэння захворванняў сярод групы хворых, якія знаходзяцца на дыспансерным уліку.

Прафсаюзныя арганізацыі разам з кіраўнікамі органаў і ўстаноў аховы здароўя займаюцца пытаннямі правільнай, а таксама навуковай арганізацыі працы. Аб гэтым сведчаць факты значнага паляпшэння арганізацыі працы ў многіх установах рэспублікі.

Арганізацыя кабінетаў даўрачэбнага прыёму, забеспячэнне гатовымі бланкамі-рэцэптамі, накіраванне на абследаванне, увядзенне перфакарт і інш. значна аблягчае працу медработнікаў.

Пэўная работа праводзіцца і па далейшым паляпшэнні якасці экспертызы часовай непрацаздольнасці і павышэнні ведаў урачоў у гэтым пытанні.

Захоўванню хворымі рэжыму прафсаюзнымі арганізацыямі і страхавымі дэлегатамі прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый аддаецца недастатковая ўвага, на што Рэспубліканскія камітэт прафсаюза медработнікаў звярнуў увагу прафкамітэтаў раду прадпрыемстваў.

Пытанням правільнасці налічэння зарплаты медыцынскім работнікам рэспубліканскі камітэт удзяляе шмат увагі. Намі ўнесены прапановы ў ЦК прафсаюза па ўпарадкаванні зарплаты асобным катэгорыям медработнікаў. Пытаннямі ўстанаўлення размераў пасадавых акладаў медыцынскім работнікам займаецца Дзяржкамітэт па працы і зарплаце пры Савеце Міністраў СССР.

У артыкуле адзначалася аб радзе недахопаў у арганізацыі працы ўрачоў у паліклініцы, дзе працуе аўтар артыкула. Прыняць канкрэтныя меры па іх ліквідацыі рэспубліканскі камітэт, на жаль, не можа, бо нам невядома аб якой установе ідзе гаворка.

М. РАЙКОВА,
старшыня Беларускага
рэспубліканскага камітэта
прафсаюза медыцынскіх
работнікаў.

пытанняў, узнятых выступленнем газеты, і носяць агульны характар.

Настойлівае імкненне міністра аховы здароўя адказаць агульнымі фразамі, маштабнымі лічбамі не вырашае закранутых пытанняў.

Так, нідзе ў свеце не клапоцяцца столькі пра здароўе людзей, як у нашай краіне, дзе з кожным годам расце колькасць бальніц, паліклінік, дыспансераў і г. д. І лічбы, якія прыводзіць міністр, выклікаюць пачуццё гонару. Але ж не толькі для таго, каб даведацца пра ўсё гэта, быў пасланы на рэагаванне ў міністэрства газетны артыкул. Хацелася пачуць, як ставіцца міністэрства да закранутых праблем, бо любыя поспехі, любыя дасягненні не знімаюць патрэбы гаварыць пра тое, што перашкаджае нам жыць і працаваць. На жаль, гэтага мы не пачулі.

Што ж датычыць агульных слоў накшталт таго, што «значная ўвага надаецца паляпшэнню становішча экспертызы часовай непрацаздольнасці», або «з урачамі пастаянна праводзяцца заняткі па павышэнні спецыяльных ведаў», або «ў горадзе Мінску і іншых гарадах рэспублікі за апошнія гады праароблена пэўная работа...», або «Міністэрства аховы здароўя БССР сістэматычна праводзіць работу па паляпшэнні ўмоў працы і ўдасканаленні медыцынскай дапамогі работнікам устаноў аховы здароўя» (чаму трэба ўдасканальваць медыцынскую дапамогу медыкам?), дык яны не могуць задаволіць.

Што датычыцца адказу БРК прафсаюза медработнікаў, дык тут, мабыць, рашылі, як кажуць, адразу схапіць быка за рогі. «БРК прафсаюза медработнікаў сістэматычна займаецца пытаннямі паляпшэння ўмоў працы работнікаў установ аховы здароўя». Гэта, відаць, для таго, каб, барані божа, ніхто не падумаў, што не «сістэматычна». І далей — «прафсаюзныя арганізацыі надаюць увагу», «прафсаюзныя камітэты кантралююць», «прафсаюзныя камітэты вывучаюць і абмяркоўваюць» і г. д. Ствараецца ўражанне, што адказ у рэдакцыю спісаны з нейкай справаздачы, бо чамусьці ў ім раптам расказваецца пра тое, што «БРК прафсаюза медработнікаў сумесна з БРК прафсаюза рабочых тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці вывучыў і абмеркаваў пытанне становішча захворвання рабочых і служачых тэкстыльнай і лёгкай прамысловасці». Аўтар артыкула, цэхавы ўрач А. Чарняўская не працуе ні ў тэкстыльнай, ні ў лёгкай прамысловасці...

Не ў карысць тав. М. Райковай сведчыць і такі факт. Супрацоўніку рэдакцыі, які пазваніў у БРК прафсаюза з просьбай даслаць хутчэй адказ (з ім доўга марудзілі), паведамілі, што ён узгадняецца з Міністэрствам аховы здароўя (?!).

І яшчэ адно. У адказах міністэрства і прафсаюзнага органа прамільгнулі некалькі разоў словы «не нашай кампетэнцыі». Так, скажам, нормы нагрузкі ўрачоў на гадзіну ў амбулаторна-паліклінічных установах зацверджаны Міністэрствам аховы здароўя СССР у 1960 годзе. Але хто забараняе рэспубліканскім установам ставіць перад саюзнымі любое пытанне аб змене існуючых нарматываў, установак?

Вось такія нашы заўвагі па сутнасці адказаў тт. М. Саўчанкі і М. Райковай. Рэдакцыя спадзяецца, што пытанні, узнятыя газетай, стануць прадметам сур'ёзнай і дзелавой размовы па сутнасці закранутага пытання.

*ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ!*

## Уладзіміру ЛЯЎДАНСКАМУ — 60 гадоў



Пісьменніку Уладзіміру Ляўданскаму 7 лютага спаўняецца 60 гадоў. У прывітальным лісце, які накіравала юбіляру праўленне Саюза пісьменнікаў БССР, гаворыцца:

*«Дарагі Уладзімір Аляксандравіч!*

*Сардэчна вітаем і віншуем Вас, нашага таварыша па літаратурнай працы, былога партызанскага камісара і рэдактара партызанскай газеты, з 60-годдзем з дня Вашага нараджэння.*

*Вы пішаце пераважна для юнага чытача, але і даросламу цікава прачытаць Вашы зборнікі апавяданняў «Адкрыццё сезона», «На беразе ракі», «На прывале», «Ноч над Нёманам». Як гэтыя кніжкі, так і новыя Вашы апавяданні, што паяўляюцца ў перыядычным друку, пранікнуты глыбокай любоўю да роднай прыроды і людзей, якія звязаны з ёй і берагуць яе. Гэту любоў і ўменне назіраць прыроду, разумна выкарыстоўваць яе Вы прывіваеце і сваім чытачам.*

*Доўгі час Вы працавалі дырэктарам выдавецтва «Народная асвета» і заўсёды чула і клапатліва ставіліся да кніг беларускай літаратуры, што выдаваліся ў гэтым выдавецтве. Нельга не адзначыць і Вашай перакладчыцкай дзейнасці —Вашаму пяру належаць пераклады шэрагу твораў класікаў вялікай рускай літаратуры.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, дарагі Уладзімір Аляксандравіч, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, плённай працы над новымі творамі, радасці ў жыцці».*

Рэдакцыя «Літаратуры і мастацтва» далучаецца да гэтага сардэчнага віншавання.

ВОДГУКІ, АДКАЗЫ

## НА ЧЫМ ВУЧЫЦЦА БАЯНІСТУ?

Кафедра народных інструментаў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага абмеркавала артыкул К. Булыгі «На чым вучыцца баяністу?», надрукаваны ў нумары за 25 снежня 1970 года, і лічыць, што аўтар справядліва ўзнімае на старонках друку надзённае пытанне аб забеспячэнні музычных навучальных устаноў баянамі новай канструкцыі.

Вельмі слушныя папрокі аўтара ў адрас беларускіх кампазітараў, якія мала пішуць для баяна.

Хочацца толькі ўнесці істотную папраўку ў артыкул, з якога чытач можа зрабіць вывад, што выступленні беларускіх музыкантаў (В. Чабана, С. Лясун, А. Патапейкі) на Усесаюзным адборы на міжнародныя конкурсы баяністаў і акардэаністаў наогул не былі паспяховымі. В. Чабан і С. Лясун адзначаны падзякай Упраўлення па міжнародных і ўсесаюзных конкурсах пры Міністэрстве культуры СССР і журы. Пры падвядзенні вынікаў ў адрас беларускіх музыкантаў было сказана многа добрых слоў.

Думаецца, што пахвальны ліст ад Упраўлення па міжнародных і ўсесаюзных конкурсах—гэта пэўны поспех беларускай баяннай школы.

Загадчык кафедры Г. ЖЫХАРАЎ,
выкладчыкі Г. МАНДРУС,
Ул. САВІЦКІ, М. ПРАШКО.

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

### 1.

Поўным супярэчлівасці дзіваком быў дзядзька Клімовіч.

Ніяк не зразумееш, чаму Альяш так бяздумна вызначыў дзень «ікс» (пра што будзе гаворка пазней), з-за якога і пагарэў. Паводзіў ён сябе нібы той малы, які па дзіцячай наіўнасці хлусіць бацьку, думаючы, што дарослыя не разгадаюць. Лічыў, што хутка памрэ і не дажыве да той даты, якую адвёў для цуда? Але ж Альяш не быў настолькі хітры і карыслівы, каб выдумваць цуд з разлікам.

Калі б уся гэтая заваруха з яго боку была ашуканствам, дык, напэўна, чалавек не транжырыў бы на «новае вучэнне» ўсе тыя грошы, якіх не мелі і іншыя мільянеры. Ён паклаў бы іх у надзейныя банкі Еўропы, не жыў бы на адным чорным хлебе, цыбулі ды грэчневай кашы.

Увесь, мабыць, трагікамізм у тым, што ён і сам верыў у тое, што прапаведваў. Ён быў звычайны беларускі мужык, які па выпадковым збегу акалічнасцей вылез у «героі».

Так ці інакш, мужык Клімовіч з Грыбоўшчыны, прайшоўшы перыяд арганізацыі і будаўніцтва, якім асляпіў і запаліў цёмных сялян, непрыкметна стварыў сваю сістэму, рэлігію і культ, а затым вырашыў сябе «ўвекавечыць» у памяці народа і «ашчасліціць чалавецтва».

Пэўнага дня Альяш урачыста ўзяў пяро, абмакнуў яго ў чарніліцу з дохлымі мухамі ды сваім старэчым почыркам стаў выводзіць загагуліны — прарок узяўся пісаць «зварот да народа».

Пачатак славутага дакумента друкуем у арыгінале, толькі без старамодных «яцяў» і «ераў»:

*«Возвещаем Вам Народы*
*Второе пришествие Господа*
*Нашего Иисуса Христа на*
*Землю.*
*Объявляю я всему Миру*
*Всем най дражайшую то/есть*
*Надрощую Весть. Дрощей*
*Вести за сию Весть нет восем*
*Мире...»*

І далей гэткімі ж перламі граматыкі і арфаграфіі аб'явіў, што хутка наступіць канец свету, што такогата чысла ўсе гарады і вёскі загінуць у геене вогненнай і застанецца толькі горад Вершалін — і прыдумаў жа стары ёмкую і рамантычную назву!..

Гэты горад, паводле «звароту да народа», бог яму даручае пабудаваць для сваіх аднадумцаў. Потым Вершалін гасподзь пераўтворыць у рай.

Увесь той аграмадны капітал, які Альяш накапіў к таму часу, ён і вырашыў пусціць на ўзвядзенне «Вершалінскага раю». За справы дзядзька ўзяўся з размахам.

Першым чынам Альяш у бліжэйшых вёсках закупіў пад будынкі сорак гектараў зямлі. Затым у глухую і маленькую вёсачку, якую і цяпер, трыццаць пяць гадоў пасля таго, знойдзеш хіба толькі на вайсковай карце-кіламетроўцы, сярод пясчаных і камяністых узгоркаў ды хмызняку, пацягнуліся сотні фурманак з лесам, цэглай, шклом ды вапнай.

Яго цэркаўка атрымалася даволі няўклюднай. Цяпер Альяш улічыў і гэта — наняў самых лепшых майстроў.

І вось зацюкалі тапары, зашоргалі пілы, застукалі жалезныя молаты па клінках, якімі калолі граніт на фундамент.

Дзень за днём рос новы пасёлак. Мабыць, даўно на вёсках Прынёманшчыны не будавалі нічога з такім пад'ёмам, не раслі так будынкі, не з'яўляліся калодзежы такімі хуткімі тэмпамі, не цікавіліся так будоўляй масы люду, не транжырылі попусту сілы, матэрыял і свой талент слонімскія пільшчыкі, беластоцкія цесляры, ваўкавыскія бляхары, муляры са старажытнага Крэва...

### 2.

Нарэшце, будаўніцтва Вершаліна падышло к канцу.

У першых дамах будучага раю памясціўся прарок з Тэкляй і «святой сядміцай». Апосталы пасяліліся са «святымі дзявіцамі», якія ўсё прыбывалі і прыбывалі ў Грыбоўшчыну.

Тым часам няўмольна блізіўся вызначаны непрадбачлівым пракорам жудасны дзень «канца свету». Веруючыя з хваляваннем чакалі і другога прыходу Хрыста. Дзядзька Альяш мусіў паклапаціцца, каб яго прароцтва здзейснілася хоць часткова.

Неабходна было знайсці адпаведную жанчыну, якая магла б нарадзіць «Ісуса Хрыста». Стаць ёю напрошваліся многія «актывісткі», што атакоўвалі сабобры ў гарадах і праславіліся ў абшчыне. «Святая рада» кандыдатак старанна агледзела, але забракавала. Новая дзева Марыя мусіла быць яшчэ і «непарочнай».

«Апосталы» і ўпаўнаважаныя аблазілі і абшарылі ўсю Заходнюю Беларусь» дайшлі нават да Валыні, покуль натрапілі на таго, каго трэба.

Для нараджэння сына божага выбралі дзябёлую, сінявокую прыгажуню з-пад Нараўкі — Альжбету Сабясюк. «Рада» ўважліва яе аглядзела і дала згоду.

Цяпер стала пытанне святога зачацця. Усе прыйшлі да вываду, што стары прарок да такой справы не прыдатны. Рада ўхваліла да маладзіцы дапусціць самага здаровага апостала — «Архіпатрыцыя».

І вось у Грыбоўшчыне наступіла адказная хвіліна.

У гэты дзень з самай раніцы ў вёсачку сцякалася незлічоная колькасць багамолаў. Людзі згрудзіліся вакол Вершаліна, пасталі на калені, зацягнулі малітву — «Вершалінскі гімн»:

Это место есть святое,
Она влечет нас всех сюда,
Собирает воедино
Крепка сила господа.

Наша церковь неземная,
Здесь управляет херувим,
Эта церковь золотая,
Это наш Иерусалим...

З'явіўся прарок, і песня абарвалася.

Побач з Альяшом — ні то з таямнічай, ні то з лёгкадумнай усмешкай на здаровым твары добра кормленага малатабойца лёгкай хадой крочыў кучаравы апостал «Архіпатрыцый». Па натоўпе пракацілася ажыўленне. Жанчыны з набожным жахам, са звычайнай бабскай цікаўнасцю зашапталі:

— Во, во, вядзе-е!...

— Гэ-эты!..

— Прыго-ожы!.. Валасы кучара-авяцца!..

Народ пачціва расступіўся, і Альяш павёў малайца ў запаветны дом, дзе чакала іх падрыхтаваная святымі дзявіцамі і бабкамі другая «маці божая».

Абодва мужчыны зніклі за дзвярыма. Натоўп застыў у напружаным чаканні. Званары наматалі сабе вяроўкі на рукі і пільна глядзелі праз акенцы званіцы ўніз.

Праз пару мінут да народа выйшаў адзін Альяш і сціпла спыніўся на ганачку. У наогул няласкавага,

Аляксей КАРПЮК




хмурага, амаль панурага чалавека, якім прарок бываў заўсёды, на гэты раз на твары прамянела цёплая ўсмешка дабрака.

Людзі працягнулі к дому рукі, дзе адбывалася святое таінства, і ашалела закрычалі:

— Ісусе, прыйдзі!

— Сыдзі з неба ў Альжбету, госпадзі!

— Выратуй нас, госпадзі!

— Выслухай сірот сваіх, госпадзі!..

— Убач слёзы, плач наш пачуй, госпадзі!..

— Святы божа, святы моцны, святы бессмяротны, злітуйся над намі!

— Блаславі святое чэрава, у якім будзе сын твой расці, блаславі сасцы, якія стануць яго карміць!..

Раптам звар'яцелы тысячагалосы натоўп, як раскаленай брытвай, паласнуў прарэзлівы жаночы віск:

— А-а!..

З грудзей тысячнай масы з аблягчэннем вырваўся стогн:

— Усё-о!..

— Бум!.. Цілім-цілім-цілім!..— памалу і ўрачыста панеслі навіну ў бязмежную даль званы.

— Свят, свят!..

— Дзякуй бо-огу!..

— Бом!.. Цілім-цілім-цілім!..

— Здзейснілася!

— Госпадзі, дзякуй табе, што нас ува-ажыў!..

— Бум!..

Ашалелыя бабы пападалі на траву, забіліся ў істэрыі. Альяш спакойна, нібы нешта такое ў яго Вершаліне адбывалася кожны дзень, патэпаў зноў у дом.

### 3.

Новая «маці боская» зажыла цяпер, нібы каралева. Святыя дзявіцы Альжбету паілі, кармілі, і ледзь не насілі на руках, а тысячы сектантаў ад Беластока да Вільні, ад Бельска да Навагрудка, ад Пастаў да Валыні маліліся за яе здароўе і паспяховае развіццё яе дзіцяці ў святым чэраве.

Гэтым часам у Вершалін прыбывалі ўсё новыя дзявіцы і падпарадкоўвалі сабе апошніх халастых апосталаў. На свет рыхтаваліся з'явіцца цэлыя касякі апасталят. (Некаторыя пасля пераджаніліся на святых дзевах, пазакладвалі сем'і, параз'язджаліся і гадуюць цяпер унукаў. Іншыя пакінулі малых без бацькоўскай апекі каратаць сваю сірочую долю ў пясках Вершаліна — да самага 1939 года). Прарок з гэтым прымірыўся: бяда не вялікая — здалося яму.

Самыя блізкія Альяшовы памочнікі таксама дарма хлеб не елі.

«Святая рада» надавуміла свайго шэфа ўсю работу «трэціх свяшчэннікаў» падмацаваць, як належыць, тэхнічнымі сродкамі. Галоўны яго рэдактар і тэарэтык — апостал Аляксандар Данілюк з Каменкі — закупіў амаль цалкам друкарні Мішэндзіка ў Беластоку і Каплуна ў Гродна ды масавымі тыражамі пачаў выпускаць сваю літаратуру.


Возвещаем вам Народи
Второе Пришествие Господа
нашего Иисуса Христа на
Землю.
Объявляю я всему Миру Весть
най дражайшую тоесть
Найдорощую Весть Дорощей
Вести за сию Весть нет восем
Мире

Фрагмент рукапісу Альяша.

Вось некаторыя назвы тых шэдэўраў: «Обращение Ильи пророка к Народу», «Церковь Новый Иерусалим устроенная по расписанию пророком Ильей», «Илья Пророк в Польше строит город Вершалин», «Указания Отца Ильи Пророка», «О скором конце света, страшном суде и новом пришестии Господня...»

Цяпер ужо не асобныя лістоўкі, як дагэтуль, а цэлыя кіпы брашур і кніжачак з «новай верай» разыходзіліся ва ўсе куткі праваслаўнай Польшчы.

І сам прарок не сядзеў, склаўшы рукі.

Ужо толькі пару месяцаў аддзяляла Альяша ад той хвіліны, калі людзі спілуюць дуб, каб прыбіваць свайго ідала да дрэва жалезнымі цвікамі, але дзядзька яшчэ не адчуваў ніякай пагрозы. Папярэднія поспехі настроілі прарока на дабрадушны лад, зрабілі бяспечным і ўпэўненым. Усе яму падпарадкоўваліся — і ладна. Ён разгортваў будоўлю, падарожнічаў па акрузе, час ад часу браўся ратаваць землякоў — тых блудных авечак, якія не прызнавалі яго веры, грашылі і каціліся проста ў пекла.

Паводле Альяшовага пераканання і згодна з яго «навукай» чалавек толькі той удастойваўся збавення на тым свеце, хто ўстрымліваўся ад раскошы і распусты. А гэтыя паняцці дзядзька з Грыбоўшчыны разумеў па-свойму.

Аднойчы ў Крынках ён закупіў у крамах усё пячэнне, адвёз за горад іываліў у канаву. Іншым разам, калі ў мястэчка прыбыў тэатр, Альяш выкупіў і парваў усе білеты. Трупа з поўнай касай, але без спектакля, вымушана была вярнуцца ў Беласток.

Кожнае сваё падарожжа дзядзька пачынаў звычайна з заезда ў Крынкі. Там Альяш са сваёй славутай на ўсю акругу конскай торбай заходзіў першым чынам у рэстаран да Хайкеля. Сваім людзям ён не давяраў, вартаўніком у Грыбоўшчыне быў у яго паляк Фэлікс Станкевіч, а сюды ён заўсёды прывозіў падбіваць касу. За шырмай у асобным закутку сын і зяць рэстараншчыка — яго сталыя лічыльшчыкі — вывaрочвалі торбу на стол і прыступалі да справы.

А ў гэты час у залі стары Хайкель здаволена прыслухоўваўся да ўзбуджаных галасоў за шырмай і чакаў кліентаў. Шустры ды чорны, як цыганёнак, пятнаццацігадовы яго памочнік майстраваў нешта ў шафе, што іграе. У дзвярах, якія вялі на кухню, тырчэла з пасудай Хайкелева нявестка. Распараная маладзіца выцірала талеркі і слухала ўзбуджаныя галасы за шырмай з такой насцярожнасцю і надзеяй, нібы там вырашалася справа яе жыцця і смерці.

У рэстаран уваліўся вялізнага росту, у даўжэзным кажуху і стаўбуністай шапцы свяшчэннік з Вострава — айцец Якаў. Хайкель паляцеў госцю насустрач, сівая галава яго ў чорнай ярмолцы схілілася да самага пояса:

— Дзень добры, пане бацюшка! Прошэ, прошэ!.. Даўно пана бацюшкі ў нас не было!..

З казлінай бародкай, з грубымі рысамі твару, скрыўлены айцец Якаў нядбайна паціснуў рэстараншчыку руку і густым басам паскардзіўся:

— Ад раніцы пякотка мучыць!.. Ратунку няма!.. Два піва, калі ласка!

— Сей мінут! — гаспадар залемантаваў на нявестку: — Голда, два піва дарагому госцю, чаго ты стаіш!..

Бацюшка толькі паспеў апусціцца на крэсла, пакласці шапку на падаконнік і расшпіліць кажух, як Хайкель паставіў перад ім заказ. Айцец Якаў узяўся за куфаль і ў гэты момант з чорнай, прадзіраўленай шашалем шафы з музычным апаратам металёвы голас прарэзліва заскрыгатаў цыганскі раманс:

О-чи че-ерные, о-чи жгу-учие...

Свяшчэннік адхлябнуў піва і нездаволена паківаў галавой. Хайкель адразу зрэагаваў:

— Мішугінэ, выключ!..

Малы шчаўкнуў апаратам, і ў пустым памяшканні зноў запанавала цішыня.

З-за шырмы даляцелі ўсхваляваныя галасы Альяшовых памочнікаў:

— Не засланяй мне стала, мо айцец Ілья паспяшае, і трэба хутчэй канчаць работу!..

— Хохэм балайлы!.. Мо табе і жыць перашкаджаю?!.

— Думаеш, айцец Ілья — дурань і не бачыць, што ты ўлез задам у акно?..

Паслухаўшы іх, бацюшка патрос бародкай, прабурчэў:

— Зноў прыехаў гэты святы д'ябал?..

— А мне — будзь ты святы, будзь грэшны, абы плаціў!..— пачаў тлумачыць Хайкель.

Бацюшка нядобразычліва агледзеў яго з ног да галавы, і рэстараншчык адразу папраўіўся:

— Зрэшты, я — бедны яўрэй, што магу зрабіць?!. Ай, і плата там такая — слёзы адны!..

Хвіліну яны памаўчалі, потым Хайкель загаварыў зноў:

— Айцец Якаў, расталкуйце вы мне, непісьменнаму і беднаму яўрэю, які пражыў ужо вось столькі год і так нічога і не разумее!.. Ну, ёсць на небе гасподзь бог, ёсць вера, ёсць рэлігія!.. Ёсць і святыя, вядома!.. Але пры чым тут гэты мужык, спытаю я вас?.. Магчыма, што прыйдзе і месія!.. Толькі ён будзе ехаць на белым кані і пакідаць залатыя сляды на пяску!.. З яго будзе ззянне прамянець!.. Але ж якое ззянне ад гэтага мужыка, ад яго смярдзючай вопраткі?.. Не разумею!..

— Пра што вы гаворыце, пане Хайкель! — адразу ажывіўся бацюшка.— Месія ўжо аднойчы прыходзіў і болей не з'явіцца да самога страшнага суда!.. А гэта ёсць ашуканства і ерась! — паказаў ён на шырму з нянавісцю і абурэннем.— Некалі такіх на вогнішчы палілі!..

Перакуліўшы кубак сабе ў рот, бацюшка перадыхнуў і загаварыў з перакананнем:

---

Працяг. Пачатак у нумарах за 15, 22 і 29 студзеня г. г.

— Калі спасіцель рабіў свае цуды ў Галілеі, і то тады не было такога стаўпатварэння, як у гэтай задрыпанай Грыбоўшчыне... І не ў дакор вам будзе сказана, калі вашы суайчыннікі нашага господа расспялі, я заўсёды абураўся жорсткасцю гэтага ўчынку — пакараць можна і іншым спосабам. Але, калі я бачу такое безабраззе, я б і сам гэтага д'ябла расспяў на крыжы, даруй мне, госпадзі, калі я няправільна падумаў! — перахрысціўся бацюшка.— Я бы ўласнымі рукамі цвікі яму забіваў у паганае цела, даруй мне, госпадзі!..

— Ой, што вы гаворыце, айцец Якаў?! Які б ні быў ён, але ж хіба можна заганяць цвікі ў жывога чалавека?

— Гэта — сатана, нячысты, а не чалавек!..

— Вы толькі так гаворыце. Бо я ведаю па сабе — каб дайшло да гэткай справы, у мяне не хапіла б смеласці!

Бацюшка зняважліва паўзіраўся на рэстараншчыка:

— Што-о?!

— І таму я думаю — казка ўсё тое, што кажуць пра яўрэяў, нібы яны распялі Хрыста!.. Не маглі нашы гэтага зрабіць. У жывога чалавека заганяць цвікі?.. О-вэй! Мы нават курэй не рэжам, робіць гэта ашэйхэт!..

— Зрэшты, яўрэі і не распіналі. Яны толькі крычалі «распні яго, распні!..» Распіналі рымскія салдаты. І ўсё гэта было ад госпада бога. Бо ні адна пылінка, ні валасінка не ўпадзе без яго волі. Таксама і рымскіх легіянераў господзь наслаў!

— Як вы сказалі?! — надта здзівіўся рэстараншчык.— Рымскія салда-аты?!

Але бацюшка перажываў сваё. Ён ускінуў свае магутныя ручышчы к небу і блiснуў здаровымі бялкамі вачэй:

— Госпадзі ўсяміласцівы і ўсясільны, калі ж ты пашлеш сваіх легіянераў сюды, каб пакласці канец гэтаму паскудству, якое разводзіць грыбоўшчынскі д'ябал і сатана?!

З закутка ў зашмальцаванай світцы і ў заскарузлых ботах выйшаў Альяш. Дзядзька, ні на каго не ўзіраючыся, не прамовіўшы ні слова, паклаў перад Хайкелем на стол пяць злотых і няўклюдна павалок сваю торбу на вуліцу.

Спрачаючыся, ажыўлена вымахваючы рукамі, з-за шырмы выскачылі Хайкелеў сын і зяць. Голда вычытала на твары мужа добрыя весткі і, шчаслівая, знікла на кухні. Хайкель на хвіліну забыўся пра бацюшку, з непрыхаванай зайздрасцю і захапленнем адзяліў абодвух хлопцаў фартухом і сказаў:

— Мішугінэ, ідзіце абедаць!..

Калі за мужчынамі зачыніліся дзверы, бацюшка выбухнуў яшчэ большай злосцю:

— Зноў папёр міласціну і слёзы тысяч нашых веруючых!.. І пайдзі, зразумей, што гэты д'ябал будзе цяпер з гэтымі грашыма рабіць: купляць цукар і сыпаць у пясок?.. Выбіраць матэрыял па крамах і нішчыць?! Бандыт!.. Усе цэрквы абрабаваў!.. Чытаў, пане Хайкель, у газеце ўчарашняй? Зноў гэтага нячыстага ўрад узнагародзіў ордэнам! Другім ужо! А пісалі настаўнікі, фэльчары, ветэрынары, леснікі пра гэтага абармота самому прэзідэнту Масціцкаму — ніякага выніку!..

— Начальству відней, каму ордэн даваць, каму не, мы — людзі маленькія! — ухіліўся асцярожны рэстараншчык.

Айцец Якаў пазіраў у акно.

На вуліцы ля фурманкі з драўлянымі восямі і лазовымі атосамі тоўпіўся народ. На вазок няўклюдна ўзбіраўся Альяш і масціў пад сябе торбу. Два паліцыянты адціскалі ад прарока жанчын ды ўважліва сачылі, каб гарадскія хуліганы не пакрыўдзілі старога абразлівымі словамі, каб багамолкі, цалуючы старога ў ногі, не павалілі прарока на брук.

— Божа правы, усё ты гэта бачыш, дакуль будзеш цярпець, каб тваю законную веру папіралі розныя прайдзісветы?! — бацюшку аж разрывала ад абурэння...

Альяш тым часам ехаў ужо ў другое месца — да надлясніцтва.

У даверасненёўскай Польшчы лес быў надта дарагі. Сасну мужыкам прадавалі толькі трэцяй і чацвёртай катэгорыі. Аднаму Альяшу, нібы якому купцу з Бельгіі, дрэва адпускалася першага гатунку. Затое кожны прыезд прарока ў Студзянскае надлясніцтва прыносіў туды свята, і ляснічыя гублялі ад шчасця галовы.

Было чаго ім радавацца.

Тую самую торбу, з-за якой рабіў не малы круг, спецыяльна заязджаючы ў Крынкі, дзядзька прывалакаў у кантору надлясніцтва і вывальваў з яе на стол.

Як пасля гэтага Альяша зразумець?

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### 1.

На прарока абрынулася паласа няўдач.

Прайшлі ўсе тэрміны, а другая маці боская дзіцяці не нараджала. Па яе вонкавым выглядзе і дурань мог вызначыць, што яна нікога ўжо не народзіць. Найбольш цвярозыя альяшоўцы пачалі заўважаць, што кабеціна крыху бы звар'яцела (псіхічна хворая Альжбета Сабясюк, кажуць, і цяпер яшчэ жыве пад Нараўкай!)

Альяшу давялося прымірыцца з фактам і рабіць выгляд, што нічога не адбылося. Зрэшты, у яго цяпер быў новы клопат — блізілася дата, вызначаная ім на канец свету. Яго абшчыну памалу агортвала ліхаманка.

За апошнія паўтара стагоддзі сотні тысяч сялян Заходняй Беларусі паехала шукаць лепшае долі ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Каму ўдалося там зачапіцца, той стараўся не парываць сувязі з роднай зямлёй і час ад часу што-небудзь прысылаў.

Найбольш прыбывала з-за акіяна «Біблій».

Гэтай кніжкай эмігранты так наваднялі нашы сёлы, што яе можна было знайсці ледзь не ў кожным доме. І найчасцей гэта была адзіная кніжка ў сям'і. Шмат сялян па ёй вучылася чытаць. Іншы дасціпны дзядзька вывучаў за святы і доўгія зімнія вечары «Біблію» ледзь не напамяць і верыў усяму, што было ў ёй напісана.

Пра канец свету чорным па белым было надрукавана ў «Бібліі». Нарэшце, вуснамі свайго прарока Ільі бог вызначыў і дзень. Людзі захваляваліся.



Святая тройца — Альяш, Якуб і Максім.

Некаторыя сяляне з-пад Вілейкі, Гродна і Беластока пачалі нагвалт прадаваць свае дамы, гаспадаркі, нават крамы і млыны — усё, што не возьмеш на той свет з сабой.

Справіўшыся з гэтым клопатам, няшчасныя людзі запіхвалі грошы за пазухі, бралі дзяцей і харчы на дарогу і ішлі ў Грыбоўшчыну — да святога Вершаліна.

Мабыць, такіх дзівакоў было шмат, бо спецыяльная машына адно паспявала вазіць мяшкі грошай у Сакольскую ашчадную касу, куды Данілюк угаварыў Альяша іх аддаваць.

Судны дзень выпаў на канец чэрвеня, калі стаяла цёплае надвор'е. Шмат вопраткі з сабой людзі не бралі. Усе былі ўпэўнены, якім ты прыйдзеш у рай, такім застанешся назаўсёды. Туды ўвогуле нічога не бралі. Навошта? Там нават не трэба мыцца і чысціцца, бо каб і хацеў дзе запэцкацца, няма дзе.

У той дзень на выган перад вёсачкай сцякаліся і сцякаліся сотні ўсхваляваных людзей. Яны сядалі на мурог, развязвалі клункі і апраналі чыстыя кашулі, мылі ногі, нацягвалі самае лепшае адзенне дзецям. Паголены, памаладзелы і падцягнуты, у вышыванай і свежа выпрасаванай касаваротцы, з «Бібліяй» у руках сярод натоўпу насіўся Данілюк.

Розныя цуды бачыла Грыбоўшчына, але такога яшчэ ў ёй не было.

Хоць вяскоўцы мусілі збірацца на сена, капаць торф, аднак большасць з іх не маглі стрымаць цікавасці і на выган сышлася ледзь не ўся вёска.

Ап'янелая бабка Піліпіха выхвалялася:

— І вось, людцы вы мае, нарэшце настае час, калі господзь бог кліча нас да сябе! І будзем там цяпер мы жыць, як птушачкі палявыя, каторыя не аруць, не сеюць і не жнуць, а ўсяго ім хапае, бо клапоціцца пра іх сам цар нябесны!..

Грыбоўшчынцы на гэты раз былі так уражаны, што ніхто з іх не прамовіў і слова. Зрэшты, гаварыць што-небудзь насупроць было небяспечна. Вялізны натоўп, гэтыя сотні рашучых, дужых і сур'ёзных мужыкоў ды баб, таго, хто адважыўся б перашкодзіць падрыхтоўцы да таінства, разарваў бы на шматкі.

### 2.

Пад вечар вялізная гурба разадзетых багамолаў, пакінуўшы на выгане непатрэбныя ўжо хусткі, світкі, посуд, ежу, па-святочнаму чынна і ўрачыста накіравалася да святыні. Грыбоўшчынцы і да сённяшняга дня апавядаюць пра каларытныя сцэны, што адбываліся тады ля цэркаўкі.

Самыя адпетыя фанатыкі, прыбыўшы на ўзгорак, адразу распласталіся крыжам на зямлі і чакалі ў здранцвенні суднай гадзіны. Іншыя рыхтаваліся да яе дзелавіта і спакойна, як гаспадары рыхтуюцца да вяселля ці хаўтур.

Практычны дзядзька павучаў жонку:

— Глядзі, Соня, дзяцей, каб не надта перапалохаліся, як пачне грымець, бліскаць і зямля валіцца! І сама не бойся! Калі ўсё ўжо распачнецца, то стань і — ні з месца! Народу будзе многа, але нас бог не кране!

Побач саракапяцігадовы няўклюда, першы раз цалуючы жонку, з дрыжаннем у голасе казаў сваёй палавіне:

— Ну, Нюрка, жылі мы з табой душа ў душу дваццаць гадоў, а цяпер давай развітвацца. Хто ведае, ці ўбачымся на тым свеце болей!

— Выходзіць, мы там будзем не ра-азам?!.— абуралася кабета.— Ты хочаш ад мяне пазбавіцца? Ці ў цябе такі грэх, што ў пекла ўжо рыхтуешся? Кажы! Маўчыш? Я перад табой чыстая, як перад госпадам богам!

— Ну, скажу табе, браце, калі жонак там не адлучаць ад мужыкоў, то і рай будзе не рай! — ні то ў жарт, ні то ўсур'ёз казаў няўклюдзе сусед.

У іншым месцы мужык пытаўся ў кабеты:

— А гэта што ў цябе?

— Маткі.

— Навошта іх бярэш?

— Буду сабе вязаць там!

— У ра-аі-і? Вяза-аць? Ці ты здурэ-эла?

— Воўна надта харошая! Такая мя-аккая, і хварба добра ўзялася, шкода выкідваць!

— Не смяшы людзей!

— А я там схаваюся дзе-небудзь за пальму ці смакаўніцу! Бо сумна будзе нічога не рабіць!

— Нагаравалася за жыццё, хо-піць! Мы з табой варты другога! Ведаеш, як нас там будуць спатыкаць? Якое блажэнства нас там чакае? Не да вязання табе там будзе! Выкінь зараз жа гэтыя ніткі!

— Я іх узяла зусім мала, пару мато-очкаў, гэта ж воўна з нашых аве-ечак! — упрошвала баба свайго чалавека.

Далей жонка прызнавалася мужу:

— Ой, няўжо я маму пабачу? Якая яна цяпер? Мама памерла, калі мне было пяць годзікаў!.. У мяне і то дзеці старэйшыя!..

— Што зробіш — на небе людзі не мяняюцца! — разважыў муж.— А я ўсё думаю пра бацькавага дзеда. Яшчэ з турэцкай вайны прывёз, казалі, збаночак срэбра і закапаў яго перад тым, як самога мядзведзь задраў. Я перарыў усё наша поле. Цікава будзе спытацца ў яго, куды ён усё ж такі яго сунуў? Але, кажуць, стары здорава грашыў, і можа быць у пекле.

— Думаеш, адтуль нельга будзе ніяк выйсці?

— Калі ўжо трапіў хто туды — капу-ут!

Побач нейкая кабеціна ўспомніла, што яна замужам за ўдаўцом і ўзняла лямант:

— Як я буду жыць на тым свеце, там жа з'явіцца і твая першая жонка?! — напала яна на мужа.— Вядома, Гандзя маладзейшая, і ты мяне кінеш. Пакінеш, га?!

Знайшлі Данілюка. Той іх выслухаў і супакоіў. Апостал Аляксандар з Каменкі адкрыў «Біблію» і вычытаў з Евангелля ад Мацвея, што на небе не жэняцца, не выходзяць замуж, а прабываюць усе, як божыя ангелы.

— А мяне разбірае страх, калі я падумаю, што трэба будзе ляцець на неба! — прызнавалася другая кабеціна свайму чалавеку.—Я ж нават на гару за бялізнай баялася лезці, цябе заўсёды пасылала. А то — на такую вышэнь!..

— Мілая, архангелы возьмуць цябе пад рукі і панясу-уць, панясу-уць, бы тую карале-еву! — супакоіла цётку Піліпіха.

— Хіба што!..— яшчэ з рэшткамі страху, але ўжо і ўсхваляваная ад шчасця, якое яе чакае, расквітнела ўсмешкай стомленая ад непасільнай працы і недасыпання кабеціна.

А каля іх абуралася іншая:

— Волесь, глядзі, вунь і Палося Кавалёва тут. Падумай толькі, і гэтая рэзгіня прыперлася, і яна таксама хоча спазнаць царства нябеснага!..

— Там нікога не ашукаеш, усіх наскрозь убачаць і разбяруцца — каго ў рай, каго ў пекла! — супакоіў яе муж.

— А я змагу бачыць, як гэтая выдра будзе мэнчыцца?

Сур'ёзны дзядзька, які ўсё чуў, заўважыў:

— Шчасце ў раі было б не поўным, калі б адтуль мы не змаглі назіраць за пеклам, бачыць і радавацца, як грэшнікаў пажыраць будзе вечны агонь!

— Хопіць табе!..— абарваў няпрошанага памочніка нездаволены муж і накрычаў на жонку:— Толькі ты выкінь з сябе гэтую гардыню! Хрыстос умеў даравацъ нават сваім ворагам! Цяпер мы ўсе роўныя. Во, дзіця ўлезла ў нешта!..

І жанчына, якая злавала на суседку, кінулася да малога:

— Янaчка, на каго ты падо-обны? Ці табе не гаварыла — не пэцкай касцюмчыка, нікуды не лезь..

Стомленыя за дзень, малыя пачалі капрызнічаць, плакаць, ніякая сіла іх ужо не магла ўтрымаць ад сну. Мужчыны тады навалаклі з вёскі саломы, паклалі дзяцей цесна адзін каля аднаго пад адкрытым небам.

Заканчэнне ў наступным нумары.

*МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ*

# З ПРАГРАМАЙ ЦІКАВАЙ, РАЗНАСТАЙНАЙ

У канцэртнай зале сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі адбыўся вялікі адкрыты канцэрт навучэнцаў. Праграма канцэрта вызначалася насычанасцю і разнастайнасцю: перад слухачамі выступілі хор хлопчыкаў (кіраўнік І. Жураўленка), хор старэйшых класаў (кіраўнік М. Жураўленка), піяністы, скрыпачы, цымбалісты, баяністы.

Асабліва цікавым было выступленне хору хлопчыкаў. Яго рэпертуар уключаў харавыя п'есы Танеева, Мурадэлі, Бірнова, Брытэна, а таксама апрацоўку беларускіх народных песень, таленавіта зробленую І. Жураўленкам. Яркая падача кантрастных па характары вобразаў, чысціня і стройнасць гучання характэрны для гэтага маладога (ва ўсіх адносінах) калектыву. Слухачоў уразілі празрыстасць фактуры, паэтычнае гучанне хору ў «Сасне» Танеева на тэкст Лермантава, урачысты вобраз, яснасць голасавядзення п'есы Брытэна «Сардэчна запрашаем». Выразнасць выканання, падгалоскаў у апрацоўках беларускіх народных песень сведчыць аб высокім артыстызме і майстэрстве юных выканаўцаў, што таксама з'яўляецца бясспрэчнай заслугай І. Жураўленкі. Сярод астатніх удзельнікаў канцэрта найбольш удалымі былі выступленні піяністак XI класа Г. Міхеевай (клас выкладчыка М. Валодзінай) і В. Нікалаевай (клас выкладчыка Э. Альтэрман). Міхеева, якая сыграла эцюд Пракоф'ева рэ-мінор і эцюд-карціну Рахманінава мі-бемоль-мажор, прадэманстравала высокі ўзровень тэхнічнай падрыхтоўкі, прадуманасць, яркасць прачытання музычных вобразаў. Нікалаева выканала прэлюдыю і фугу рэ-мінор Шастаковіча — адзін з самых складаных па задуме і музычнай мове твораў цыкл «24 прэлюдыі і фугі». Суровы велічны вобраз прэлюдыі, жалобна-сканцэнтраваны каларыт фугі набылі глыбокую і пераканаўчую трактоўку. Ігра Нікалаевай вызначалася тэмбравай разнастайнасцю, шырынёй, маштабнасцю ахопу твора.

Менш удалым было выступленне скрыпачкі XI класа Г. Гакменінавай (клас в. а. прафесара М. Гальдштэйна). У яе выкананні рамансa фа-мажор Бетховена не хапала шырыні меладычнага дыхання, глыбіні гуку. Хацелася б пажадаць скрыпачцы большай свабоды і ўпэўненасці ў валоданні інструментам.

З вялікай цікавасцю было сустрэта выступленне выпускніцы школы Н. Гусевай, якая выканала варыяцыі Камінскага для цымбал. Паэтычна, вельмі выразна прагучала асноўная тэма твора ў характары лірычных народных напеваў; складаныя ў тэхнічных адносінах варыяцыі, заснаваныя на багатым арнаментальным вар'іраванні тэмы, таксама ўдаліся Гусевай.

У заключэнне канцэрта ансамбль скрыпачоў школы (кіраўнік — М. Гальдштэйн) выканаў «Менуэт» і «Турэцкі марш» Бетховена.

Я. СКУРКО.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

**Савось АВОСЬ**

# ДЗЕ ПЕГАС ПАСЕЦЦА?

*Рэпартаж з Алімпа спецыяльна для «ЛІМа»*

**У САЮЗЕ ЁСЦЬ ЛІТФОНД**

**(памаўчым на гэты конт!)**

Чулыя кіраўнікі,
Быццам родныя бацькі,
Росцяць маладых,
Бядуюць,
Гнёзды
Песнярам будуюць.
Размяркоўваюць пуцёўкі.
Тут і ў ясны дзень —
Пацёмкі!

Клопаты.
Размах вялікі!
Захацелася пазыкі —
Да сяброў звярнуцца раяць.
І зімой не вырвеш лёду!
А дырэктары згараюць
На рабоце
Год ад году.

Неспакойная пасада!
Дыхае над вухам звада.
Быццам бы Везувій,
Крэсла, —
Сцеражыся,
Каб не стрэсла!
Не ўтрымаешся,
Калі ты
Густ не ведаеш
Масцітых.

...Рушаць лавай
Маналітнай
Класікі,—
Забудзеш сон! —
Як настане аксамітны
Найжаданейшы сезон.
...Як вярці,
Як ні круці —
Ёсць нявесткі,
Ёсць зяці!
Зразумела,
Што сумесна
Жыць масцітым
З імі цесна.
Маладое пакаленне
Патрабуе пашырэння.
Заікнецца малады,
Член СП, вядома...
— Малады!
Такой бяды —
Мы не мелі дому!
— Паступова ўсё ўтрасём!
— Мы калісьці з Петрусём
Нават галадалі! —
Нехта прыгадае...

Пачынаюцца дэкады —
Хоць адмоўся
Ад пасады!
Гэта
Марныя трывогі!
Будзе ўсё —
І шум,
І дым, —
Трэба трохі дапамогі
З фонду
Самым маладым!
Як увесь не пракаўталі
Гэты самы фонд,
Тады
У апошнім
У квартале
Падганяюць халады.

Лістапад
Хваліцца рад —
Ён збірае
Шмат
Нарад.
Снежань — лежань
Згусціць хмары —
У разгары
Семінары!
Вучацца
«Семінарысты»:
Драматургі,
Сцэнарысты,
Мастакі
І цыркачы.
Дзе харчы,
Там і тарчы!
Вырашаюцца пытанні!
Быў бы семінар
Даўно
Па фігурнаму катанню,
Ды няма катка
Адно!
. . . . . . . . . . . . .
О, Літфонд!
Твае рашэнні
Мудрыя,
Я шчыра веру, —
Бо паседжанні праўлення,
Быццам
тайная вячэра!..

Праця. Пачатак у нумарах за 21, 28 жніўня, 4 верасня 1970 г. і 29 студзеня г. г.

**Б. ВІНАГРАДАЎ**

# МІМАХОДЗЬ

У дзень нараджэння сябра ён прыносіў торт, які хутка з'ядаў за сталом.

□

Ён любіў рукапісы толькі сваіх твораў.

□

Прачытаўшы аб тым, што смех падаўжае жыццё, ён смяяўся нават на пахаваннях.

□

На яго галаве не было ніводнага воласа, але ўсё ж ён часта гаварыў: «У мяне валасы дыбарам усталі!»

□

Работа хай сабе бяжыць у лес, абы засталася ведамасць на зарплату.

**Павел ШЫБУТ**

# ШРАЦІНКІ

*Кепскі той кот, якога прымушаюць лавіць мышэй.*

□

*Дазвольце дурню выступіць, і ён знойдзе, што сказаць.*

□

*Лаўровы вянок яму быў не па галаве: яго плялі без прымеркі.*

□

*На наша шчасце ён спатыкнуўся, а то перавярнуў бы зямлю.*

□

*Слова — не верабей, не зловіш. Але ж яго можна і не выпускаць.*

□

*Спявак узяў такую высокую ноту, што ў зале яе не пачулі.*

**Аляксандр АЛЯКСЕЙЧЫК**

# ГРЫП

У САМЫ разгар зімы ў горадзе пачалася эпідэмія грыпу. Наша кантора неадкладна ўключылася ў грыпозную гарачку. Кожны дзень мы недалічваліся сваіх супрацоўнікаў.

Прафсаюзная каса сохла на вачах — кожнаму трэба было насіць у бальніцу перадачы. Тыя, што засталіся на месцы, увесь час чыхалі, глыталі таблеткі і дзяліліся парадамі. Менш вынослівыя захворвалі, аб'еўшыся парашкамі.

Я рэгулярна прымаў па дзве-тры таблеткі для прафілактыкі і неяк трымаўся.

Аднойчы на работу з'явіліся толькі наш кадравік і я. Мы пагутарылі пра тое-сёе, і загадчык аддзела кадраў, чыхнуўшы разоў дваццаць, пайшоў хварэць дадому.

Я застаўся адзін. Схадзіў у бальніцу, праведаў зага і таварышаў. Заг падпісаў загад аб тым, што я прызначаюся часова выконваючым яго абавязкі. Я пайшоў дахаты падзяліцца з жонкай гэтай часовай радасцю.

На другі дзень мне «зверху» далі вымову за тое, што кантора не падала своечасова справаздачы. Не паспеў ачуняць, як прынеслі загад аб скарачэнні штатаў. Скарачаць сябе рука не паднялася—скараціў прыбіральшчыцу. Пасля абеду прыехала камісія нешта правяраць. Потым мяне выклікалі ва ўпраўленне. Пасля паслалі ў камандзіроўку. Яшчэ пасля — на канферэнцыю.

Дамоў я ўжо не хадзіў, з жонкай парваў. Раніцой я прымаў наведвальнікаў, атрымліваў пошту, займаўся скаргамі, пісаў загады і сам жа іх выконваў. З кожным днём працаваць станавілася ўсё цяжэй.

«Хаця б захварэць», —думаў я. Але грып мяне не браў. Наведваючы хворых сяброў, я знарок ручкаўся з імі, нават цмокаўся, але нічога не атрымлівалася.

На маім рахунку было ўжо сем вымоў і тры апошнія папярэджанні, некалькі дробных спагнанняў. Я страшэнна схуднеў, знаёмыя мяне не пазнавалі, незнаёмыя саступалі месца ў трамваі...

Чым бы ўсё скончылася — не ведаю, калі б раптам не вярнуўся загадчык. Потым адзін за адным вярнуліся астатнія супрацоўнікі. Нават загадчык аддзела кадраў, які захварэў апошнім. Няйначай ад радасці ў мяне забалела галава. Пайшоў да ўрача. Ён выслухаў мяне, выпісаў бюлетэнь і сказаў:

— Грып — справа сур'ёзная. Пасцельны рэжым, даражэнькі!

**Мікола НАВІЦКІ**

# РУБЛЁВАЯ РАЗМОВА

— Прывітанне, дарагі!

— Здароў! Ого, на табе ўсё новае!

— Ага. Касцюм — 150, кашуля — 30, капялюш — 15.

— Адкуль? Не з тэатра?

— Ага. Сядзеў у першым радзе за два пяцьдзесят.

— Як маешся? Як жыццё-быццё?

— А дзякаваць богу. Стаў зарабляць на 100 больш.

— Цікавая работа?

— А нішто. Прэміяльных 50.

— Дома ўсё добра?

— Ага. Старэйшы палучае 200, малодшаму стыпендыю 40 даюць.

— У адпачынак не збіраешся?

— Збіраюся, але не ў сезон. Так на трэць танней.

— Ну, бывай! Усяго добрага!

— Табе таксама. Выйграй што-небудзь па латарэі. Хоць бы матацыкла — на тысячы дзве.

# А ШТО, БРАЦЕ, НА ТВАІМ ЦЫФЕРБЛАЦЕ?..



Малюнкі Уладзіміра Майсеева друкуюцца ў нас упершыню. Адрасуючы іх чытачам «Вясёлай трасянкі», ён падмацаваў іх аўташаржам і такімі словамі пра сябе: «Нарадзіўся 30 гадоў назад. У дзяцінстве быў невыносным «рыштантам» і маляваў левай рукой. Зараз—інжынер, жыву ў Мінску і працую ў Інстытуце тэхнічнай эстэтыкі. Малюю з 1963 года. Датуль—гаварыў. Мяне не вельмі разумелі. Тады я змоўк і стаў маляваць. Сябры кажуць, што так — лепш. Калі праўда — то няхай».












«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісы не вяртаюцца.







Індэкс 63856 AT 07565